# Канстанцыя Буйло

# ...Кодціца рэха

**Вершы,
паэма,
лісты**

**МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1993**

## ЯЕ КРАМЯНІСТЫ ШЛЯХ

Канстанцыя Буйло была сучасніцай Цёткі, Максіма Багдановіча, Ядвігіна Ш., Алеся Гаруна, Янкі Купалы і Якуба Коласа... Была яна і нашай сучасніцай, але мы не цанілі гэтага шчасця, пакуль яна жыла, не да канца ўсвядомілі месца паэтэсы ў беларускай літаратуры і пасля яе смерці. Мы не паспяваем або яшчэ не адчулі неабходнасці аддаць належнае кожнай асобе, якая прычынілася да стварэння айчыннай літаратуры. Канстанцыя Буйло, рана ўсвядоміўшы сябе асобай і вызначыўшы сваё месца ў грамадстве, стала ў шэрагі паэтаў, пра якіх Янка Купала ў артыкуле «Чаму плача наша песня» пісаў, што яны з малаком абняволеных і абнядоленых матак увабралі ўсё гора свайго народа. І калі ўжо з'явіўся паэт у такога народа, ён гаворыць пра тое, што накіпела ў яго душы «праз доўгія гады цярпення і акружаючай беспрасветнай нядолі».

«Курганная кветка» — першы паэтычны зборнік Канстанцыі Буйло, які выйшаў у 1914 годзе, быў сустрэты прыхільна і добразычліва ў друку, знайшоў свайго чытача ў беларускіх вёсках.

Паэт — дзіця сваёй эпохі. Канстанцыі Буйло давялося жыць і працаваць у некалькіх вымярэннях, аднак да яе гонару варта сказаць, што яна ўмела пісаць толькі пра тое, што адчувала, што шчыра любіла, што — з такой жа перакананасцю — не прымала. У простых і задушэўных вершах паэтка быццам расказвала пра сябе, пра сваю бязмежную любоў да Беларусі, якая і на адлегласці давала ёй сілы жыць...

У 1993 годзе — стогадовы юбілей Канстанцыі Буйло. Архіўная даведка з дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы сведчыць, што «ў дакументах архіўнага фонду «Віленская рымска-каталіцкая кансісторыя, Віленскі дэканат», у кнізе запісаў аб нараджэнні ёсць запіс, што 17 студзеня 1893 г. у Віленскім р-к касцёле св. Якава было ахрышчана дзіця па імені Канстанцыя, дачка сялян Антона і Настэзіі (народж. Бусілаў) Буйлаў, якая нарадзілася 2 студзеня 1893 г. у г. Вільні».

Гэта дата, мусіць, здзівіць тых, хто зазірне ў пісьменніцкія даведнікі і энцыклапедыі, дзе напісана, што паэтэса нарадзілася 30 снежня 1898 года. Так сталася, што толькі пасля смерці Канстанцыі Антонаўны ў 1986 годзе можна было ліквідаваць недакладнасці, звязаныя з годам і месцам яе нараджэння. Сталі вядомымі новыя факты і падрабязнасці яе доўгага, «складанага і горкага», як гаварыла паэтэса, жыцця. Не будзем залішне строгімі, а пастараемся зразумець, што прымушала К. Буйло быць стрыманай, расказваць пра сябе толькі тое, што не прынясе бяды ёй самой і блізкім ёй людзям.

У 1976 годзе ў адказ на прапанову сястры Іны Антонаўны разам

напісаць для дзяцей і ўнукаў успаміны пра сям'ю Канстанцыя Антонаўна адказала пранізліва-адчайным лістом (верасень 1976 г.), які па настойлівай просьбе яе сына Яўгена Вітальевіча Калечыца змяшчаецца ў гэтым зборніку.

«Выхвастаць сябе публічна, нават пасля смерці, няпроста,— пісала Канстанцыя Антонаўна ў той жа час яшчэ ў адным лісце да сястры, успамінаючы дзяцінства.— Мне не хочацца паказваць тую безвыходную карціну знявагі, гора, галечы і жаху, адкуль мы выйшлі. Мы ўвесь час імкнуліся быць як людзі. Мы не раскрывалі жахлівай сутнасці нашага быцця, мы саромеліся яго. А цябе я благаслаўляю на гэту працу».

Пасля Іны Антонаўны Буйло, якая памерла восенню 1991 года, засталося некалькі вучнёўскіх сшыткаў, спісаных буйным почыркам, вельмі падобным на почырк старэйшай сястры. Непасрэдна, шчыра і не без таленту яна расказала пра бацьку і маці, старэйшых і малодшых сваіх братоў і сясцёр. Незаконнанароджаны, беззямельны селянін Антон Куйло ажаніўся з такой жа беднай літоўскай дзяўчынай Настассяй Бусілаў (Бусел). У іх нарадзілася сямёра дзяцей, дзве дзяўчынкі памерлі малымі, сын Эдзюк загінуў у час імперыялістычнай вайны, Стася была кіраўніцай дзіцячага прытулку ў Гродне і памерла ад сухотаў у 20-я гады. Сям'я выстаяла ў беспрасветнай беднасці дзякуючы сваёй надзвычайнай працавітасці, здольнасці не апускаць рук у самых, здавалася б, безвыходных сітуацыях.

Мы — вольныя арлы, Радзімы нашай дзеці,
Хто мае права нас нявечыць, зневажаць?
Мы — вольныя арлы, з адвагай і надзеяй
Мы волю к барацьбе павінны прабуджаць
За шчасце, за жыццё!
І хай ніхто не смее
Магутную руку бяссільна апускаць! —

пісала Канстанцыя Буйло ў вершы «Да працы», і гэта быў заклік да такіх жа абяздоленых, загад сабе самой не здавацца, як бы цяжка ні складваліся абставіны.

Усе Буйлы, пачынаючы з бацькі, былі людзьмі гордымі, духоўна незалежнымі, і ад гэтага часта мелі залішне клопату.

Не толькі служба панскага аб'ездчыка (Антон Буйло змяніў шмат пасадаў) прымушала сям'ю пераязджаць з месца на месца. Ён не спускаў сваім гаспадарам знявагі і несправядлівасці, не лез у кішэню па слова, бунтаваў сам і падбухторваў сялян. Антон Аляксандравіч працаваў старшым конюхам у скакавых стайнях князя Гагарына, аб'ездчыкам у графа Тышкевіча, у Адравонжу даглядаў разарый, працаваў учотчыкам на цагельні, быў добрым паляўнічым, рабіў чучалы жывёл і птушак, майстраваў музычныя інструменты, у тым ліку і для свайго сямейнага аркестра, лячыў дзяцей, займаўся пчалярствам... Вільня, Маладзечна, Сугвазды, Барсуковіна, Радзейкова, Вішнева (Адравонж), Ірэнёва, Зазер'е, Скрыдлёва, Дыманова — мясціны, па якіх пралёг шлях Антона Буйло і яго сям'і. Гэта было цыганскае, часам амаль жабрацкае жыццё. На двух вазах умяшчаўся ўвесь немудрагелісты скарб, на дарожных калдобінах білася і ламалася апошняе. «Новы дом, а ўся

бяда старая»,— пісала пра сваё маленства ў аўтабіяграфічнай паэме «Па траскіх гацях» Канстанцыя Буйло. Паэма была напісана яшчэ ў 1957 годзе, урыўкі з яе паэтэса рашылася апублікаваць больш як праз дваццаць гадоў. Зноў-такі таму, што твор вельмі асабісты, вельмі шчыры.

Адной з галоўных прычын горкай сялянскай долі Антон Буйло лічыў непісьменнасць народа. Сам ён умеў чытаць і ўсіх дзяцей прыахвоціў да чытання. Костачка, як звалі Канстанцыю Антонаўну ў дзяцінстве, была жывая, энергічная і здольная дзяўчынка. Чытаць навучылася рана і калі да бацькі прыязджалі леснікі, бойка чытала ім уголас газеты.

Пісаць таксама пачала вельмі рана. Спачатку гэта быў дзённік (як і многа пазнейшых запісаў, яна знішчыла і яго), у які яна кожны дзень запісвала ўсё, што адбывалася дома, потым пачала пісаць вершы. Строгая маці хутка зразумела, што яе ўлюбёнка не такая, як астатнія дзеці, і не сварылася за спаленую газу. Бацька выпісваў дзіцячыя часопісы, «Нашу ніву», часта на апошнія грошы купляў кнігі. У доме былі творы Шаўчэнкі, Міцкевіча, Лермантава, Дастаеўскага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Мацея Бурачка. Беларускі краязнавец Генадзь Каханоўскі выказвае меркаванне, што з Бурачком — Францішкам Багушэвічам — Антон Буйло быў асабіста знаёмы.

Менавіта кнігі далі Канстанцыі веды і пісьменнасць, адкрылі вочы на шырокі свет. Пад уплывам бацькі фарміраваліся адносіны да жыцця, разуменне сацыяльнай няроўнасці. Сама паэтэса не раз падкрэслівала, што пісьменніцай яе зрабіла газета «Наша ніва». Ёй былі блізкія па мове, па духу вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі, якія друкаваліся на старонках газеты. Яны абудзілі жаданне паспрабаваць свае сілы, стаць упоравень з імі. У 1909 годзе Канстанцыя Буйло паслала ў «Нашу ніву» свой просценькі верш «Хвоя» і адчула адзіўленне і шчасце, калі ён быў надрукаваны. Так пачалося супрацоўніцтва з газетай, якое працягвалася да яе закрыцця, супрацоўніцтва, якое вызначыла далейшы жыццёвы шлях паэткі.

Яе хутка заўважылі сабраты па пяру. У артыкуле «Глыбы і слаі» ў 1911 годзе Максім Багдановіч пісаў, што Канстанцыя Буйло абяцае развіцца ў праўдзівы, асабісты талент. Праз некалькі гадоў ён зноў адзначыў: «Гладка, як і раней, пісала Канстанцыя Буйло». У 1911 годзе часопіс «Словенскі пржэглед» змясціў артыкул чэшскага вучонага Адольфа Чэрны «Беларускія нацыянальныя і літаратурныя імкненні ў 1909—1910 гг.», дзе ёсць такія радкі: «Мноства спробаў, пераважна ад самавукаў і народа, апублікавала і пастаянна публікуе «Наша ніва» і яе каляндар. Большая частка іх узнікла пад уплывам Купалы і Коласа, як па тэматыцы, так і па форме. Гэта імёны: Цішка Гартны, Канстанцыя Буйло, Цётка... Янка Журба».

Яркі прыродны талент Канстанцыі Буйло расквітнеў пад уплывам Янкі Купалы. Ён адразу прыкмеціў новага аўтара, паставіўся да яе творчасці ўважліва і прыхільна і, мусіць, у знак гэтай прыхільнасці ў 1910 годзе на сваім узнёслым рамантычным вершы «Мая думка» пазначыў: «Ахвярую Канстанцыі Буйло». Паэтэса расказвала, што была радасна ўзрушана і невыказнай прыгажосцю верша і самім прысвячэннем. Не будучы знаёмай з Янкам Купалам, яна напісала

верш «Звон», ахвяраваны Януку Купалу, верш аптымістычны і палкі, які заклікаў «цэлы народ» да новага жыцця. У «Нашай ніве» пад вершам стаіць 1913 год, у «Курганнай кветцы» пад ім, як і пад іншымі творамі, года напісання няма. Сёння ёсць магчымасць удакладніць некаторыя даты і нават месцы, дзе вершы былі напісаны. «Звон, што напісаны лацінкай, з'явіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Ірэнёва. У «Нашай ніве», а потым у «Курганнай кветцы» ён надрукаваны з вельмі нязначнымі рэдактарскімі праўкамі, і толькі апошняя страфа апушчана. Зрабіць гэтыя ўдакладненні стала магчымым дзякуючы двум старым сшыткам, якія К. Буйло не знішчыла, як большую частку свайго архіва.

У першым сшытку творы 1908—1915 гадоў, месцы, дзе яны пісаліся — Чаўшклі, Вішнева, Адравонж, Коўна, Ірэнёва, Горны Скробаў, Полацк. У другім сшытку вершы без датаў, напісаныя на беларускай і рускай мовах, і кірыліцай і лацінкай, як яна пісала заўсёды на пачатку свайго творчага шляху. У сшытках многа вершаў, якія склалі «Курганную кветку». Ёсць і такія, што друкаваліся толькі ў «Нашай ніве» ці ў іншых тагачасных беларускамоўных выданнях. «З выраю», «Увосень», «На чужыне», «Пралеска» і некаторыя іншыя перадрукоўваюцца ўпершыню.

Яшчэ ў 1985 годзе па парадзе Зоські Верас і пры кваліфікаванай кансультацыі і дапамозе Ніны Аляксандраўны Ляшковіч, якая доўгія гады працавала бібліёграфам у Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы, я пазнаёмілася з некалькімі невядомымі аўтографамі вершаў К. Буйло. Белы прадаўгаваты канверт, дзе захоўваецца сем вершаў, быў адпраўлены са станцыі Гарадзішча Мінскай губерні, з маёнтка Горны Скробаў. Там Канстацыя Антонаўна рыхтавала да паступлення ў гімназію Толю, сына памешчыка Дзеўчапольскага. (Дарэчы, яна гаварылася, што ён потым стаў вядомым дыпламатам.)

Вершы былі адпраўлены паэтэсай у 1912 годзе ў «Нашу ніву» на імя «вяльможнага Вацлава Ластоўскага». «Рута», «Раніца», «Рана» ўвайшлі ў «Курганную кветку». «Ляці, душа», «Адказ на «З Богам ідзі...» друкуюцца ўпершыню.

Як вядома, скласці зборнік К. Буйло прапанаваў Янка Купала. Ён пісаў ёй лісты, патрабуючы ўсё больш і больш вершаў, бо хацеў, каб «кніжка атрымалася найтаўсцейшай». А яна дасылала свае творы і з Горнага Скробава, і з вёскі Чаўшклі на Лідчыне, дзе настаўнічала: днём вучыла дзяцей, а вечарамі праводзіла гутаркі з сялянамі, чытала ім газеты, давала парады. Многа лістоў ішло з Вішнева, дзе жылі бацькі з малодшымі дзецьмі, да якіх Канстанцыя Антонаўна часта ездзіла.

Янка Купала працаваў над зборнікам з задавальненнем, надзвычай беражліва абыходзіўся з аўтарскім тэкстам, захоўваючы індывідуальнасць паэта. Канстанцыя Антонаўна ва ўсім далейшым жыцці з удзячнасцю і засмучэннем успамінала свайго першага рэдактара, які лічыўся з ёю як з аўтарам і не імкнуўся перарабіць усё на свой капыл. Што менавіта так Янка Купала ставіўся да твораў маладой паэтэсы, сведчыць яго пісьмо да І. Клейнбарта ад 11/І-29 года: «Во время пребывания в «Н. н.» моей первой обязанностью было исправлять иногда неисправимые, присылаемые в редакцию стихи. А их присылали много. И, конечно, я их исправлял. Не было чего исправлять только у Якуба Коласа.

Богдановича, Бедулю, Горуна, Тётку, Кон. Буйло, Гурло, Журбу — немного, у кого в смысле ритмики, у кого — замена небелорусского слова или фразы белорусским».

Водгукі, рэцэнзіі на «Курганную кветку» і наогул на творы К. Буйло таго часу былі станоўчымі. «Наша ніва» змясціла рэцэнзію Д. Віндоўскага. У ёй аўтар адзначае, што калі ён чытаў маленькую кніжачку, то глыбокі жаль агарнуў яго сэрца, бо перад яго вачамі была змучаная беларуская душа, поўная надзеі і жадання жыць. Успомніліся яму і народныя песні, у якіх сярод шалёнай радасці балюча раняць сэрца сумныя ноты жалю ды зняверання. «З той жа крынічкі шчырых і гарачых слёз выплываюць і першыя акорды паэзіі Канстанцыі Буйло»,— піша Д. Віндоўскі. Ён называе аўтарку свядомай грамадзянкай абяздоленай Беларусі, якая заклікае народ «да працы стаць з адвагай і надзеяй», каб у сэрцах людзей засяваць добрае насенне. «Як будзе развівацца гэты бясспрэчна шчыры талент далей? — задае пытанне аўтар рэцэнзіі і працягвае: — Гэта пытанне кожнага, каму давялося прачытаць гэтую кніжачку з малюнкам сфінкса на вокладцы. У аўтаркі дужа моцная любоў да роднага краю, і, мне здаецца, паэтка не дазволіць ёй адляцець ад роднай Беларусі. Дужа моцна засела ў душы Буйло непераможнае жаданне — усе сілы аддаць свайму народу, каб яна перастала балець яго болем, думаць яго думкамі».

Д. Віндоўскі — магчыма, гэта нейчы яшчэ нерасшыфраваны псеўданім — вельмі глыбока зазірнуў у душу паэтэсы, зразумеў сутнасць яе натуры, здолеў нават прадказаць яе будучыню. Адарваная жыццёвымі віхурамі ад Радзімы, яна заставалася дачкой свайго народа заўсёды. З асаблівай сілай гэтая роднасць праяўлялася ў крытычныя моманты, у ліхія гадзіны. Нясцерпны сум па родных прасторах, беларускім небе, нашых барах і рэчках яна адчувала і ў старасці.

Першая сусветная вайна застала К. Буйло ў Полацку, куды яна прыехала па парадзе Цёткі загадваць беларускай кнігарняй. У тым жа архіве Акадэміі навук Літвы захоўваецца паштовая картка, якая сведчыць, што сувязь паэтэсы з «Нашай нівай» не перарывалася, дзе б яна ні была. К. Буйло цікавілася справамі газеты і яе супрацоўнікаў, лічыла сябе неаддзельнай ад іх, хацела быць разам. Картка адрасавана «ўсім», у Вільню на Віленскую, 29: «Паважаныя Дзядзькі! Пішу тры словы пісулькай. Ад некалькі днёў кнігарня мая адчынена — рух ёсць крыху.— Самапачуццё добрае.— Што чутно? Пішыце, хто можа і хоча — зрабіце мне прыемнасць. Усім ад першага да апошняга пасылаю шмат сардэчнасцей. Як ідзе з тэатрам? Ці наладзіцца што-кольвек? [...] Картку Дз. Бядулі ды Дз. Ластоўскага атрымала — за шчыры паклон дзякую — але за няверу ў мае словы «лаіце» трэба.— Аставайцеся здараненькі — няхай Вас усіх гадуе Бог — а ў лямпаццы — памяці аба мне — няхай не забракне.

Пасылаю ўсім паклоны. Ваша К. Буйло».

У Полацку Канстанцыя Антонаўна сустрэлася з Віталем Адольфавічам Калечыцам, за якога ў 1916 годзе выйшла замуж і паехала ў Расію. З 1923 года і да самай смерці яна жыла ў Маскве, у доме № 11 па Ціхвінскаму завулку...

А ў Беларусі, ужо асобна ад паэтэсы, жылі яе вершы, многія з

іх сталі песнямі і гучалі над роднай зямлёй. Мусіць, гэта і ёсць найвялікшая адзнака і прызнанне паэта народам. Беларускі фальклярыст і літаратуразнавец Арсень Ліс расказваў, што яго маці, якая жыла ў вёсцы Аколіцы, непадалёку ад Залесся, мела «Курганную кветку», вершы ёй вельмі падабаліся, яна сама прыдумвала мелодыі і спявала іх.

У былой Заходняй Беларусі навучэнцы Навагрудскай гімназіі спявалі песні на словы Канстанцыі Буйло ў сваіх канцэртах, з якімі ездзілі па вёсках. Песні «Адна», «Каб я мела», «Люблю наш край» абуджалі ў маладых сэрцах патрыятычныя пачуцці. Ужо ў 80-я гады паэт Анатоль Сыс у пісьме да Канстанцыі Антонаўны расказваў, што ў Шчучынскім раёне вясковыя кабеты спяваюць яе «Руту», нават не падазраючы, што песня мае аўтара.

Толькі пра адзін верш «Люблю» можна і варта пісаць даследаванне. Ён даўно стаў народнай песняй, якую будуць спяваць, «пакуль на зямлі будзе жыцьме хоць адзін беларус», як сказаў пра «Люблю» некалі Сяргей Грахоўскі. Верш пісаў чалавек, улюбёны ва ўсё, што яго акружае,— у высокі меднастволы бор, дзе пахне грыбамі і верасамі, у поле, па якім вецер гоніць жытнёвыя хвалі, у працяглыя і сумныя песні жней...

Пра тое, што верш «Люблю» стаў песняй, Канстанцыя Антонаўна даведалася толькі пасля вайны, калі пачула яе ў выкананні харавой капэлы Рыгора Шырмы. Нядаўна стаў вядомы і аўтар музыкі да верша «Люблю» — беларускі кампазітар і збіральнік народнага песеннага фальклору Мікола Равенскі. У час другой сусветнай вайны ён выехаў на Захад, і таму ўвесь гэты час яго музычная спадчына была пад забаронай. У зборніку песень з нотамі, выдадзеным у 1922 годзе ў Менску Беларускім кааперацыйна-выдавецкім таварыствам, ёсць тры песні, напісаныя на словы Канстанцыі Буйло: «Каб я крыллі мела», «Я шукала» і «Люблю наш край». Думаю, кампазітар не быў бы ў вялікай крыўдзе за тое, што ягоную песню называюць народнай. Ці не найвялікшы гэта гонар для любога мастака! Песня ўвайшла ў народ, злілася з ім, вытрымала выпрабаванне часам. І можна спадзявацца, што застанецца з ім назаўсёды.

У ілюстраваным часопісе «Беларускае жыццё» за 1920 год Антон Навіна (Антон Луцкевіч) у рубрыцы «Нашы песняры» пісаў пра «Курганную кветку» і пра яе аўтара, што творчасць Канстанцыі Буйло можна было б назваць «...песнямі кахання. Але гэтым не абмяжоўваюцца тэмы яе вершаў, бо пры яе інтэлектуальным развіцці жыццё вабіць яе ўсімі сваімі праявамі». Заканчвалася даведка словамі пра тое, што цяпер Буйло знаходзіцца дзесьці ў Савецкай Расіі і ўжо некалькі гадоў яны не маюць аб ёй ніякіх звестак.

Сям'і Буйлаў была ўласціва кланавасць у лепшым разуменні гэтага слова. Так вялося заўсёды, што кожны з іх імкнуўся дапамагчы другому, старэйшыя апякалі малодшых. У 20-я гады старэйшай з дзяцей была Канстанцыя, і, апынуўшыся ў Маскве, яна паступова перацягнула да сябе сястру Іну і брата Вітольда. Пад Масквой пахаваны бацька і маці паэтэсы.

Асабістае жыццё Канстанцыі Антонаўны складвалася вельмі шчасліва, у яе быў любімы муж, яна гадавала сына, але пісаць амаль перастала. Яна не чула роднай мовы, яе творчасць не жывіла родная глеба,

сувязь з Беларуссю падтрымлівалася толькі праз Янку Купалу і найдаражэйшую сяброўку Уладзіславу Францаўну, жонку паэта, якая ўсё жыццё была ёй і сястрой, і сяброўкай. Янку Купалу вельмі непакоіла яе маўчанне, бо ён верыў у яе талент і не хацеў мірыцца з бяздзейнасцю. Аднойчы, завітаўшы да Канстанцыі Антонаўны ў госці з Міхасём Чаротам, Купала сказаў ёй пра свайго спадарожніка, што чытаў у той дзень сваю паэму «Босыя на вогнішчы»: «Вось паэт па тэмпераменту зусім падобны да цябе, толькі ён не лунае ў прасторы, як ты, а жыве на зямлі і піша пра яе».

Хутка жыццёвыя абставіны вярнулі Канстанцыю Буйло на грэшную зямлю. Яна сама, сястра Іна, брат Вітольд (ён быў начальнікам міліцыі Курскага вакзала, меў ромб у пятліцы) і нават маці Настасся Францаўна адчувалі сябе нібы пракажонымі з-за таго, што нарадзіліся за мяжой, бо іх родныя мясціны апынуліся ў Заходняй Беларусі пад уладаю Польшчы. Не раз даводзілася даваць тлумачэнні ў адпаведных органах і даказваць, што яны беларусы, а не палякі.

Невыносна цяжкім, бессэнсоўным зрабілася для Канстанцыі Антонаўны жыццё, калі ў 1933 годзе арыштавалі яе мужа Віталя Калечыца і яна стала жонкай «ворага народа». Пра гады чакання і надзеі, адчаю і душэўных пакут паэтэса ніколі не магла гаварыць спакойна. Некалькі вершаў 1937—1938 гадоў, якія захаваліся сярод старых рукапісаў, перадаюць душэўны стан амаль зломленага жыццёвымі віхурамі чалавека. У той час яна пісала даволі шмат, але шмат і знішчала, бо сярод напісанага былі вершы «небяспечныя». Канстанцыя Буйло і яе муж Віталь Калечыц ніколі не абвінавачвалі ў тым, што з імі здарылася, савецкую ўладу. Надта бязрадасным і галодным было дарэвалюцыйнае жыццё, непарушнай была вера ў тое, што яны жылі ў самай шчаслівай краіне. Але Канстанцыя Антонаўна па-сапраўднаму ненавідзела Сталіна і прысвяціла яму і яго страшным справам нямала вершаў. Абнародаваць іх не рашылася нават пасля яго смерці, бо не верыла, што такія вершы могуць быць апублікаваны, што ёй дазволяць сказаць усё, што яна лічыла вартым пакінуць у народнай памяці. У паэтэсы ў шафе захоўвалася папка з надпісам «Пакалечаныя вершы». Я нядаўна праглядала іх. Не стыль, не рытміку, не словы правіў у іх рэдактар. З вершаў выкінуты страфы, у якіх паэтэса згадвала Калыму, бязвінныя чалавечыя ахвяры і заклікала помніць і тых, хто загінуў, і іх катаў. Не толькі з-за сваёй мастацкай недасканаласці ў пасляваенны час гадамі ляжалі ў выдавецтвах і рэдакцыях газет і часопісаў вершы Канстанцыі Буйло. Надта многа за ёй вадзілася «грахоў». У 1968 годзе, калі адзначаўся яе юбілей, яна з горыччу пісала Ніне Тарас: «Адзначаць... а што адзначаць? Што не памерла, як памерлі многія, што з плеяды нашаніўскіх пісьменнікаў адна засталася, як сасна на прагалінцы, хістацца над магілаю зрубленых дрэў, ад якіх засталіся толькі пні помнікаў, а ў таго-сяго і помнікаў няма».

Толькі нядаўна прагучала праўдзівае слова пра ролю і значэнне «Нашай нівы» ў гісторыі беларускага адраджэння, толькі нядаўна сталі мы ганарыцца гэтай выдатнай старонкай нашай гісторыі. Канстанцыя Буйло ды яшчэ Зоська Верас дажылі да часу, калі змаглі адкрыта сказаць: «Мы — дзве нашаніўкі».

Новы перыяд творчасці пачаўся ў К. Буйло ў Вялікую Айчынную вайну. Яна піша вершы ўзнёслыя і глыбока патрыятычныя. Абуджаюцца яе грамадзянскія пачуцці, і яна вызначае для сябе месца як паэта ў суровы для радзімы час. У 1943 годзе напісаны верш «У маёй майстэрні»:

Дык ляціце, песні, песні-арляняты,
Вам наказ гарачы з сэрца я даю:
Будзьце куляй, бомбай, мінай і гранатай,
І штыком, і сілай для байца ў баю!
І павязкай мяккай у байца на ране,
І крыніцай чыстай, як захоча піць,
Ласкай і спакоем, спачываць як стане,
Словам — тым, чым толькі песня можа быць.

У ваенных вершах, мужных і суровых, многа асабістага. Найлепшыя з іх, такія, як «Шмат дзён прайшло», «Памяці друга», «Над Донам», прасякнуты каханнем, пяшчотай і вялікай скрухай пасля страты блізкага чалавека, душэўнымі пакутамі за народ, на долю якога выпалі выпрабаванні. Яе гора было горам мільёнаў жанчын, якія страцілі мужоў, сыноў, каханых. Адзін з карэспандэнтаў К. Буйло з вёскі Ленкаўшчына на Маладзечаншчыне Ю. Сергіевіч пісаў, што яе «вершы з вялікай цікавасцю слухаюцца, калі іх чытаюць уголас у сяброўскай грамадзе. Некаторыя з іх, такія, напрыклад, як «Памяці друга» (1944 г.) настолькі хапаюць за сэрца, што выклікаюць нястрымныя слёзы».

У час вайны паэтэса зноў апынулася сярод беларускіх пісьменнікаў, якіх вайна закінула ў Маскву. Яна зноў была ў курсе беларускіх спраў, чула родную мову, адчувала сяброўскую падтрымку. Гэта было вялікім шчасцем для адзінокай, надоўга адарванай ад натуральнага творчага асяродка паэтэсы. Яна сустракалася з Кузьмой Чорным, Піменам Панчанкам, Максімам Лужаніным, Міхасём Лыньковым, Пятром Глебкам. У 1944 годзе Канстанцыю Буйло прынялі ў Саюз пісьменнікаў.

Пра пасляваенны час К. Буйло магла сказаць, як некалі пра нашаніўскі, што многа пісала і шырока друкавалася ў розных беларускіх выданнях. Яна па-ранейшаму пісала пра Беларусь, куды часта прыязджала на пісьменніцкія з'езды і пленумы, на розныя літаратурныя ўрачыстасці; яна зноў адчула еднасць з матчынай зямлёй, і гэта натхняла і акрыляла. У 1950 годзе выйшаў другі пасля «Курганнай кветкі» зборнік «Світанне». Яго рэдактарам быў Пятро Глебка, і працавалася з ім, па словах паэтэсы, гэтаксама лёгка і радасна, як калісьці з Янкам Купалам.

Аднак... Пра артыкул «У палоне скажоных уяўленняў і архаічных вобразаў», які з'явіўся ў рэспубліканскай газеце «Звязда» ў 1951 годзе, Канстанцыя Антонаўна і на схіле дзён не магла ўспамінаць без жаху. Падспудна ёй прыпомнілі ўсё: і «сумніцельнае» паходжанне, і «нацыяналістычнае» мінулае, і прыналежнасць да сям'і «ворага народа». Абвінавачвалі ж сапраўды ў смяротных па тым часе грахах, пасля абнародавання якіх, каб не надышла «адліга», наўрад ці здолела б яна зноў стаць на ногі. Яе паэзія называлася безыдэйнай і апалітычнай,

паэтэса быццам бы перастала бачыць «багатую і мнагастайную савецкую рэчаіснасць, замкнуўшыся ў шкарлупіну сваёй святліцы». «Беларусь, па словах аўтара артыкула Г. Шчарбатова, паэтэса малявала адзінокай, па-за сувяззю з вялікім рускім народам і другімі брацкімі народамі Савецкага Саюза». К. Буйло «не разумела», што «Савецкая Беларусь дасягнула свайго сапраўднага эканамічнага і культурнага росквіту толькі дзякуючы сталінскай дружбе народаў, якая з'яўляецца вялікай рухаючай сілай савецкага грамадства». Як і многія іншыя, быў названы нацыяналістычным і шкодным верш «Беларусь», напісаны паэтэсай у Маскве ў 1946 годзе:

Зямля мая далёкая,
Зямля мая цудоўная,
Радзіма сінявокая,
Якая ж табе роўная?
Мо ёсць і прыгажэйшая,—
Каму што ў свеце глянецца,—
Мая ж — найдаражэйшаю
Да смерці мне астанецца.

Ганілася самае лепшае, самае патаемнае, самае светлае. За «поўную безадказнасць», якую «праявілі пры выпуску зборніка нядобраякасных твораў К. Буйло», дасталося і Дзяржаўнаму выдавецтву БССР, і рэдактару зборніка Пятру Глебку. Памылковым быў названы і ўступны артыкул С. Майхровіча, дзе ён упершыню даскаткова падрабязна расказваў пра жыццё і творчасць, дарэвалюцыйную і сучасную, старэйшай нашай паэткі. Такімі ж памылковымі называліся дзеянні часопіса «Беларусь» і газеты «Літаратура і мастацтва», якія далі станоўчыя рэцэнзіі на кнігу К. Буйло «Світанне»...

Шлях на радзіму быў закрыты. І хоць мяняліся часы, недавер і прадузятасць да сваёй асобы і сваёй творчасці паэтэса адчувала заўсёды. Думаю, што доўга дзейнічала сіла энерцыі, а потым рэдка сустракала я людзей, якія ўсур'ёз былі знаёмы з творчасцю паэтэсы. Многім здавалася, што яны ведаюць яе вершы, але веданне гэта было павярхоўным, творчасць яе ацэньвалася без уліку асаблівасцей асобы аўтара, яе прыналежнасці да зусім іншай творчай плыні. Канстанцыя Буйло стаяла ля вытокаў беларускай літаратуры, была першапраходцам, асабліва ў станаўленні так званай «жаночай» паэзіі, падмурак якой яна закладвала разам з Цёткай. Пра гэта не варта забываць нашым сённяшнім шматлікім пясняркам, якім дасталася ўжо ўробленая паэтычная ніва, палітая слязамі і потам папярэднікаў.

У гэтым зборніку ўпершыню выносяцца на суд чытача пісьмы Канстанцыі Буйло. Хацелася б, каб яны былі прачытаны са спагадай і разуменнем, бо пісала іх паэтэса людзям блізкім, тым, каму давярала, гатова была прыйсці на дапамогу і ад каго сама чакала спагады і маральнай падтрымкі.

Сапраўднае сяброўства звязвала Канстанцыю Антонаўну з Інай Антонаўнай. Яна апякала малодшую сястру, дапамагала матэрыяльна ёй і яе сям'і, калі яны мелі ў тым патрэбу. З Інай Антонаўнай дзялілася сумненнямі і радасцямі, падтрымлівала бадзёрым словам у хваробе і горы.

Асаблівыя адносіны былі ў Канстанцыі Антонаўны з Уладзіславай Францаўнай, якая прывяла яе некалі ў «Нашу ніву», пазнаёміла з Янкам Купалам. Пасля смерці Купалы ў 1942 годзе Уладка, як звала яе К. Буйло, жыла нейкі час на Ціхвінскім завулку, а калі пераехала ў Мінск, частай госцяй была ў яе Костка. Праз Уладку была яна ў курсе ўсіх спраў на Беларусі, адчувала тут сябе сваёй, ведала, што ёсць у яе родная душа. Балюча і няўцешна перажывала К. Буйло смерць сяброўкі. Пра гэта — многа ў пісьмах да Марыі Канстанцінаўны Хайноўскай, якая яшчэ да вайны была сваім чалавекам у доме ў Купалы.

Канстанцыя Буйло перапісвалася з Міхасём Лыньковым, а калі ён памёр, з яго жонкай Соф'яй Захараўнай. Сярод тых, каго любіла К. Буйло і каму давярала, была паэтэса Ніна Тарас, чыю творчасць яна высока цаніла за шчырасць і паэтычнасць. У адным з пісьмаў да Ніны Тарас Канстанцыя Антонаўна дае адказ на шматлікія пытанні і сумненні наконт таго, як пісаць яе прозвішча — Буйла ці Буйло. Так, сапраўды больш арганічна па-беларуску гучыць прозвішча Буйла. Але варта лічыцца і з думкай і жаданнем таго, хто гэта прозвішча носіць. Канстанцыя Антонаўна заўсёды лічыла, што сваё прозвішча — Буйло — атрымала ад бацькі, і жадала, каб яно менавіта такім засталося назаўжды.

К. Буйло перапісвалася з Эдзі Агняцвет, С. Новікам-Пеюном, А. Пальчэўскім, С. Шушкевічам і многімі іншымі. Яе цікавіла ўсё, што адбываецца ў пісьменніцкім асяроддзі, яна прасіла не забываць яе, не пакідаць без сяброўскай падтрымкі.

З'яўленне двухтомніка было апошняй вялікай радасцю К. Буйло. У яго выхад яна не верыла, пакуль не ўзяла кнігі ў рукі. Надта доўгім і пакутлівым быў яе шлях да гэтага шчасця.

*Дзіяна Чаркасава*



* * *

Стаіць хвоя ў полі*,
Думае панура:
Што тады з ёй будзе,
Як спануе бура?

Як тужліва хмары
Паплывуць па небе,
Як застогне вецер,
Веткі пацярэбе?

Ох, тады нямала
Пагубляе сілаў,
Не раз сведкай будзе
Не адной магілы!

Адно маю веру,
Што заблісне сонца,
Лёгка ў сваім краю
Будзе жыць сасонцы!

*1909*

---

* Вершы пазначаныя *, друкуюцца ўпершыню.

## ПРАЛЕСКА*

Шчэ сонца чуць-чуць прыгравае,
Снег гурбамі ў лесе ляжыць,
А сіняе вочка пралескі
Адважна на сонца глядзіць.

Чаго ж паспяшалася, кветка,
Хавайся ў зямлю ты глыбей.
У нас тут зіма йшчэ пануе
І сцюжай марозіць сваей.

*1911*

## ЗВОН

*Янку Купалу*

Ён плыў над палямі з жытнёваю хваляй,
Праносіўся ў далі, ляцеў,
То рэхам над лесам, як гром, рассыпаўся,
То зноў заміраў, а то зноў калыхаўся
І мякка і плаўна гудзеў.

Гудзеў над лугамі, ляцеў над палямі,
Над нівай, над сёламі плыў,
А гукі яго дзіўнай нотай дрыжалі
То як бы ў задуме, то як бы у жалю,
І чуўся ў ім гулкі прызыў...

Ён зваў да жыцця і да лепшае долі
Усіх, хто сном каменным спаў;
І сну ледзянога апалі аковы,
І ўстаў народ цэлы, і ўстаў як бы новы,
Да бою за волю устаў.

*1911*

## РАНА

О, не кажыце вы, што рана загаілась,
Што меней кроў яе ўжо аблівае:
Хоць слёзаў не відаць, ды енкі не спыніліся;
Хоць часам нават смех на вуснах заіграе, —

Глыбокая яна — згаіцца ёй няскора...
Не датыкайцеся ж нябачнымі рукамі,
Бо хоць і змоўк вулкан, застыла лавы мора,
Нутро яго кіпіць гарачымі агнямі!..

*1911*

## КАБ Я МЕЛА...

Каб я крыллі лёгкай птушкі —
Салавейкі мела,
Ў гай вясёлы, гай зялёны
Я б не паляцела.
Каб я мела голас звонкі,
Голас салаўіны, —
Я б спяваць не паляцела
На дрэўцаў вяршыны...
Я бы з песняй паляцела
Ў горад той далёкі,
Там ёсць дом — пануры, сумны,
Цёмны і высокі...
На акне закратаваным
Я бы з песняй села
І астрожнікам няшчасным
Сваю песню б пела.
Я спявала б аб свабодзе,
Аб шчаслівай долі,
І забыліся б пад песню
Яны пра няволю.
Галасамі дзіўных чараў
Я бы залівалась,
Лясоў, ніў прыволле нашых

Нагадаць старалась.
І пад песню маю думкі
Іх бы прасвятлелі,
Твары радаснай усмешкай,
Шчасцем увяснелі,
І не цяжкая была бы
Ім тады няволя,
Бо пад песню яны б снілі
Аб шчаслівай долі.

*1911*

## НА МАГІЛКАХ

На магілках так ціха, спакойна. Ледзь шапочуць
з сабою бярозы,
Паспускаўшы галінкі свае аж да самай халоднай зямлі:
На лісточках гараць кроплі рос, як гарачыя слёзы,
Быццам з жалю па тых, што ў гэтых магілках зляглі.

Ціш нямая тут. Вецер бяроз верхавін не чапае;
Адзін раз адважней ён між іх закруціў, зашумеў,
Потым як бы прыпомніў, што мёртвых спакой парушае,
Сціх і, лёгка сарваўшыся, ўдаль паляцеў...

Над адхонам ракі, што ля самых магіл працякае,
Свіснуў раз і другі ў захапленні любві салавей...
Не, у царстве памёршых спяваць ён не можа, не ўмее,
Ён кахання пясняр, ён пясняр маладосці усёй!

І замоўк... І нішто ужо больш цішыні не трывожыць.
Між пахілых крыжоў урачысты і сумны спакой,
Ні жывое душы. Толькі часам матыль крыллі зложыць,
Затрымаўшысь на міг над магільнае кветкі красой.

Часам песня з палёў далятае з ветранаю хваляй,
Быццам хоча збудзіць тых, што ў гэтых магілах зляглі,
Быццам хоча сказаць, што праменні надзеі заззялі
І што будзе квітнець кветка шчасця на нашай зямлі.

*1911*

## ЯК Я ЦЯБЕ ЛЮБЛЮ...

Як я цябе люблю — хай скажа гэта мора,
Што у грудзях маіх бушуе, хай гавора
Аб тым сэрца, што пагляд тваіх вачэй
Сон прабудзіў яго, аж дрогнула сільней

І так забілася, як птушачка у клетцы,
Што вырвацца з грудзей хацела ўжо, здаецца...
Як я цябе люблю — хай скажа салавей,
Што ночкамі пяяў над галавой маей;

І ночкі гэтыя — бяссонныя ўсе ночы,
Што да цябе няслі рой дум маіх дзявочых,
Як ты далёка быў — далёка ад мяне...
Хай скажуць зорачкі ў блакітнай вышыне,

Што там, вось як цяпер, дрыжалі, мігаталі,
А мне здавалася, што нешта ўсё шапталі,
А ты тады на іх глядзеў, і з вышыны
Пагляд твой да мяне звярталі стуль яны...

Як я цябе люблю — не скажуць толькі людзі,
Бо змогуць жа яны заглянуць там — у грудзі,
Убачыць сэрца глыб — агнёў кахання мора,
І зразумець, аб кім, бушуючы, гавора...

*1911*

## ПАМЯТНЫ ДЗЕНЬ

З лет даўнейшых маіх помню дзень я адзін:
Весна была, скаўроначак пеў;
Каля ног серабрыстая рэчка плыла,
А над ёй лазняк ціха шумеў.
Я — дзіцяцяй яшчэ — чуць падросткам была,
Шоў пятнаццаты год мне тады;
У той дзень я над рэчкай вяночкі віла,
Прыглядаючысь ў люстры вады.

Поўна сетка мая ўжо была матылькоў,
Вянкі пышнай ляжалі гурбой,
Прымярала я іх, смеючысь, як дзіцё,
Ты з'явіўся тады прада мной.
У той памятны ясны і сонечны дзень,
Як цябе толькі ўбачыла я —
Ўраз прапалі навек жывасць гуляў маіх
І дзяцінная ўцеха мая.
Як бы Бог хараства, ты стаяў прада мной
З смелым поглядам дзіўных вачэй,
Многа новых, нязнаных мне дум пабудзіў,
Сэрца білась сільней і сільней.
Потым помню, як лета ўсё хутка прайшло;
Сустракаліся часта з табой,—
Я любіла цябе усім сэрцам маім,
Усёй сілай душы маладой.
Прыйшла восень з сумлівым халодным дажджом,
Туманамі зямлю спавіла,
Птушкі ў вырай пачалі усе адлятаць,
Нам расстацца пара падышла.
І расталіся мы, і расталісь з табой...
Як? Не помню, надарма пытаць...
Адно толькі з тых пор болей я не магу
Па-дзіцячаму пець і гуляць.

*1911*

## ЛЯЦІ, ДУША*

*Ро-ку Т-о*

Ляці, душа мая,— пакінь зямлю зямлі.
Сама ўзніміся ўвыш, у зёзднай згінь далі,
Завісні зоркаю у галубым прасторы,
Забудзь там аб сваіх балесцях і аб горы.
Замёрзлая, сагрэй сябе промнямі сонца
І, у запас узяўшы іх, вярніся к сваёй старонцы...

Сама, як светлы промень, плыві ты над зямлёй —
Дзень — сонейкам ясней, ноч — яснай зорай.
Плыві над светам ты праменнямі прадвесня,
І лёд, скаваўшы нас, пад духам тваім трэсне.

Ў тонь прошласці сплыве вадзіцай каламутнай,
І узрасце жыццё травічкай маладой.

Ды гэта йшчэ не ўсё. Ты ясным духам белым
Ляці, дзе толькі стогн з грудзей ірвецца набалелых,
Ды шчасця вобразам прад намі заясней,
Праменнямі любві нам сэрцы абагрэй.
З вачэй, застыўшых ад жыцця сцюдзёных маразоў
І звяўшых, як трава, прад восені парой,
Гарачымі цалункамі спій слёзы,
На сэрцы адагрэй... Любовію святой
Нас вырві да жыцця ад смерці хмары чорнай,
Што ўсё хватае нас рукой сваёй праворнай.
Пабітых, як ядром, нутра уласнай сілай
Радочкамі кладзе у дол сыры — магілу...
Прад мужным ўзорам ярка заясней
У светлых вобразах прычудлівых надзей
І ўсё жыццё свяці нам зоркай-праваднiцай,
Засохшым смагай вуснам будзь жывой крынiцай...

*1912*

* * *

Не хачу я нічога казаці табе,
Бо баюся, што ў словах маіх
Выліецца каханне маё для цябе,
Што усё зразумееш ты з іх.

Не хачу я глядзець, каб з маіх ты вачэй
Тайны сэрца майго не згадаў,
Каб паблеск іх таемных, гарачых лучэй,
Як цябе я люблю — не сказаў.

Я каханне маё пахаваю ў душы,
Спакой сфінкса на твар налажу,
І хоць сэрца ад болю сканае ў грудзях,
Я нічога табе не скажу.

А калісь, як на вечны спачын адыду
І зямля як пакрые мяне,

Няхай вецер з магілы маёй паляціць
І слоў колькі табе пашапне.

Хай зязюля вясной кукаваннем ў гаі
Аб любві табе кажа маей,
Хай гавораць аб ёй кветкі пахам з лугоў
І пяяннем сваім салавей.

*1912*

## У КРАІНЕ МАР

Ў краіне мар паднебнай далі,
Дзе зоры свет ракой лілі,
Ў праменнях сонца мы спаткаліс,
Не знаючы яшчэ зямлі.

Я помню гэтае спатканне,
Пагляд гарачы помню твой,
Яснейшы зоркі залатой,
Што мне ў душу уліў каханне.

А дружкі-зоры штось пялі
Аб шчасці вечнага кахання;
З далін зямлі на прывітанне
Нам кветкі пах свой пасылалі.

І сам нас Бог тады звянчаў,
Ды ёсць такі закон у Бога,
Што хто цярпення не дазнаў,
Не знойдзе, к шчасцю дзе дарога.

І душы ў цела прыадзеты
К жыццю зямлі ён прысудзіў
І на ўвесь час той разлучыў
Каханнем дзве душы сагрэты...

З тых пор нам сэрцы крывёй льюцца...
Што ж зможа гэты боль уняць
Дзвюх душ, што вечна к сабе рвуцца,
Ды пут не могуць разарваць,

Пут цела, што іх тут скавалі
І разлучылі іх з сабой?!.
. . . . . . . . . . . . . . . . .

Боль гоне слязу за слязой,
А шчасце ціха ззяе ў далі.

*1912*

## РУТА

У гаршчочак зямлі я даўно ўжо калісь
Кветку руты жывой пасадзіла:
Палівала яе, даглядала яе —
Мая рута на дзіва ўрадзіла.

Разраслíся кусткі, як вяночкі, лісткі
Аплялі мой гаршчочак наўкола;
Замуж дзеўкі ішлі — з маёй руты вілі
Вянкі дружкі грамадкай вясёлай.

Колькі песень тады тут гучала над ёй!
Галасы, як званочкі, звінелі;
А руцяны вянок зеленеў, як той лог,
Патануўшы ў вэлёнавай белі.

І хоць рвалі яе, хоць шчыпалі яе —
Маёй руты зусім не ўбывала:
Зелянела яна, красавала яна,
Сіл да росту ёй шчасце давала...

Толькі помню я раз, на Вялікдзень якраз,
Да Галіны прыехалі сваты;
Не хацела ісці, ўгаварылі бацькі
(«Малады» быў занадта багаты).

З маёй руты сплялі ёй прыгожы вянок,
Многа свечак гарэла ў касцёле,
Маладую ўвялі... а твар белы яе,
Ў тон празрыстай вэлёнавай белі.

Вочы чорныя палкім гарэлі агнём,
Вусны, дрогнуўшы, штось зашапталі,
Ці малілася так, ці кляла мо каго,
Затануўшы вачыма у далі.

А руцяны вянок у праменнях агнёў
Нейкім радужным бляскам іскрыўся,
Ці то дождж ык скрапіў, ці якая раса,
Ці слязьмі маладой ён абліўся.

Раптам — Veni Creator — азваўся арган,
Расплыліся бурлівыя тоны,
Хістанулася Галя, збялеўшы, як смерць,
І лягла на каберцы са стогнам.

Дарма клікалі дружкі, рыдалі бацькі,
Дарма клікаў жаніх некаханы —
Разарвалася сэрца ў дзявочых грудзях,
Зацягнуліся вочы туманам.

Вось з тагошняга дня маёй руты вянок
З дня на дзень вяў і сох штораз болей;
Ці вады неўзлюбіў, ці мо гэтак ён счах
Над Галінчынай горкаю доляй.

І цяпер у мяне ён стаіць на акне,
Пачарнелі, завялі галінкі,
А не раз сярод дня заблішчыць штосьці ў іх,
Ці раса, ці то, можа, слязінкі.

*1912*

## УВОСЕНЬ*

Смутны ты, вобраз роднай краіны,
гэтай парой:
Густа пакрыты лагі і даліны
дробнай імглой,
Носяцца хмары па небе бясконца,
дождж ык пыліць,

Вецер галінамі яблынь ў ваконца
сумна стучыць.
Выйдзеш у поле — сумна наўкола,
толькі парой
Галкі садзяцца ў рады невясёла
дзесь над раллёй.
Крыллі лапочуць і голас пануры
ў вушы ляціць,
Мусіць, вяселле ці то хаўтуры
сталі рабіць?
Вось апавіты стаіць пад гарой
лес глухатой
І ў раздум'і трасе галавой,
лысай, сівой,
Лістом пажоўклым курчавай вяршыні
ўсё шапаціць
І ці пракляццем, ці то малітвай
падчас шуміць.
Мыюцца сцішна над рэчкай вярбіны
мутнай слязой.
Смутны ты, вобраз роднага краю,
гэтай парой.

*1913*

## АДКАЗ НА «З БОГАМ ІДЗІ!..»*

Так, з Богам ідзі, а цярпець так не трэба,
З адвагай ідзі ты дарогай жыцця,
Вядзі ты да шчасця, вядзі ты да неба,
Лучом заясней у цямроці пуцця...
Так, сонцам яснець. А дзе ж сілы узяці?
Дзе ж сілы узяць для змагання з жыццём,
Дзе ж моц, каб дух слабы мой зноўку падняці,
Аж ён заяснее праводным пуцём.
Глянь! Сэрца маё — то ж суцэльныя раны,
Што ныюць, бясконца баляць.
Душа — яе струны усе надарваны —
Акордамі енку дрыжаць.

О! Дайце мне моцы злячыці ўсё гэта
Ды скрыдлы к маім прычапіце плячам,
Тады я дарогу да сонца, да света,
Да шчасця дарогу знайду тады вам.
Сягоння... о, не! Не мне весці вас трэба,
Атросшыся жвава з адвечнай пылі,
Шыбуйце ўсё вышай — да света, да неба,
Нас, хілых, пакіньце сядзець на зямлі...

*1913*

## ЛЮБЛЮ

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў,
І рэчку, што імкліва воды
Імчыць ў нязведаную даль,
І схілы берагоў пясчаных,
І яснасць чыстых яе хваль.
Люблю вясну, што ў кветкі, зелень
Аздобіць радасна зямлю,
Буслоў на гнёздах клекатанне
І спеў жаўраначка люблю.
Гарачую спякоту лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём.
І восень сумную люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
А касары — на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ва ўзор,
І белы снег, што, ўкрыўшы поле,

Ірдзіцца бляскам ясных зор.
Люблю ў пагодную я ночку
Дапозна на дварэ сядзець,
Сачыць за сініх зор мігценнем,
На месяц залаты глядзець.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць.
Усё ў тым краі сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з гора першаю слязой.

*1913*

## НОЧ

Ноч. Месяц на небе пурпурна-чырвоны,
Панура так зоры гарацъ,
А вецер лятае, гудзіць, як шалёны,
Штосъ гоніць, штось круціць, рве з стрэхі салому,
Будыніны глуха трашчаць...

Страляючы голымі ўверх галінамі,
Лес пошумам страшным шуміць,
Ў вяршынах лясун разгуляўся з вядзьмамі,
То розгу ў іх кіне, то сыпне лістамі,
То рогатам дзікім смяшыць.

На рэчцы ля млына, адпёршы засовы,
Сівы вадзянік устае,
І з гукам з дна рэчкі пясок ён жвіровы
Нясе, насыпае у колы жарновы
І, мелючы, дзіка пяе.

Ноч цёмная поўна загадкавых гукаў:
Штось шэпча, то зноў шалясціць,
То як бы заенча ад страшных хтось мукаў,
То ўдалі хтось дзіўна, працяжна загукаў
І сціх, толькі вецер гудзіць.

І страшна, і нудна, аж дух замірае,—
Баішся і вочы самкнуць.
Здаецца, хтось байку страшную дзесь бае,
То як бы хто плача, то быццам спявае...
Дрыжыш і не можаш заснуць.

*1913*

* * *

Ціхім гоманам гордых вяршынь,
Шапаценнем зялёных галін
Лес адвечную казку казаў.
Казкі той зразумець не маглі
Птушкі, што у ім гнёзды вілі,
Ані вецер, што там пралятаў...

Казку тую адчуў чалавек:
Баіў лес пра мінулы ўжо век,
Ён гісторыю пеў старыны,
Што было таму сотні гадоў,
Аб жыцці-быцці нашых дзядоў,
Як і дзе векавалі яны.

Ён аб войнах крывавых казаў,
З кім і дзе наш народ ваяваў,
Пеў аб долі-нядолі яго;
Ён аб славе яго гаварыў,
Як ён дружбу з сябрамі вадзіў
І за ворага меў ён каго.

Ціхім гоманам гордых вяршынь,
Шапаценнем зялёных галін
Баіў лес пра мінулы ўжо век.
Казкі той разумець не маглі
Птушкі, што у ім гнёзды вілі,
Яе ўсю зразумеў чалавек.

*1913*

## ТО НЕ ПЕСНЯ...

То не песня мая так далёка ляціць,
Як хаўтурны той звон, гулкім сумам гудзіць —
То не песня мая,
Не пяю гэтак я...
Гэта вырваўся стогн з набалелай душы
І расплыўся кудысь сярод сумнай цішы,
І паплыў ён удаль,
І таіўся ў ім жаль,
Тонам ціхім паплыў
Між калосістых ніў...
То не песня мая —
Не пяю гэтак я...
Сваім болем глухім з дна душы ён людской
Зварушыў, разбудзіў розных думачак рой,
З імі ўшыр паляцеў,
Рэхам гулкім гудзеў,
Разліваўся ўдалі між дрыгвы і балот,
То пад неба шыбаў, то кідаўся пад спод,
Аж расплыўся і сціх,
Як пражыты той міг,
Што мільгнуў у жыцці
І прапаў ў забыцці...
То не песня мая —
Не пяю гэтак я!..

*1914*

## ТВАРЫЦЬ І КАХАЦЬ

Да працы, да светлай вялікай работы,
З абломкаў, руінаў тварыць новы дом!
Гэй, ўсе, ў каго сіла, уменне, ахвота,
Працуйце! Як шчыра, як светла у ём
Заблісне жыццё пажаданае долі,
Знаёмае сэрцу у мараў цішы...
Там дух ажыве, і прабудзіцца воля,
І моц засвітае знямелай душы.

Гэй, ўсе да работы!
Ты, сэрцам збалелы,
Ты, страціўшы веру, без моцы і сіл,
З разбітай надзеяй, з душой абамлелай,
Што ценем стаіш каля родных магіл!
Краніцеся светлай вялікай ідэі...
І з намі жывымі, гэй, гэй, працаваць!
І сіла ўваскрэсне, ўваскрэсне надзея —
Век жыць! Крэпка верыць!
Тварыць і кахаць!

*1914*

## ДА ПРАЦЫ

О, не кажы, што ты ў жыцці не маеш мэты
І што на свеце жыць не хочаш болей ты,
Бо ўжо ад мук і слёз душа твая збалела,
А ў свеце бруду шмат і горкай цемнаты.
О, не кажы, што ты ў жыцці не маеш мэты
І што ніхто яе ў жыцці сваім не меў;
Павінна мэтай быць усіх — шырыць
прасвету,
Усім, хто цьму жыцця убачыці здалеў,
Нам светачамі быць!
У цемры аніводнай
Не бачна зорачкі?
Мы будзем распаляць.
Да працы час, браты!
Ніхто няхай не смее
Магутную руку бяссільна апускаць.
Да працы час, браты!
Мы туманы развеем;
Як у пялёнках, ў іх наш родны край ляжыць.
Каханнем маладым мы дух яго сагрэем,
Нізіны кіне ён і вышай узляціць.
Да працы, гэй, браты!
Мы з сілай маладою,
Мы з сэрцам, поўным мар гарачых і агню,
Павінны выпаўніць заданне ўсесвятое,

І подласць чорная пакіне нас, зямлю,
Не будзе ўжо нідзе тых каінаў на свеце,
Што ў братняе крыві руку маглі мачаць.
Мы — вольныя арлы, Радзімы нашай дзеці,
Хто мае права нас нявечыць, зневажаць?
Мы — вольныя арлы, з адвагай і надзеяй
Мы волю к барацьбе павінны прабуджаць
За шчасце, за жыццё!
І хай ніхто не смее
Магутную руку бяссільна апускаць!

*1914*

## НА КРЫЛЛІ ПЕСНІ

Ляту, нясуся ўвысь, плыву на мяккіх хвалях...
Як добра, лёгка мне!
Дзе я? Чырвонасць зор, блакіт паднебнай далі,
І сонца ясны бляск, і празрыстасць крышталяў
Дрыжаць вакол мяне.

Ляту, нясуся... Гэй, які абшар шырокі!
Як лёгка дыша грудзь.
Там дзесьці, у даліне,— чуць-чуць дагледзіць вока —
Ляжыць яна — зямля... Так нізка, так далёка!
А тоны ўвысь плывуць.

Мяне штось з імі рве, штось цягне страшнай сілай,
Якаясь моц нясе...
Што? — не згадаць ніяк — к жыццю ці да магілы...
І ведаць не хачу... Мне добра так, так міла
Ў высі нямой красе!

Ціха! Во штосьці ў круг там дзіўна задрыжала,
А сэрца ў тон яму
Забілась моцна так... і біцца перастала...
Дух змёр, а штось углыбі там глуха ныць пачала,
Што мчыць уніз думу.

То болю ціхі стогн прарваўся ў светлай песні
І міма праляцеў,
І сэрца дрыгнула, і дух заныў балесне,
І згінуў сон... І зноў ў чароўны край прадвесні
Мчыць душу дзіўны спеў!..

*1914*

## ЦІ ПОМНІШ ТЫ?

Скажы мне, ці калі ў чужой зямлі далёкай
Успамінаеш ты край родны, мілы свой?
Ці часта к нам адтуль ты думкамі шыбаеш,
Ляціш да нас душой?

Ці помніш Беларусь, дзядоў тваіх краіну,
Дзяцінства дзе твайго час хутка праляцеў?
Ці помніш дом бацькоў, за домам сад зялёны?..
Як ён тады шумеў,

Як мы па ім з табой хадзілі й ты казала:
«Паеду я ў чужыну шчасця пашукаць»,
І ён там зашумеў, як бы заплакаў з жалю,
І не хацеў пускаць.

А песню родную ці помніш на чужыне,
Такую сумную, як доля мужыкоў?
О, колькі стогну там, жальбы душы збалелай
Пачуеш з яе слоў!

А вёскі помніш ты пакрыўленыя хаты,
Ўсе зеленню садоў прыбраны, як вянком,
Ручай, што спаясаў істужкай сенажаці
З пясчаным берагом?

А лес ці помніш ты на ўзгорачку, за вёскай,
Што часта так у цень ад сонца нас хаваў,
І слухаў нашых дум і светлых мар дзявочых
І штосьці ўсё шаптаў?

Ці помніш гэта ўсё ў чужой зямлі далёкай?
Наш цёмны, бедны край, дзе столькі ёсць бяды,
А ўсё ж ён мілы нам, бо ўсё, усё там наша!
Край гэты помніш ты?

*1914*

## КВЕТКІ

Гляджу на паблёклыя ружы лісткі,
Што, звяўшы, ляжаць прада мной,
І сэрца сціскае боль нейкі цяжкі,
Туманяцца вочы слязой...

Ёсць дзіўная сіла у гэтых лістках:
Чуць толькі я гляну на іх —
Мне прошласць яны нагадаюць на міг,
І тону ў чароўных я снах.

І сумна мне вельмі, што гэтыя сны
Так скора праспіла ўсе я,
Што болей не вернецца зноў да мяне
Святляная прошласць мая.

Тады йшчэ ў душы маёй вера жыла,
Было шмат у сэрцы надзей;
Свабодная светлаю думкай маёй,
Высока шыбаць я магла.

Сягоння... Сягоння таго ўжо няма,
Сягоння я з смутнай душой,
Як тая, пакрытая слоем дзярна,
Магіла з уласнай труной...

А я у магілу схавала сваю
Вялікі гроб вечны — душу;
У ім пахавала ўсю прошласць маю —
Ўсё гэта ў сабе я нашу.

Сягоння хоць смех мой на вуснах дрыжыць,
Хоць гляну падчас весялей,—
То ўсё толькі кветкі магілы маёй,
Што хочуць нутро ў ёй прыкрыць.

*1914*

## НАД СВЕЖАЙ МАГІЛАЙ

*Памяці таварыша*
*Станіслава Станюлевіча*

З свежых лісцяў чуцця упляту я вянок
І злажу на магілу тваю;
Перавяжа яго дум жалобных маток,
Што апутаў душу ўсю маю.
На магіле вянок вечна свеж будзе мой,
Вечна зелен там будзе ляжаць;
Ён ўхарошыць твой гроб сваёй вечнай красой,
Ён сны будзе табе навяваць...
Спі, мой браце, спакойна! Дарога жыцця
Закрутая была для цябе;
Луч ідэі пагас, паў сярод ты пуцця,
Аніхто не памог у жальбе.
Аніхто рукі братняй табе не падаў —
Ты адзін быў ды цемра укруг;
Светач ўперадзе згас, і бяссільна упаў
Твой збалелы замучаны дух.
Спі, мой брат малады! У грабовай цішы
Няхай будзе спакойны твой сон;
Не баліць ужо сэрца,— спакою душы
Ўжо не муціць больш блізняга стогн.
Спі, мой брат малады. Мой бяссмертны вянок
Я злажу на магілу табе;
Перавяжа яго дум жалобных маток,
Што над ёю кружацца ў жальбе.
На магіле вянок вечна свеж будзе мой.
Вечна зелен там будзе ляжаць;
Ён ўхарошыць твой гроб няўвяднай красой,
Ён сны будзе табе навяваць!

*1914*

* * *

Ноч позняя. Вецер гудзіць, завывае,
Так жаласна-сумна шуміць;
А мне сэрца з болю ў грудзях замірае,
Душа так страшэнна баліць!

О, вецер! Ты плачаш, ды ты йшчэ шчаслівы,
Свабодны ляціш у прастор;
Заенчыш — спагадна шумяць, стогнуць івы,
І плача з табой сівы бор.

О, як жа б з табою ляцець я хацела,
Пакінуць і свет і жыццё!
З табой я лятала б, з табой бы гудзела,
Жаль зліўшы ў тваё у выццё.

Мы б ночкай насілісь ў шырокім абшары
Праз выдмаў вялікі разлог,
Праз пушчы лясныя, балоты, імшары,
Дзе б толькі забрацца ты змог.

Ў выццё тваё, вецер, зліла б мае стогны,
І выў бы ты болем маім,—
Мо сэрца людское спагадаю дрогне
Над болем вялікім такім.

Тады не адна я ўжо буду з думою,
Што цёмнае ночкі чарней...
Вазьмі мяне, вецер, лятаці з сабою,
Спагады шукаць у людзей!

*1914*

## ХАЎТУРНЫ ЗВОН

Заенчыў, заплакаў з званіцы
Стары ўжо і трэснуўшы звон,—
Абвесціўшы смерць чалавека,
Маліцца сазваў усіх ён.

За белай сасновай труною
Грамадне суседзі ішлі;
Труну у магілу спусцілі,
Сыпнулі па жменьцы зямлі.

Тут сон, тут спакой яму вечны,
Тут будзе прытульна ён спаць,
Па працы, трудох і цярпеннях
Да суднага дня спачываць.

Спакою яго не нарушыць
Плач жонкі, галодных дзяцей;
Не вырвецца гора енк цяжкі
З худых і збалелых грудзей.

Спі, бедны зямляча! Не раз ты
Праз цэлую ночку не спаў,
А зморany, потам абліты,
Мазольна на хлеб працаваў!

Ніхто і нішто не стрывожа,—
Тут будзеш, як камень, ляжаць;
Над крыжам магілкі забытай
Зляціцца рой птушак спяваць.

Спі! Дай ты рукам адпачынку:
Дабра шмат зрабілі яны,
Хоць больш ты не маеш награды,
Кром гэтай сасновай труны.

*1914*

* * *

Дзень сканаў за гарой, а над соннай зямлёй
Выплыў месяц пурпурна-крывавы;
Над разлогамі ніў хутка-шыбка ён плыў,
Прытрымаўся над соннай дубровай.

Між адвечных дубоў асвяціў рой крыжоў,
У высокай траве прытаіўся;

Плямай яснаю поўз па курганах, як смоўж,
    То малюнкам на небе лажыўся.

Ціш усюды — спакой... Над званіцай старой
    Звон зыклівы раптоўна раздаўся;
Разам з ім — пад дубом — над старым курганом
    Трэснуў камень і з гукам распаўся.

І ад дзіваў такіх вецер, змёршы, заціх,
    Месяц хмаркаю ў небе закрыўся;
З-пад раскопаў зямлі цені шпарка ішлі —
    Во адзін з іх к крыжу прысланіўся.

У мазолях рука — верны знак мужыка,
    Свецяць дзіўным агнём яго вочы;
І з грудзей гукнуў кліч: «Брацця! Ўсе, хто тут спіць!
    Брацця, ўстаньма усе гэтай ночы!

Сярод ніў ды палёў хараводаў-кругоў
    Мы натворым, успомнім былое;
Песню так завядзём, як тады, як агнём
    Ў нас кіпела жыццё маладое.

Хай жа песня ляціць, хай жа песня гудзіць,
    Разальецца па долах, па нівах!
Нашай песні такой не чутно з пары той,
    Якляглі мы у цёмных магілах.

Праходзілі гады, заціралі сляды,
    Заціралі сляды нашых спеваў;
Над разлогамі ніў іншы голас паплыў,—
    Спеў чужы плыў над нашым засевам.

Брацця! Ўсе чым хутчэй хай з магілы сваёй,—
    Брацця, кожны на свет з вас выходзе!
Мы ім песню спяём, песню зычну, як гром,
    Ў ёй раскажам аб нашым народзе.

Ў ёй пець будзем аб тым, што было, ды, як дым,
    Расплылося у віхравай хвалі,—
Тую славу-пачот, якой слыў наш народ,
    Ды ўсё злыдні яму паскрывалі.

Каб ніводзін і з іх не чураўся сваіх
    Рук, пакрытых карой мазалістай;

Мовы дзедаў, бацькоў для гаворкі паноў
Не чураўся ў хацінцы айчыстай.

Хто зямлі гэтай сын, ўстаньце ўсе, як адзін!
Гэй, раздайся ты, песня ўдалая!
Хай твой зык паплыве, дзе народ наш жыве,
Долю-мачыху дзе праклінае.

Ён забыўся пяяць, ўмее толькі стагнаць;
Песні болем яго налітыя.
Хай жа зычны наш спеў ўспомне ўраз, неўспадзеў
Яму прошласці дні залатыя.

Чуць магутны прызыў да магілаў даплыў —
Разамкнуліся мігам магілы;
З-пад раскопаў зямлі цені шпарка ішлі
Хараводам між крыжаў пахілых.

Зычны родны напеў з іх грудзей паляцеў,
Словы радасцю дзіўнай пяялі;
К волі, к шчасцю прызыў дзесь над сёламі плыў,
Рассыпаючысь рэхам у далі.

І замоўк дзіўны хор. Плыла песня ў прастор,
Тоны доўга ў паветры звінелі;
Прадзядоўскі напеў над палямі ляцеў,
Потым сосны аб ім ліш шумелі.

*1914*

## У ЛЕСЕ

Як я лесам іду — на душы лёгка мне:
Я адна у лясной цішыні.

Аддыхаю душой. Тут між елак, бяроз,
Не чуваць ані енкаў, ні слёз;

Тут між іх я люблю так хадзіць і хадзіць,
Слухаць толькі, што лес гаманіць.

Часам хочацца птушкаю ўвысь узляцець,
Між зялёных галінак запець,

І шчасліва пажыць, і не бачыць бяды,
Што пануе ў людзей заўсягды.

Тут люблю я глядзець, як дубочак з сасной
Ціха шэпты вядуць між сабой;

Як з расою-слязінкай бярозка адна,
Як бы мужа схаваўшы жана,

Да зямлі валасы апусціўшы, стаіць,
Чагось сумна і нудна шуміць...

*1914*

## ШЭРАЯ ГАДЗІНА

Змяркаецца. Люблю я вельмі гэты час...
Заходзіць сонейка за лесам, за гарою,
Зямлю прамень апошні цалуе яшчэ раз,
Ноч заручаючы цалункам тым з зямлёю.

Імглою шэраю спавіўся ўвесь абшар,
Бярозка шэпчацца з чырвонаю калінай,
На небе выплылі грамады сонных хмар,
Туманы сцелюцца над волкаю далінай.

А месяц залаты праз тоўшчу хмар пралез
І з вышыні сваёй ўсю землю аглядае,
Таемна шапаціць аб чымсь пажоўклы лес
І жудась нейкую на душу наганяе.

Снуецца мар чарод... Плывуць яны з душы,
А з імі і яна у свет нязнаны рвецца.
І страшышся чагось, ў паўцёмнае цішы
То тужыш зноў за чымсь, душа удаль імкнецца

І хочацца не раз, да болю, ўсё ў жыцці
Спазнаць, адчуць самой... Ўзяць шчасце сваё з бою...
Ды ш шчасцю нам, відаць, закрэслены пуці,
І ты стаіш адна... Адна з сваёй думою.

З тугой балючаю глядзіш кудысь удаль,
У сэрцы толькі боль знянацку зварухнецца
І зноў замрэ... Ў грудзях ўскіпае нейкі жаль,
А сэрца беднае так хутка-хутка б'ецца.

*1914*

* * *

Ваал! Я ўсё ўжо спаліла на алтары...
Глядзі: высокаю узносіцца гарой
Мой попел — і няма ўжо больш ў мяне ахвяры,—
Дык не гудзі ты там пракляццем нада мной,
Бо ўсё, што мела, я спаліла на алтары...

Ахвярнік мой агонь меў вельмі загарачы:
Чуць што я клала там — згарала ўміг датла,
А я... я ўсё нясла — я не магла іначай —
Усю душу маю я па куску нясла.
А ён усё спаліў... бо вельмі быў гарачы...

Глядзі: у попеле агеньчык ледзь-ледзь тлее...
Во — згас! Не! Зноў бліснуў залочаным рубцом
(То дапаляецца астатняя надзея):
Што зоймецца ізноў гарачым ён агнём
І новая на ім ахвяра ўспламянее...

Ваал! Надзея йшчэ тліць на маім алтары,
Пад попелу ужо застыўшаю гурбой,
І хоць сягоння я не маю ўжо ахвяры,
Ты не гудзі сваім пракляццем нада мной,
Бо йшчэ надзея тліць іскрою на алтары.

*1914*

## У БЯССОННУЮ НОЧ

Ляжу я бяссонна ў цёплай пасцелі,
Вачэй не змыкае мне сон,—
А думкі снуюцца, як нітка з кудзелі,
Ды толькі не светлы, як лён.

Мне сумна. Ноч цёмна. Віхор за акнамі
Нуду навявае, шуміць;
Бярозка малая сваімі лісткамі
У шыбу паціху шуршыць.

Мне страшна!.. Мурашкі пабеглі па целе,
Наяве ўсё гэта ці ў сне?!
Во, цені нясуцца... Лятуць... Праляцелі...
Падходзяць... Ідуць да мяне!!!

Іх целы прывідны, як мгла над палямі,
А ўслед ім дым чорны ляціць;
Зялёныя вочы іх свецяць агнямі,
Агонь пад нагамі гарыць...

Во! Збіліся ў кучу, бяруцца за рукі...
Во! Круцяцца, ўюцца, лятуць...
Пакрыўлены твары іх ў болю і мукі,
Во! Песню пачалі, паюць:

«Хоць цяжка у цёмных магілах нам быці,
Хоць грудзі гніюць пад зямлёй,
Ізноў туды пойдзем, не хочам тут жыці,
Там лепш у магіле сырой».

Лятуць... Праляцелі, і слоў ўжо не чутна,
Здалёк толькі голас звініць;
Лятуць у магілы... Бо жыць так гаротна,
Як мы, дык нvarta, каб жыць.

*1914*

## НЕ МАГУ...

О не, я не магу, ў мяне не хопіць сілы
Вырваць з душы маёй і з сэрцайка майго
Маю любоў к табе, твой вобраз дзіўны, мілы...
О не, я не магу — не вырву я яго!

На мысль адну аб тым ад болі сэрца млее...
Нашто ж, нашто было цябе мне палюбіць?
Тваёй быць не магу — на то няма надзеі,—
А без цябе... О не, я не магу так жыць!

*1914*

## ЛЯЦІ, ДУМКА

Ляці, мая думка, ляці ты, галубка,
Ў далёкую даль —
У хмарку змяніся, стралою пусціся
Між ветравых хваль.

Ў ягона ваконца праменнямі сонца
Святліста зірні:
Як час ён праводзіць ці весела сходзяць
Ў жыцці яго дні?

Здароўе як служыць, ці смуціцца-тужыць
Парою за мной?
А ясныя вочы ці часам марочыць
Боль горкай слязой?

На ўсё углядайся, на ўсё прызірайся,
Усё зразумей...
Як будзе ён смутны — ты чарам магутным
Нуду ўсю развей.

Цудоўныя дзівы аб долі шчаслівай
Прад вочы стаўляй,

Аб далях святлістых, аб днях прамяністых
На ліры іграй.

Як хмарка, без цела, дух ясны, дух белы,
За ім ты хадзі
І тоненькай, кволай, ды заўжды вясёлай
Ты кветкай цвіці.

*1914*

## ПОМНІШ ВЕЧАР?

Помніш вечар? З табою мы ў чоўне былі
І па возеры сонным плылі,
Месяц круглы з блакіту на нас паглядаў,
Залацістыя косы ён путаў і рваў
У вірах, што за чоўнам ішлі...

На душы нам так светла, так лёгка было,
Мы шчаслівыя былі... Ты кінуў вясло,
І падняўся з руля, і сеў побач мяне,
І на соннай, ціхой, вадзяной раўніне
Лёгкім ветрам нас ціха нясло...

Нам з табой не хацелася там гаварыць,
Мы баяліся возера сон разбудзіць.
Маю руку ў свае ты паволі ўзяў,
Лёгка сціснуў і ціха, ледзь чутна сказаў:
«Праз жыццё гэтак будзем мы плыць».

І замоўк... Месяц з неба так ясна свяціў,
Сваім бляскам ваду ён усю залаціў.
А лазняк малады, што там рос над вадой,
Шалясцеў, і шумеў, іківаўся над ёй,
Як бы нешта усё гаварыў,

Як бы думкі свае хвалі соннай шаптаў
І лісточкі ў вадзе залацістай купаў.
Раптам вецер аднекуль здалёк наляцеў,
І трывожна і грозна лазняк зашумеў.
«Будзе бура»,— ты ціха сказаў.

З шумам хмара з-за лесу йшла з ветрам на нас,
Ў небе бліснуў маланкі агонь — і пагас,
А віхор на вадзе закруціў, зашумеў,
А на небе ўжо гром раскаціўся, грымеў,
Ў хвалях кідала човен і нас.

Ты за вёслы схапіўся і смела устаў.
Човен кідала, гнала,— ты цвёрда стаяў.
Хвалі, гнаныя ветрам, стагналі, раўлі,
З плёскам пырскалі ў човен і далей плылі;
Ты не дрогнуў,— стаяў, руляваў...

І здавалася мне, ты ўладар над вадой.
Не баялася я — толькі б ты быў са мной.
Ты прыгнуўся, спакойна руку маю ўзяў
І, заглянуўшы ў вочы мне, з моцай сказаў:
«Будзь спакойна, я тут, я з табой...»

Хоць нас вецер шалёны па хвалях насіў,
І хоць човен ён гнаў, і кідаў, і круціў,
Ані разу ад страху не ўздрыгнула я;
Бо ў руках у тваіх рука была мая,
Бо ты, любы, са мною там быў.

*1914*

## МНЕ СНІЎСЯ СОН

Мне сніўся сон, што ты у нас,
Што не чужы мне, як даўней,
Пагляд тваіх жывых вачэй
Вярнуў надзею мне шчэ раз.

Ізноў шчаслівай я была,
І сэрца радасна так біла...
Ў душы маёй была вясна,
Бо ты са мною быў, мой мілы.

*1914*

## ТУГА

Прыйшла ты да мяне ў паўночны ціхі час,
Прысела на маёй раскіданай пасцелі,
І сон мой адляцеў кудысь далёка ўраз,
І мары светлыя кудысьці адляцелі,
І былі мы з табой ў паўночны ціхі час...

І ўраз зайшлася я ў галубленнях тваіх,
Ты абвіла мяне гарачымі рукамі,
Палючых вусн агонь лёг на грудзях маіх,
А ў вочы мне сваймі панурымі вачамі
Ўпілася ты, і мёрла з мук ў абдымках я тваіх...

*1914*

## МЫ ЗНОЎ СУСТРЭЛІСЯ...

Мы зноў сустрэліся, сышліся зноў дарогі,
Ізноў я прад табой
З балючым сэрцам, дзе сабралась смутку многа,
Са змучанай душой.

Няхай жа пры грудзях тваіх я вылью слёзы,
Адкрыю хай душу;
Што сэрца абвіло вянком калючак ружы,—
Усё няхай скажу.

Паслухай, хоць цябе ўсё гэта, можа, знудзе,
Невесялы мой сказ —
Дай выказаць усё, мне гэта, можа, шчасцем будзе
У жыцці без прыкрас.

Дай выказаць усё і чуткаю душою
Душу маю сагрэй,
І будзе мне лягчэй пуцінай йсці крутою,
Жыць будзе мне лягчэй!

*1914*

## МАТЫЛЬ

Глядзела, як матыль наўздзіў залатакрылы,
Парваўшыся з зямлі, ўгару хацеў ўзляцець.
Ды дзень яго памёрк, і ён, як ліст, без сілы
Апаў зноў на траву, узняўшыся ледзь-ледзь...

Так ты ляціш усё, мой бедны дух, з надзеяй,
Так рвешся ты увысь ў жыцця няўрочны час...
Глянь, глянь, твой небасхіл змяркаецца,
бляднее...
Йшчэ дзень твой не настаў?..
Дык ён жа ўжо пагас!

*1914*

## ДЗЯЎЧЫНА

Ўжо свечка пагасла, ўжо ноч за акном...
Ў пасцелі мне душна, не спіцца...
О, сон! Ты самкні мае вочы хутчэй,
Мо мілы сягоння прысніцца!

Гадзіны ідуць, я ў пасцелі ляжу,
І сон не смыкае мне вочы,
А месяц праз вокны лье свет залаты,
Малюнкамі сцены залоча...

Устану з пасцелі, акно адчыню,—
Мо вецер, што ў полі гуляе,
Мне скажа, што робіць мой мілы цяпер,—
Мяне, як даўней, ці кахае?..

У небе спакойна так зоркі дрыжаць,
А ветрык лісточкам шапоча;
Запеў салавей звонкай трэллю сваёй,—
Заплача, то зноў зарагоча...

І ветрык, і зоркі, і месяца свет,
І звонкая трэль салаўіна,
Здаецца, што гэта гукае ўсё мне:
— Цябе ён кахае, дзяўчына...

А ночка халодна: ўжо чую, як мне
Дрыжанне пабегла па целе;
Іду ўжо, лажуся ў цёплай маёй,
І мяккай, і белай пасцелі...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Заснула дзяўчына, а месяца свет
На вочы і вусны лажыцца,
Праз сон штось смяецца дзяўчына мая:
Відаць, што ўжо мілы ёй сніцца.

*1914*

## ЧАМУ?

Скажы, мілы, чаму —
Толькі гляну я ў вочы твае —
Мне здаецца, што ноч прад сабою я маю?
Так глыбокі яны, як яна,
І так ясны, як зоркі яе.
Ажно часам я вочы свае прыжмураю...

Скажы, мілы, чаму
У глыбокае іх глыбіні,
Як на кніжцы падчас — так чытаць я гатова?
Уся глыб твайго сэрца у іх
Чорна-ясным атсвеціцца дне,
Адаб'ецца ляпей і ясней, як у словах...

Чаму з сілы усёй
Часам хочацца мне закрычаць:
Не глядзі — адвядзі ад мяне свае вочы!

Бо ўсё тое, што часам у іх
Мне удасца ўглядзець, прачытаць,
То мне розум, душу і ўвесь свет замароча?..

Не глядзі!.. Я — ў сваю,
Ты ў сваю у старонку пайдзём;
Мы — чужыя, чужымі і будзем век цэлы,
Хоць твой позірк, як бондар які,
Усе думкі мае абручом
У адзін круг скаваў, круг чароўны і цэлы...

Будзь здароў жа цяпер!
Я іду — мне пара ўжо ісці!
Не глядзі — ўжо і так душа поўна табою...
То, што ў сэрца ты мне заранiў,
Як твой светач у цёмным пуці.
Будзе вечна ісці і свяціць прада мною.

*1914*

## НЕ ГЛЯДЗІ...

Не глядзі на мяне... Маё сэрца так б'ецца, дрыжыць;
Твае вочы ўва мне запаляюць нязгасны агонь,
Ты глядзіш на мяне — без цябе мне не хочацца жыць.
А з табой не магу — не магу жыць ніколі з табой!

Не глядзі! Твае вочы яснеюць, як неба удзень,
Як бы зоркі у небе — так ясна, так мякка блішчаць;
Мой пагляд у іх тоне, бы ў той, у марской, глыбіні...
Не хачу ўжо глядзець, а вачэй не магу адарваць.

Не глядзі! Ты глядзіш, а тады так хацелася б мне
Пабляднелы мой твар да грудзей да тваіх прытуліць
І глядзець ў твае вочы ўвесь век і наяве, і ў сне...
Не хачу... А цябе не магу, не магу не любіць!

*1914*

## Я ШУКАЛА...

Я шукала цябе, мілы мой, ўжо даўно,—
Я шукала цябе, выглядала
Вось такога, як сніўся ў дзявочых мне снах,
Хоць тады я цябе йшчэ не знала!

Хоць ніколі цябе йшчэ не бачыла я —
Ты мне сніўся штоноч такі самы,
Як цяпер вось стаіш, поўны дзіўнай красы,
З прамяністымі ўзгляду лучамі.

Дай руку мне — будзь братам маім дарагім,
Пойдзем разам жыццёвай дарогай,
Мо тады чуць не будзем так моцна цярнёў,
Што калечаць бязлітасна ногі.

Хадзі, пойдзем па гэтай пуціне вузкой —
Нам гасцінец адкрыецца біты,
Тканы золатам кветак, брыльянтаў расой,
Траўкі шоўкам зялёным расшыты...

Дай мне руку! З далоняй ў тваёй далані
Сэрца з сэрцам, а душа з душою
Пойдзем, моцныя сілай кахання свайго,
Мы жыццёвай дарогай — красою!

*1914*

## ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ

Плыла яна, лілась, як громы, так магуча
З прапоўненых грудзей, з прапоўненай душы;
Як ветры, лёгкая, як буры, так кіпуча
Прамчалася кудысь ў пустыннае цішы.

Мільёны тонаў там, у песні тэй спляліся:
Любоў, нянавісць, гром, агонь і бура ўраз.
Той, з чыіх грудзей такія зыкі паліліся,
Раз першы у жыцці пяяў, ды ўжо ў апошні раз?

І змерлі тоны дзесь ў пустыннай сумнай далі,
Без рэха расплыліс у невядомым краю
І горны вецер там высока ўскалыхнулі...
А лебедзь?.. Ён памёр, спяяўшы песнь сваю...

*1914*

* * *

Дзе Вільня у Нёман ліе свае хвалі,
Я ў сумнай задуме стаю;
Купаецца месяц ў вод чыстым крыштале,
Яны ж з ціхім шумам плывуць усё далей,
Душу к сабе цягнуць маю.

Здаецца, штось шэпча у цёмнай глыбіне,
Здаецца, штось маніць, заве:
— Хадзі,— ў нашай глыбі ціхой адпачынеш,
Журба ўжо ліхая навекі загіне,—
Тут толькі ўцячэш ад яе.

— Хадзі,— мы ў нашы сярэбраны хвалі
Спаўём, як дзіцятка, цябе,
І рыбак адгонім, каб сну не зганялі,
І скажам, каб вербы шумелі, пяялі —
Сны-байкі шапталі табе!..

*1914*

## АДНА

Адна, ізноў адна, як колас той у полі,
Не сцяты ў час жніва нагостраным сярпом,
Зламаны ветрамі гулячымі на волі
Між апусцелых ніў, спалосканых дажджом.

Адна, ізноў адна... Тужліва сэрца ные.
Наўкола пуста, глуш. Ноч цёмная стаіць.

А за акном віхор так жаласліва вые,
Як бы сканаць не мог, не хочучы больш жыць.

І сумна, сумна мне. Дзе ж той, каго любіла?
Дзе ж тыя, што мяне любілі так даўней?!.
Адны забыліся, другіх ўзяла магіла...
І жаль мне прошлых мар, шчаслівых шкода дней.

Адна, ізноў адна... А вецер думцы ўторыць,
І стогнамі мяне ўцяшае ён сваймі:
— Я — брат табе, я друг, — мне, стогнучы, гаворыць, —
Адзін нас ломіць боль — дык плачмо ж разам мы!..

*1914*

## КУРГАН

Там, дзе быстраю хваляю рэчка плыве,
У даліне між цёмнага лесу,
Прытаіўся высокі зялёны курган
Пад плакучых бярозак завесай.

Руж здзічэлых кустамі зарос ён увесь,
Хто садзіў іх — ніхто тут не знае,
Між руж камень стаіць; пазалоту з яго
Сцёрла часу рука векавая.

А на камені надпіс: «Пад тым курганом
Ляжаць двое — хлапец і дзяўчына:
Паб бярозкай зялёнай схаваны Янук,
Пад кустом ружы дзікай — Галіна».

Хто іх тут пахаваў і былі кім яны —
Надпіс гэты не кажа нічога.
Аб усім давялося даведацца мне
Ад вандроўнага дзеда старога.

— Шмат гадоў працякло, як было гэта ўсё, —
Пачаў дзед. — На гары над далінай
Двор вялікі стаяў. У двары тым жыў пан
Нейкі з дочкай прыгожай, Галінай.

Тут, бывала, штоноч цэлы двор у агнях;
Шмат паноў адусюль наязджае,
Цэлу ноч п'юць, пяюць і гуляюць яны;
Без устанку музыка іграе,

А чуць свет раз'язджаюцца ўсе, хто куды;
Спаць кладуцца і пан і дружына.
Як замрэ цэлы двор... Адна толькі не спіць
У дварэ маладая Галіна.

Яна хутка ўстае, бо пад дубам ужо
Янка ціха на дудцы іграе,
Тут, бывала, штодзень статак белых авец
Ён на пашу у лес прыганяе.

І прыгожы ж быў Янка: хлапец, хоць глядзі!
Твар, як кроў з малаком памяшана;
А яго валасы чорны й цёмны, як ноч,
У стручочкі былі пазвіваны.

Там, бывала, пад дубам пасядуць яны,
Ціха-ціха на дудцы ён грае,—
Стада белых авечак паляжа укруг,
А Галіна вяночкі сплятае.

Але трэба ж бяды. Адзін пан малады
Прысылае сватоў да Галіны.
Бацька рад, на вяселле склікае гасцей,
Хоць не хоча йсці замуж дзяўчына.

У двары зноў банкет: п'юць, гуляюць, пяюць,
Рой дзяўчат маладую ўбірае:
Яна ж, вочы самкнуўшы, на крэсле сядзіць,
Толькі белыя рукі ламае...

Потым ўстала, памалу ідзе да дзвярэй...
— Пачакайце, вярнуся! — сказала.
На дварэ чакаў Янка — на рукі яго,
Абамлеўшы, Галіна упала.

Час ляцеў — маладая назад не ішла...
Праляталі мінуты, гадзіны...
Над ракой нейкі крык... скаланулась вада...
Ў ёй прапалі Янук і Галіна...

Тут, пад тым курганом, бацька іх пахаваў...
Скончыў дзед і закрыў твар рукою;
Па сівой барадзе ўперагонку з сабой
Плылі ціха сляза за слязою.

— А скажы мне, стары, адкуль ведаеш ты
Ўсю гісторыю Янкі й Галіны?..
Тут стары памаўчаў і, абцёршы слязу,
Мне сказаў: — Янук быў маім сынам...

*1914*

## РУСАЛКІ

Месяц. Ноч. У нізкіх долах туманы зямлю пакрылі,
А над возерам так ціха-ціха дрэўцы шалясцяць,
Ўсё заснула, спачывае ў халадочку летняй ночы.
Зоркі ў небе так спакойна і таемна так дрыжаць.

Не ўздрыгне, не скалыхнецца возера гладзь люстраная;
Месяц, зоркі залатыя праглядаюцца у ёй...
І з падводнага палаца пагуляць на сонных хвалях,
Ў бляску месяца купацца вылецеў русалак рой.

Мглой сярэбранай адзеты; косы — быццам залатыя;
Вочы сінія, як неба, як бы зорачкі, блішчаць.
Ўсе вясёлы, на лісточках водных лілій пасядалі,
І на месяц пазіраюць, і штось ціха шапацяць.

Адна толькі невясёла, твар рукою закрывае;
Стогн пакуты з набалелых вырываецца грудзей;
— Дзе ж, о дзе ты, дарагі мой?! Ці ж не лепей
тут са мною,
На дне возера, жыць вечна, як на свеце між людзей?

Ці не лепей тут чуць зоры; на шырокім вод абшары
Вечна толькі весяліцца і без гора вечна жыць,—
Як на свеце праз век цэлы, быццам рыба аб лёд, біцца,
Праз век цэлы працаваці, ў недастатку вечна быць?

О, прыйдзі, прыйдзі! З табою ўдзень на водных
траў пасцелі
Аж да вечара дзень кожны будзем мы спакойна спаць,
А чуць месяц зноў засвеціць, па люстранай вод раўніне
Будзем лёгка пранасіцца, і купацца, і гуляць!..

Да русалак даляцела жальба сплаканай русалкі,
І, сарваўшыся, ўсе роем да яе яны бягуць,
А з-пад ног іх, у брыльянты прамяністы пазмяняны,
З шумам пырскі вадзяныя паднімаюцца, лятуць.

І, пабраўшыся за рукі, ўсе русалкі лёгкім колам
Каля сплаканай русалкі сталі весела гуляць,—
Да сябе яе прасілі і смяяліся, круцілісь,
Ўрэшце ціхім стройным хорам пачалі яны пяяць:

— О, не плач! Не плач, сястрыца, што твой мілы
не прыходзіць.
Прыкажы, і, што ты хочаш, мы ўсё табе дадзім!
Толькі ты аб ім не думай! Во, глядзі: схаваўся месяц.
Хадзі! Разам у палац мы наш падводны паляцім.

І яе за рукі ўзялі — лёгка-лёгка, у такт песні,
Закруціліся, прапалі у халоднай глыбіні.
Сціхла ўсё... І толькі ўдалі спеў русалчын раздаваўся.
І па сонных вод раўніне данасіўся да мяне...

*1914*

## КУРГАННАЯ КВЕТКА

На сухім, сухім кургане,
Дзе ад спёкі траўка звяла,
Сярод лому, на бур'яне
Мая кветка красавала.
Калыхаў яе не ветрык,
Палівала не вадзіца,
А гарачых слёз расіца,
А уздыхі з глыбі нетры.

Не дзівіся ж, што балесна
Лепясткі яе шапочуць.
Ціхай скаргай, сумнай песняй,
Быццам ласкі просяць, хочуць;
Быццам моляць аб спагадзе
Болем цяжкім, непраможным...
А ты... ціха, асцярожна
Палі кветку ў смерці садзе...
Акрапі жывой вадою
Веры ў шчасце і надзеі,
І другою мо красою
Сэрца-кветка зарунее,—
І мо кіне на бур'яне
Да зямелькі прыпадаці,
Слёзы-росы праліваці,
На магіле, на кургане...
І мо зробіш, што красою
Яна новай заяснее,
Пахам шчасця і надзеі
Узнясецца над зямлёю.
І мо зробіш, што высока
Яна ўзнімецца угору
І засвеціць бляскам зораў
На палёў прасцяг шырокі...
Бо не плачкай ёй радзіцца,
Ценем смерці не ўзрастаці,
А жывой красой ірдзіцца,
К сонцу, п шчасцю заклікаці.

*1914*

## НА СМЕРЦЬ БРАТА Э. БУЙЛО[1]

Мне снілася, прыйшла яна у белай шаце,
З вяночкам на чале з цянюткіх ветак елі,
І, быццам добрая, кахаючая маці,
Схілілася к табе, ляжачаму ў пасцелі,

---

[1] Загінуў у баі на Заходнім фронце 20 чэрвеня 1917 г.

Кранулася чала, гарашчага ад болю,
Глыбокіх ран тваіх кранулася рукою.
Ты ціха застагнаў і трызніць стаў аб волі,
Аб шчасці, аб жыцці...
        Панікла галавою
Яна... І слухала...
        Так прагна бор таёмны
Спеў птушак слухае, замёршы ў ціхай позе,
Так ловіць крык жыцця ціш ночы чутка-цёмнай,
Так гіне мар уздым у буднічнасці прозе...
Гарачы шэпт замоўк,
        І немае бяссілле
Змяніла палкі стогн...
        Ляжаў ты сонны, белы...
А змроку шэрага прывідныя йшчэ крыллі
Абнялі лёгка свет з лагоднасцю нясмелай.
Смерць таяла у мгле...
        А над тваёй краваццю
Мрок сеяў зерні сну...
        І грудзі уздымала
Дыханне...
        У гэты час далёка ў роднай хаце
Чыясьці маці слёзы палка пралівала...
Ды то быў толькі сон...
        Яе кахання сіла
Не вырвала цябе з абдымкаў смерці чорных.
Дык спі ж ты вечным сном спакойна,
                                        брат мой мілы.
А ветрык лёгенькі у ціхі час вячорны
Шапоча хай табе аб радасці спакою
Пасля трывог жыцця...
        Нізанку слёз гарачых
Табе прынесла я з бяскрайняю тугою...
Я мару аб адным, што смерць тваю аплача
Забойца не слязьмі, а чорнаю крывёю:
Надыдзе гэты час! Загіне вораг люты;
Чырвоны, як упыр, п'яны крывёй народаў,
Ён сеяў смерць;
        І для яго атрутай
Вясняны будзе воблік радаснай свабоды,—
Прабіўся цераз цьму яе прамень гарачы.
Спі, мілы браце мой, у цішы і спакою.
Мы помсцім за цябе. І смерць тваю аплача
Забойца не слязьмі, а чорнаю крывёю.

# КВЕТКА ПАПАРАЦІ

**Фантастычны абразок
у адной дзеі**

АСОБЫ:

Хам — Русалкі

Рэч дзеецца на Яна Купалу. Лес. Месяц свеціць. Хам у мужыцкай вопратцы выходзіць на акраіну лесу. Пагляд яго мутны; павароты цікаючыеся, перапалоханыя.

Хам

Гадзіны ўюцца кругом,
Выюць у імшарах ваўкі...
Во!
*(Адступаючы.)*
Чорт ляціць за чартом,
Б'ючы хвастамі ў бакі...
Ведзьмы з балота паўзуць —
Ўсе у балотнай ціне —
Штосьці жудліва пяюць.
*(Сцеражэцца,
быццам ад удару.)*
Граззю кідаюць ў мяне.
Енча пад нагамі мох,
Штосьці так вые ў кустах,
Валежнік ліпне да ног,
Па спіне бегае страх.
*(Адыходзіць.)*
Пайду...
*(Спыняецца.)*
Во, ведзьмы — за мной!
Вочы гараць іх агнём...
Во, як лятуць грамадой!
*(Слухае.)*
Во, во, аж стогне дзесь лом.
*(Бяссільна.)*
Не, я ўжо больш не магу!
За што ж мук столькі здарма?!
Выбіўся з сілы ў бягу —
Кветкі ж няма і няма.
*(Аглядаецца.)*

Лягу лепш; ўрыюся ў мох,
Вочы схаваю ў руках
Мо не ўгледзяць, дзе я лёг,
Мо крыху ўвоймецца страх.
*(Кладзецца*
*і пачынае драмаць.)*

Лес раптам асвечваецца зеленаватым светам. З горкі ўніз да Хама спускаюцца русалкі. Валасы іх распушчаныя; белыя свабодныя вопраткі спадаюць да зямлі; на шырокіх рукавах даўгія разрэзы, на галовах — зелень. Наперадзе ідзе адна і трымае ў руцэ Кветку Папараці.

1-я Русалка
*(становячыся над Хамам)*

У верас прыкрыты,
На сілах разбіты,
На моху ён сонны ляжыць,
  А над галавою
  Цвет-шчасце зарою
Святлістай, ірдзістай гарыць.

2-я Русалка

  Ачнісь! Гэта кветка
  Адзін раз улетку
Хвіль колькі, адно бач, цвіце.
  Цяпер твая доля
  Праміне; ніколі
Не зловіш, не згоніш нідзе.

3-я Русалка

  Сон мёдам заклеіў,
  Сон макам засеяў,
  Сон вочы марочa яго;
  Сон сілы папутаў,
  Сон думкі паблытаў,
А ён — ён не чуе таго.

4-я Русалка

Ты спіш, але скора
Прачнешся...

2-я Русалка

Не ў пору.

4-я Русалка

Другая світае пара.
Тады лес румотам,
Ні ведзьмы [redacted] балота
Цябе не пражэне мара.

5-я Русалка

Ты спіш, як дзяціна,
А прыйдзе часіна —
Устанеш — твой прыйдзе чарод;
Бляск зор залаценькі,
Луч сонца ясненькі
З блакітных дастанеш высот.

Усе Русалкі
*(беручыся за рукі)*

Раскажмо, сястрыцы,
Пра ўсе небыліцы,
Каторыя збудуцца з ім;
Хай чуе, хай знае,
Яго што чакае,
Што збудзецца скора — аб тым
Раскажмо, сястрыцы!

4-я Русалка
*(выпускае рукі,
пасля працягвае іх
над Хамам, быццам
у гіпнатычным сне)*

Шырока граніцы
Раскінуліська ўладства твайго,—
Далёка, шырока,
Не скінуці вокам,
Вумом не абняці таго!..
Во, рэчныя хвалі,
Сінёвыя далі,
Палёў каласістых абшар;
Барок во зялёны
Дрыжачай каронай

Купаецца ў небе без хмар.
Жыццё б'е крыніцай,
Ажыўчай вадзіцай,
А чыстай, вось, быццам сляза!

1-я Русалка
*(бярэ 4-ю за руку)*

Дзе бачыш ты гэта?

4-я Русалка

Там вечнае лета,
Там вечная шчасця краса!

2-я Русалка

Чый край той шчаслівы?

4-я Русалка

Зноў бачу, о дзівы!
Штось рушыцца, сыплецца ў пух.

Русалкі
*(да сябе)*

Аб чым гэта мова?

4-я Русалка

Разбіты аковы.
*(Радасна.)*
Свабодна ўзлятае...

Русалкі

Хто?

4-я Русалка

Дух!

Русалкі

Ды чый?!

4-я Русалка

Чалавека!

Русалкі

Якога?

4-я Русалка

Адвеку
Што лямку няволі цягнуў.

Русалкі

Дзе, дзе? — мы не бачым.

4-я Русалка
*(выпростваючыся, з моцай)*

Досць енку, досць плачу:
Ўладар к сабе ўладства вярнуў!

Русалкі

Ды дзе ён?

4-я Русалка

Зарою
Над роднай зямлёю
Усходзе... во — сонцам гарыць.
Высока пад неба
Азвецца, і глеба,
Бы ліст на вышыне, дрыжыць.
З чала дзве зарыцы —
Дзве родны сястрыцы
Праменні сплятаюць свае.
Да хмар даланёю
Дастаў ён адною,
Другой да зямлі дастае.

Русалкі

Ўладар наш! О, мілы!

Хам
*(пачынаючы варушыцца, бармоча праз нос)*

Мяне — да магілы?
Да раю?.. Чакайце!..

4-я Русалка
*(нагінаючыся над ім
і ўпёршы ў яго вочы)*

Чаго?

Хам
*(громка)*

Я жыць, жыць хачу я!..

Русалкі

Сон думкі бунтуе,
Сон марамі страша яго.

4-я Русалка

Кажы, чаго трэба?

Хам
*(бармоча)*

Крывавае неба?..
Га! Ведзьмы дзве душаць мяне...
Во — кажа — цалуе.

4-я Русалка

Кажы больш!

Хам

Хачу я
Сваб...
*(Абрывае і бармоча.)*

Русалкі

Зморы дзве бача у сне!..

Хам
*(бармоча)*

Во, ведзьмаў шчаняты,
Во, во, чарцяняты
Масцяцца, каб як укусіць.
Вон!

Русалкі
*(паміж сабой)*

Што, што ён кажа?

Хам

Вон, племя уража!
Вон! Сонца маё ўжо гарыць...

4-я Русалка
*(бярэ кветку з рук 1-й*
*і становіцца над*
*бармочучым Хамам)*

Ўстаў дух твой, ды цела
Тваё абамлела,—
Яму йшчэ не час уставаць;
Ды йдуць часы тыя,—
Яно ўміг ажые
І пойдзе ствараць, будаваць.

Рэха

Як цемра загіне,
Як ночка праміне,—
Тады пара прыйдзе ўставаць!

Русалкі
*(усе колам)*

Глянь,— месяц бялее,
Глянь,— цемра радзее,—
Ўраз пойдзем ствараць, будаваць.
*(Русалка кідае кветку*
*яму на грудзі.*
*Месяц гасне.*
*Хвіліна — цёмна зусім.*
*Русалкі спяваюць.)*
Глянь,— месяц бялее,
Глянь,— цемра радзее,—
Ўраз пойдзем ствараць, будаваць!..
*(Русалкі разбягаюцца;*
*голас ціхне; ўдалі — за лесам —*
*разгараецца зара раніцы.)*

*Заслона.*

*1914*

# СЯГОННЯШНІЯ І ДАЎНЕЙШЫЯ

**Драма ў 3-х дзеях**

АСОБЫ:

Гаспадар — шляхціц, стары ўдавец.
Раман — малады сын яго, які скончыў школу.
Саўковіч, Панкратоўскі — старыя шляхты, госці Гаспадара.
Ганулля — сялянская дзяўчына.

## ДЗЕЯ І

Дзея адбываецца ў двары Гаспадара. Сталовы пакой; над сталом гарыць вісячая лямпа, на стале — выпіўка і закуска. Гаспадар і госці выпіваюць і закусваюць. Раман стаіць ля акна. Вечар. Час летні.

Гаспадар
*(наліваючы і падымаючы чарку)*

У вашы рукі, паноўе!

Госці

Дай Божа вам на здароўе!

Панкратоўскі

Мёд ваш, відаць, ох, старэнькі?
Гляк, бач, ад моху сівенькі...

Саўковіч

А які колер! Ірдзіцца,
Як тая ў маі расіца.
А як нутро сагравае!

Гаспадар

О! лет за сотню ён мае...
Ды піце ж толькі, паноўе!
*(Падымаючы чарку.)*
За гасцей мілых здароўе!

Госці

Дай Божа!..
*(П'юць і закусваюць.)*

Панкратоўскі
*(падміргваючы на Рамана)*

Пане Рамане,
Шак мёду хіба ўсім стане —
Гляк, бач, вялікі. Хадзеце!
*(Наліваючы мёду.)*
Ну, да мяне вось прапеце.

Раман
*(ад акна)*

Дзякуй! Нядобра мне нешта,—
Вып'ю — горш будзе дарэшты:
Штось галава разбалелась...

Саўковіч

Думка якаясь засела.
*(Да Рамана.)*
Хоць мы ўжо, брат, і старыя,—
Прайшлі ўжо часы нам тыя...
Ды знаем гэта, ох, братка,—
Псуюць вам дзеўкі парадкі
І ў галоўцы, і ў сэрцы,
Пакуль не стаў на каберцы.
*(Смяецца. Да старых.)*
Скуль яны толькі умеюць?!
Проста дурманем павеюць...
*(Дражнячы.)*
Вось, як начне вышчарацца,
Бокам глядзець, усміхацца
Ды лезці мухай у вочы,—
Ад мёду горш замароча.
*(Да Рамана.)*
Ты, братка, іх сцеражыся,
Маладым, бач, не жаніся,
Бо ўжо як з бабай звязаўся,
З жыццём навекі расстаўся.

Раман
*(насмешліва)*
Дзякуй за раду!

Гасападар

Жаніцца?!
Э, трэ йшчэ жыць павучыцца,
А то ўсё толькі па кніжцы...
Так стравы збракне у місцы;
За бацькам век не пражыці:
Мне ўжо пара адпачыці.
*(Налівае.)*
Ну, паны, йшчэ во па чарцы!..

Панкратоўскі
*(з усмешкай да Рамана)*

За поступ ваш у гаспадарцы!
Ды толькі, пане Рамане,
Вас кніжка болей, бач, мане,
Як валы, коні й кароўкі.
Ну, за здароўе галоўкі!
*(П'е.)*

Раман
*(горка)*

Дзякуй! Ды толькі, мой пане,
Мяне ўжо й кніжка не мане.

Саўковіч

Пажджы, як дзеўка якая
У галоўцы думкі зблытае,
Залатым путам акруце,—
Пойдзеш, як конь у хамуце.
Выйдуць «ідэі» з галоўкі,
Будуць валы і кароўкі,
Будзе і грошыкаў многа;
Ўсім гэтаксама дарога.

Гаспадар

Дай Божа! Гэтак і трэба.
Зямлі досць будзе і хлеба...
Ну, піце, ешце, паноўе!

Панкратоўскі

За ўсіх дзевак здароўе!
*(П'юць. Раман паглядае*
*ў акно, ўрэшце*
*выходзіць у дзверы.)*

Панкратоўскі
*(да Гаспадара)*

Дык вашы, мілы суседзе,
Так недалёка заедзе;
Яму не быць гаспадарам,
Толькі — якімсьці пісарам.
Якіясь новыя йдэі
Яму там горад навеяў:
Ён з мужыком за пан-браты,
Ходзе ў мужыцкія хаты —
Наўкол гавораць так людзі.

Саўковіч

Ён гаспадарам не будзе,
То гэта болей як пэўне;
Маёнтак страціць дарэмне.
Кажуць, што ён з мужыкамі
Вось так, як быццам і з намі;
Руку ім, бач, падавае —
Гэта ж прыкмета благая.

Гаспадар

Я гэта й сам, браткі, бачу,
Ды як жа ж зробіш іначай?
Са мною дзіўна ён скрыты.

Саўковіч

Ды ці ж у цемя ён біты?!
Маёнтак ваш яшчэ, пане.
Як гаспадарыць ён стане,
Тады лад новы пакажа.

Панкратоўскі

Ось, я вам, браце, параджу:
Вы яго лепш не трымайце,
А ў семінар'ю аддайце —
Гэта хлеб лёгкі і пэўны.

Саўковіч

Там — ксёндз-прафесар мой крэўны,—
Вось і пратэкцыя будзе.

Гаспадар

Дайце ж падумаць мне, людзі.
Мо гэта й добра?

Панкратоўскі

Вядома!
Малодшы хай будзе дома,
Ды яму кніжнай навукі
Не шмат даваць трэ ў рукі;
Нашто памешчыку трэба
Зоры лічыць сярод неба,—
Ён не на зорах хлеб сее;
Лепш гаспадарыць хай ўмее.

Саўковіч

Гэта — найлепшая штука.
Нашто ім гэта навука?
Толькі ў галовах мароча.

Гаспадар

А як Раман не захоча?

Саўковіч
*(скора)*

Ну, а вы ж, браце,— не бацька?
Толькі вазьміцеся хвацка...

Панкратоўскі

Бачыце, справы такія:
Ён нам парадкі старыя
Псуе. Сышоўся з хамамі,
Як бы з якімі сябрамі,
На полі з імі гукае...
Ці ж пану так выпадае?
Так скора жаднай пашаны
Хам меці не будзе для пана.
Ксёндз — гэта іншая штука:
Век будзе з хамам ён гукаць,
А той ў ём бача паў-бога.
Раману гэта дарога
Ў жыццю найлепш надаецца.

Дык ці ж тут слухаць дзіцяці?
Яго няма й што пытаці,
Ці хоча ён, ці не хоча.
Тут бацькі роднага вочы
Ўбачылі шчасце для сына —
Вось і ўся гвалту прычына.

Саўковіч

Пэўне!.. Сын біскупам будзе,
Вось і ты выйдзеш у людзі,
Ці ж не?.. Ён мусіць паддацца,—
Мудра трэ толькі ўзяцца
Хітрыць.

Гаспадар
*(горача)*

Свет цэлы парушу,
А бацькі слухаць прымушу:
Ксяндзом ён будзе!

*Заслона.*

## ДЗЕЯ II

Стары панскі сад. Пад дрэвам лаўка. На небе свеціць месяц. З-за кустоў паказваецца Гануля.

Гануля
*(азіраючыся)*

Няма йшчэ! Што ж гэта такое?
Мо здарылася штосьці благое?
Сягоння мяне стара маці
Трымала так доўга у хаце;
Ўжо думала, тут ён — чакае,
Аж не — наша лаўка пустая...
*(Паўза.)*
Ды прыйдзе Раман мой міленькі,
Саколічак мой даражэнькі;

Ён знае, што жджэ тут Ганула,
Уцёкшы тайком ад матулі.
Мо ён ў кустах дзе схаваўся?..
*(Прыслухоўваецца.)*
Во шорах якісьці раздаўся.
*(Падыходзіць да кустоў*
*і варочаецца назад.)*
Не — пуста — няма там нікога!
*(Сядае на лаўку. Задумваецца.)*
Вось звёў Бог у адно дзве дарогі,—
Ніколі і ў сне не прысніла,
Ды вось паніча палюбіла,
Раманку майго дарагога...
Вось дзіўная долі дарога!
*(Паўза.)*
Ды дзіва ж было пакахаці!
Такога з лучынкай шукаці,
Як гляне — што мёдам памажа,
Бы сонцам сагрэе — як скажа;
Вось слухаць і слухаць здаецца —
Так гутарка складна ліецца.
*(Паўза.)*
Якраз год таму мы спатkaліcь:
Я помню — ў дварэ жыта жала,—
Гукаў ён са мной і смяяўся...
Такім мне у сэрцы й астаўся,
Заўсёды такім яго бачу,—
Ды як жа ж быць можа іначай,
Калі ў сне, наяве, дзень з ночай
Стаяць мне ў вачах яго вочы.
*(Са стараны двара*
*выходзіць паніч.*
*Ганула зрываецца.)*
О, йдзе ўжо, ідзе мой Раманка!
Не дарма чакала тут Ганка.
*(Падбягае да яго.)*
Даўно ўжо, мой мілы, чакаю...

Р а м а н
*(вочы яго свецяцца каханнем,*
*прыцягвае да сябе Ганулю)*

Выбач мне, мая дарагая...
Ды к бацьку прыехалі госці,

Сядзелі там доўга чагосьці,
Ці, можа, мне ўжо не цярпелась —
К табе ісці, Ганя, хацелась.
*(Цалуе яе.)*
Мая ты святляная зорка!..
*(Паўза; уздыхаючы.)*
Ох, мучыць мяне іх гаворка!

Ганулі

Мой мілы!..
*(Сядаюць на лаўцы.*
*Ганулі кладзе галаву*
*на грудзі Раману.*
*Месяц свеціць праз галіны.)*

Раман

Ганулька! Кахаеш?..

Ганулі

А ты йшчэ аб гэтым пытаеш,
Мой мілы саколік! Мой Божа,
Ці больш хто кахаці ўжо можа?
Ці со сну ўстаю, ці кладуся,—
Табе так, як Богу, малюся:
Ці тку, ці праду лёну жменькі,—
Стаіш ты ў вачах, як жывенькі,—
Забудуся, што і рабіла.
На сэрцы так лёгка, так міла,—
Аж дзівіцца часам матуля:
«Што гэта з табою, Ганулі?
Што тут за такая прычына?
Дурэеш чагосьці, дзяўчына».
А я памаўчу, засмяюся,
Ды зноў за работу бяруся.
А ты йшчэ пытаць, ці кахаю?..

Раман
*(з дзіўным смуткам*
*і каханнем у голасе)*

Ганулі мая дарагая,
Мой светлы праменьчык сонца
Ў жыцця майго цёмным ваконцы!

*(Паўза. Горка.)*
Пракляты той дзень і гадзіна,
Як пана радзіўся я сынам,
Як зводнай навукі туманы
Зацьмілі мой свет счараваны,
Даўнейшую веру забралі,
А новай — ні ў вошта не далі!..
Бывала, шапталі мне зоркі
Знаёмыя сэрцу гаворкі,
І сніўся ўгары мне дом Бога
З праменнай малочнай дарогай,
Палёў шыр, луговы каберцы —
Наўкол ўсё так блізкае сэрцу...
Сягоння усё ўжо іначай —
У іншых калёрах ўсё бачу.

Ганул я

Чаму гэта, мілы?

Раман

Бо былі,
Бач, людзі, што думаць вучылі;
Мне веру старую забралі,
А ўзамен нічога не далі.

Ганул я

Ты, мілы Раманка, сын пана,
Разумны ты, адукаваны,—
Не ўсё я пайму, што учую,
Ды бачыш, я гэтак мяркую:
У Бога ліш верыць нам трэба,
Што мае свой дом сярод неба,
Што месячык даў залаценькі,
Каб нам ён свяціў, найміленькі;
Даў сонца праменне, каб грэлі,
Даў птушкі, каб песні нам пелі;
І зоры, што ноч запаляе,
Рука яго ў небе святая,
Каб дзе не блудзіў падарожны...
Глянь, кожную траўку, куст кожны —
Ўсё гэта даў добры Бог з неба,
За тое кахаць яго трэба.

Раман
*(цалуе галаву Ганулі)*

Мая ты галубка малая,
Ганузя мая дарагая,
Чаму ж я не маю той веры?
Чаму ж мой свет гэтакі шэры?
Як гляну я розуму вокам —
Так неба не бачу высока,
Абшар там, як сажа, так чорны
Раскінуў хтось дзіка праворны,
А зоры у гэтым абшары
Палаюць адвечным пажарам;
Іх хтось запаліў там адвеку,
Нашто? — знаць не даў чалавеку.
І дарма на за́гадкі свету
Даём мы разгадкі ўсё гэты,
Бо мром, не згадаўшы нічога...
Там блудная вельмі дарога.

Гануля

Ды як жа гаворыш ты, мілы? —
Ўсё гэта нам боская сіла
Дала, што на свеце мы маем.

Раман

Не, Ганка мая дарагая!
Ўсё, гэта ўжо быўшы ад векаў
Зрадзіла з сябе чалавека.

Гануля
*(абдымаючы яго)*

Ты дзіўна гаворыш, Раманка,—
Не пойме цябе твая Ганка...

Раман

Хай, Ганю, душа маладая
Твая лепш аб гэтым не знае;
Ўсё гэта не дасць нам нічога,
Ліш будзіць у думках трывогу...
Я часам хачу так забыцца
Ўсяго, чаму мусіў вучыцца
І жыць, як той люд наш вясковы,
Спакойны, вясёлы, здаровы,—
Ніводная думка благая

Яму сну з вачэй не зганяе;
Хоць гора часамі акруціць,
Хоць голад, хоць холад дакучаць,—
Яго дух, як тая крыніца,
Бурлівай вадой не бурліцца.
Яго боль — то верхнія хвалі
На рэчкі спакойным крышталі;
Як хвалі — і ён так праміне,
Не змуціўшы вод на глыбіні,—
Дый зноў з ціхай моцай струіцца...
А іншы ёсць дух, як крыніца:
З нутра яго бурны патокі
Лятуць, грымяць хваляй высока,
Пакуль унутры сіл хапае;
Няма іх — і ўсё замірае,
І гіне жыццё чалавека...
Так ёсць, і так была адвеку.
*(Паўза. Спакайней.)*
Мяне да вясковага люду
Дух цягне іх — вольны ад жуды;
Яны не цікуюць нічога —
І простая ўсюды дарога:
«Усё даў нам добры Бог з неба.
За тое кахаць яго трэба».
Ім свет аб сабе сам гавора.

Ганул я

Ты кажаш: няма у іх гора,
Раманка міленькі. Дарэмна:
Яны больш паноў церпяць — пэўна.
Ці ёсць горшы боль, калі ў хаце
Няма куска хлеба дзіцяці;
Калі ў вачах чахне дзіцятка,
Ці ж мала цярпіць тады матка?
Раманка! Ты толькі не бачыў:
Слязьмі яны горкімі плачуць.
Паны?.. Усяго ім хапае,
З іх голаду жадзен не знае.

Раман

Бач, Ганю: ёсць голад дваякі:
Адзін — яго знае усякі,
Хто хлеба у хаце не мае;
Другі — яго той толькі знае,

Хто духам з зямлі адарваўся —
Да неба ж высот не дастаўся.
Ды знай, хто раз неба убачыў —
К зямлі не паверне іначай,
Як з голадам страшным ў душы,
Што мозг, душу, сэрца ўсё ссуша.

Г а н у л я

Ты сумны чагось, даражэнькі!
Чаго, мой саколік міленькі?
Чаго? — Раскажы ўсё Ганулі.
Ці госці так думкі папсулі?..
Лепш кінем мы гутарку гэту;
Што нам да людзей, што да свету?
Ў цябе, мой міленькі, ёсць Ганка,
Ў мяне ж — мой саколік Раманка,—
Ці ж гэтага нам не хапае?

Р а м а н
*(горача тулячы яе да сябе)*

Ты зорка мая залатая!
*(Цалуе яе.)*

*З а с л о н а.*

## ДЗЕЯ III

Дом вясковай плебаніі. У кабінеце на сафе ляжыць Р а м а н — ксёндз — з кніжкай у руках. На твары яго чырвоныя плямы сухот. Кашаль раз-пораз прарывае цішыню; вочы блішчаць гарачкай. Раздаецца званок — уваходзіць д о к т а р.

Д о к т а р
*(жартаўліва)*

Як маемся!
*(Падае руку.)*
Ўжо вы адзеты?
Не надта, каб добра нам гэта;
Каб смела ўжо можна устаці,
Даўжэй трэ было б паляжаці.

Раман
*(неахвотна)*

Скажыце мне, пане, на што вы
Мне сілай кладзеце аковы
Жыцця? — Так яно дагарае.
*(З раздражненнем.)*
І сам ты надзеі не маеш,
Каб я быў здаровы.

Доктар
*(з сілай)*

Маўчыце!
Вось лепей мне пульс пакажыце.
*(Бярэ руку Рамана і глядзіць на гадзіннік; твар доктара пахмурнее.)*

Раман
*(з усмешкай)*

Ну што — нецікавыя весці?

Доктар
*(нехаця)*

Не-е-е!
*(Жыва.)*
Болей трэ толькі вам есці.
І свежага воздуху многа.

Раман
*(горка)*

Ха-ха-ха! Й болей не трэба нічога?
І гэта здароўе даць можа!
*(Счэплівае рукі.)*
Эх, Божа ты, мілы мой Божа!..
*(Да доктара.)*
А што ж мне дасць ваша навука?
На хворай душы маёй мука...
Боль сэрца... Тут хіба ўжо, пане,
І вашай навукі не стане!..
Дзе ж лекі, ўняць каб мучаніну
Душы ўсёй, хваробы прычыну,
Што зводзіць жыццё да астатка!..
*(Горача.)*
Ты лечыш з канца не з пачатку...
*(Бяссільна апускаецца на сафу.)*

Доктар
*(спакойна, не слухаючы)*

На станцыю высланы коні:
Сястра міласэрдзя сягоння
Прыедзе. Вам трэба дагляду,—
Яна тут вам скора дасць раду.
*(Раман махае рукой*
*і адварочваецца.)*
Ну, мне ўжо пара! — там чакаюць:
Сягоння работы шмат маю.
Вы лішне не мучцеся мовай,—
Больш ешце.— Ну, будзьце здаровы!
*(Падае руку і выходзіць.*
*Раман устае і звольна*
*пачынае хадзіць па пакоі.)*

Раман
*(адзін)*

Разбіўшы жыццё — й з тых астаткаў
Жыцця стварыць хочуць пачаткі.
*(Смяецца горка,*
*пасля счапляе ў роспачы рукі.)*
Сам болей нічога не маю,—
Чаго ж ім яшчэ не хапае?
Жыццё толькі-толькі што тлее;
Ўсе чыста разбіты надзеі,
Ўсё згасла — яны ж на тым зглішчы
Развесці йшчэ хочуць вагнішча.
Так дроў там няма ўжо, эх, людзі!
Так попел гарэці не будзе...
А бацька ў смяртэльнай гадзіне
Хацеў бачыць біскупа ў сыне,—
Ды ўбачыў ліш плямы во гэты.
*(Паказвае на твар.)*
Мест біскупскіх строеў, ф'ёлетаў,—
Сканаў, як бы жоўці напіўся,—
Так твар пачарнеў, выкрывіўся.
Няшчасны, сваімі рукамі
Скапаў сыну роднаму яму,
І сам, бедны, лёг у магілу:
Крыж стаў у канцы не пад сілу
І сэрца ў грудзях разарвалась,

Зашмат, відаць, слёз там набралась!..
Бяздольны!..
*(Ходзіць нервова па пакоі;*
*у вачах паяўляюцца*
*непрытомныя бліскі.)*
Татуля! Ўраз сына
Ў жалобнай убачыш краіне.
На гэтай бяздольнай зямліцы,
Стаючы ў парозі грабніцы,
З табой прымірыцца ён хоча;
За ўсё — за бяссонныя ночы,
За душу маю катавану,
За мукі Ганулі каханай,
За слёзы жаўцёвай гарычы,
Каторых сам Бог не паліча,
За моладасць ўжо разбітую,—
Татуля, за ўсё я дарую!
Суддзёй табе сын твой не будзе,
Хай лёгка Хрыстос цябе судзе.
*(Апускаецца без сіл на сафу*
*з глухім стогнам. Раздаецца званок,—*
*уваходзіць сястра міласэрная —*
*Гануля. Раман падымаецца*
*з сафы і адкідаецца да сцяны,*
*гледзячы на кабету*
*непрытомнымі вачыма.)*

Гануля
*(падыходзячы; дрыжачым голасам)*

Не бойся, мой мілы,
Не труп я з магілы,
Хоць белы мой твар, як мука;
Хоць вочныя ямы счарнелі
Хоць вочы углыб паўпадалі —
Цябе, бач, усё выглядалі —
Хоць раз яшчэ ўбачыць хацелі;
А чым ты адходзіў далей —
Яны западалі глыбей,
Пакуль не запалі углыб.
*(Працягвае рукі.)*
Даткніся,— мая вось рука
Хай скажа табе, што не труп
Прыйшоў да цябе із магілы...
Не бойся, мой мілы!

*(Падыходзіць.)*
Чаго ж ты ўвесь пабялеў?
Дрыжыш, як у полі асіна.
*(Раман апіраецца аб сцяну.)*

Гануля
*(да сябе)*

Хістаецца — ён абамлеў...
О Божа! Ўсяму я прычынай.
*(Да Рамана.)*
І ты, ты баішся мяне?!

Раман
*(непрытомна)*

Га! прошласці труп — белы труп!..

Гануля
*(горка)*

Я — труп? О, не, мілы мой, не!
А труп мо, дык іншы — не з тых,
Што ў маці-зямельцы ляжаць,
А іншы — із трупаў жывых,—
Нярэдка іх можна спаткаць.
Яны не ў магілах гніюць,
А носяць магілы ў сабе,
Схаваны ў грудзей ўласных глыб...

Раман
*(таксама)*

Цябе ж гэта бачу, цябе?!
Мест словаў — атрута струіцца
З глыбокай-глыбокай крыніцы
Душы...

Гануля

О! Ўглыб той душы
Палохайся ты заглядаць:
Там енкі, там стогны чуваць;
Яны — горш магільнай цішы,
Там сэрца, запёкшысь ў крыві,
Счарнела горш гробаў цямні.
Пад векам — пакрыўкай труны —
Сто раз дух ачнецца жывы
І сто раз сканае ізноў,
Не вынесшы болю свайго.

Раман
*(таксама)*

Чые ж гэта словы, каго?..
Кроў брызгае гэтак балюча
І паліць пажарам пякучым
Душу маю... Хтосьці гавора,
А словы агнёў цэлым морам
Ліюцца...

Гануля
*(апрытомнеўшы)*

Раманка!..
*(Бярэ якісь пузырок з лекамі і,*
*кідаючыся да Рамана з плачам,*
*стараецца апрытомніць яго.)*

Раман
*(таксама)*

Хтось плача...
*(Гледзячы на яе.)*
Гануля, цябе ж гэта бачу?
Ах, помню... Слоў страшная сіла
Вужакаю дух акруціла...

Гануля
*(падтрымліваючы яго; з роспаччу)*

Раманка!..

Раман

Труп прошласці смутнай, труп белы
Устаў із магілы спляснелай;
Мест словаў атрута струіцца
З глыбокае сэрца крыніцы,—
Агнямі мозг паліць... гарыць...
*(Падае і млее.)*

Гануля

О Божа!.. Канае... Раманка.
Ачніся! То я, твая Ганка!..
Ачніся!.. Га...
*(Валіцца на грудзі яго.)*

*Заслона.*

*1914*

* * *

Вы просіце песні — ды сэрца збалела*
І больш ужо іх не пяе.
Душа пад цяжарам цярпення самлела,
І песні не льюцца з яе...
Вы просіце песні?.. Калісьці у гаю,
Я помню, саловачка пеў.
Цяпер дзе салоўка, ніхто з вас не знае,
Куды і чаго паляцеў...
Ці холад, ці голад, ці ястраб — смерць, можа,
Салоўку са свету звялі,
Вы помніце толькі, што пеў ён прыгожа,
Калі ўсё цвіло на зямлі...
Калісь, як салоўка,— дзяўчына з-пад вёскі
Так звонка умела пяяць,
Аж рэха любіла нясці адгалоскі
І слоўцаў канцы паўтараць.
Цяпер, дзе дзяўчына,— хто знае, хто скажа?
Каго зацікавіць, каго?
Чыя пагубіла яе рука ўража?
Дый што бы каму да таго!..
Я знаю... скажу я... Аб беднай дзяўчыне
Мне хочацца вам расказаць;
Яе доля пагнала з хаты ў чужыну
І хлеба, і працы шукаць.
І ў шчаснай пары красы дзіўнай дзявочай
Спаткаўся благі чалавек,
Раз глянуў — а бачце, ліхія меў вочы! —
Прапала дзяўчына навек.
З тых пор яна болей ужо не пяяла,
А сохла, як цвет пад касой,
Ў вачах людскіх нікла, краса яе звяла,
Пакончыла ўрэшце з сабой...
А ўсё тыя вочы, нягодныя вочы,
А ўсё той благі чалавек,
Што так без пары ссушыў сэрца дзявоча,—
І дзеўча прапала навек...
А мне вельмі шкода... дзяўчаці жалею,
І сыплюцца слёзы з вачэй.
Вы просіце песень? Пяяць я не ўмею.
Паплачу — то будзе лягчэй...

*1915*

## НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЯ!

Не кукуй, зязюля, каля майго дому!
Шчасця год — тут болей не лічы нікому.
Ты ляці, зязюля, ў гай ляці зялёны,
Дзе хістаюць дрэвы пышныя кароны,
Дзе спакой і ціша у духмяным ценю,
Дзе скрозь лісце ніжа сонейка праменні.
Не будзі ты суму адзінокай хаты,
Адляцеў далёка сокал мой крылаты...
Слёз ён не убачыць, жалю не утуліць...
Не кукуй ля дома гэтага, зязюля.

*1934*

* * *

Сэрца, сэрца, ты, можа, заснула?*
Цішыня навакола настала,
Не чуваць крыві палкага гула,
Не грахочуць пачуццяў абвалы...
Цішыня...
                    Можа, смерць гэта,
                                        можа,
Не ачнецца яно ўжо ніколі,
І нішто ўжо яго не ўстрывожыць,
І не будзе ні шчасця, ні болю...
Як спакойна!
                    Як страшна!
                                        Дарэмна
За акном зноў вясна верхаводзіць,
У якойсьці дрымоце нікчэмнай
Дні і ночы тупыя праходзяць.
Не — о, не!
                    Не хачу я!
                                        Не буду

Жыць у гэтым застыўшым спакою,
Выбаўлення чакаю я, цуда,
Няхай громам грыміць нада мною,
Хай мяне скалыхне — як бывала —
Хваляваннем да болю гарачым,
Хай і горам вялікім ці малым,—
Толькі сэрца хай б'ецца і плача.
Няхай будуць і шчасце і гора,
Няхай будуць і слёзы і мукі,
А не гэта бяссілле...
з пакорай
Абамлеўшае сэрца і рукі.

*1937*

## АДЧАЙ*

Сонная муць мне ахутала вочы,
Мозг апавіла туманамі сну.
Не, не сустрэць мне у полі вясну,
Сэрца ні біцца, ні жыць больш не хоча.
Цяжка падняць мне стамлёныя вейкі,
Цяжка мне рукі угору падняць.
Тут не памогуць ні доктар, ні лекі,
Мукі такой не суняць.
Ты нежывы... Дагарае, як свечка,
Сэрца маё. Шчасця болей няма.
Так замірае бурлівая рэчка,
Калі ёй хвалі сцінае зіма.
Ты нежывы. Сэрца біцца не хоча.
Хай жа і я тут навекі засну.
Ці дачакаю я збаўчага сну?
Хай бы прыйшоў — і заплюшчыў мне вочы.

*1937*

## МЯЦЕЛІЦА

Праз пустыя бязмежныя гоні
Скачуць лёгкія белыя коні...
Ветрагонныя звоняць капыты,
Шкляным звонам ільдзістым падбіты.

Еду, еду па беламу полю,
А віхура дарогу заносіць.
Яна ўслед мне так страшна галосіць,
Быццам сэрца заходзіцца з болю.

Ўдаль лятуць мае белыя коні
Па пустым бездарожным загоне.
Пераблытаў ім вецер гуллівы
Легкавейныя, тонкія грывы.

Поле снегам сыпучым пакрыта,
Звоняць звонам ільдзістым капыты...
І куды я загублена еду
Без пуці, без напрамку, без следу?!

*1937*

* * *

Таму мне сумна жыць на свеце,
Што я, не ведаю чаму,
Стаю — як колас, што зіму
Сустрэў на полі, у замеці...
Суровы вецер дрэвы гне,
Мароз бязлістасны лязгоча...
А я... заплюшчу шчыльна вочы,
Хай студзіць гора — белы снег...
Я сэрца гору не аддам,
Вясна узнімецца над краем!
Сплыве мой боль — як бурна ў маі
Сплывае чорная вада.

*1937*

## ВЕРБЫ*

Не шуміце, вербы, над вадою,
Не раняйце лісце залатое,
Ў вашым шуме сумнай скаргі многа
Аб згаранні лета залатога.
Раз за разам падаюць дадолу
Лісця з шэлестам ціхім і кволым.
Зімка снегам ногі вам атуліць,
Апране у белую кашулю,
Ўсе галінкі інеем адзене,
У зямельцы зберажэ насенне,
Каб вясной шумелі вы вясёла,
Над вадой устаўшы стройным колам.

*1938*

## ВОСЕНЬ

Скінула даўно убор зялёны,
Залатое лісце паскідала,
Шэрым ценем пад акном устала,
Ў пасмах косаў дажджавых, сцюдзёных.
Вецер вые ля вуглоў надрыўна,
Яна пальцамі ў акно стукоча,
Быццам ў хату папрасіцца хоча,
На дварэ сцюдзёна ёй і крыўдна.
Цёмныя насупіліся хаты,
Зрэнкі вокан глянулі ў бязмеры...
А у небе, хмар заслонай шэрай,
Затуліўся маладзік рагаты.
А яна дажджамі горка плача,
Плюшчыць слёзы, вокны імі мые,
Хіліць скрушна пад вятрамі шыю
І сумуе — аб вясне, няйначай.

*1938*

* * *

Ад цябе я ўсё прыму з ахвотай,
Нават гэтае разлукі боль,
Толькі б ты сюды вярнуўся потым
І каб мне яшчэ пажыць з табой...
Сонцам загарэлася любоў!
А была ж, не так даўно, другая...
Толькі гэта тым і дарагая,
Што душу хвалюе больш, чым кроў.
Лёгка маладая кроў бурліць,
Дотык губ і — палыхне пажарам...
Толькі з тым хацелася б мне жыць,
Хто сагрэў душу мне шчасця марай.
Вось таму я ўсё прыму ахвотна
Ад цябе: і радасць і тугу,
Бо у ззянні воч тваіх пяшчотных
Перанесці я усё змагу.

*1941*

* * *

Вецер дзьме, самкнуўшы прутка губы,
У шчыліны сцен старое хаты.
Гоніць снег, закручваючы ў трубы,
Нібы стада прывідаў крылатых.

Ты турботна глянуў мне у вочы
І прыкрыў мяне крысом шынелі.
Гэта сэрца так маё стукоча
Ці грукоча ў лад напор мяцелі?

Дзесьці быццам лязгае жалеза,
Дзесьці быццам танкі загудзелі...
За акном — сляпая куламеса,
Сцюжай павявае ад пасцелі.

Бухнулі зенiткі. Глянь, мой сокал,
Трасы куль на небе заблішчэлі!
Ты устаў, а я пад свіст і грукат
Зашпіліла на табе шынелю.

Ты пайшоў... Як неспакойна ў свеце!
Хай навек, навек хай згінуць войны!
Каб і мы, і нашых дзетак дзеці
Жыць маглі шчасліва і спакойна.

Хай жа згіне, хай навек загіне
Той, хто йдзе на край чужы вайною!..
А то, чуеш, плача за сцяною
Маці аб забітым сёння сыне.

*1942*

## ШМАТ ДЗЁН ПРАЙШЛО

*І. А. Ю.*

Шмат дзён прайшло,
а ўсё ліста няма...
І год прайшоў, а я усё чакаю,
І вось яшчэ мінаецца зіма
З тых пор, як ты застаўся ў родным краі...
А ўчора раптам чую я:
«Таварыш Ю. у Н. зрабіў засаду.
Узяў штаб ворага,
шмат знішчыў гадаў
І страт не меў»...
А буква «Ю» — твая!
І сэрца палка б'ецца...
Гэта ты!
І дух займае радасцю жывою,
Хоць не даходзяць да мяне лісты,
Дайшла вось слава роднага героя...
І вестка не выходзіць з галавы
І моц дае не верыць снам трывожным.

Таварыш Ю.! Мой любы!..
Многа можна
Сцярпець... Вось толькі б ведаць:
ты — жывы!..
Але, жывы...
І там, на Беларусі,
Ты з ворагам вядзеш суровы бой.
Хай перамога будзе за табой!
Туды учора паляцелі гусі,
Я кінула ім палкі мой прывет,
І данясці яго табе казала,
І ўслед ім доўга хустачкай махала,
І я зайздрасцю глядзела ім услед...
Хачу быць там, дзе буйныя разлогі
Ляглі маёй радзімай стараны.
Яе шырокія ланы
Мае дзяціныя таптали ногі...
Дышала поле цеплынёю жыта,
І канюшына полымна цвіла,
І, быццам мёд там быў разліты,
Такі ў паветры пах стаяў...
І лён ірдзеў, як неба сіні,
І бульба з кветкай — дым сярнічкі,
І грэчка — мілая дзяўчына
З ружовай хусткай і спаднічкай.
Не можа дол дабра змясціць,
Расце ўсё буйна і шырока,—
Прыемна сэрцу, шчасна воку...
Дзе край такі яшчэ знайсці?
А лес!
Такі прыгожы лес
Быў толькі там, на Беларусі,—
Густы, раскідзісты навес,
І промень там не пройдзе, мусіць.
Чарніц, пазёмак і грыбоў —
Рві, еш, збірай, хто колькі хоча...
Ручай журчыць, пяе, клякоча,
Размыў сабе шырокі роў,
А корні дрэў, як пальцы дзеда,
Крапчэй ў зямлю забітых свай,
Ўшчамілі поўзкі — рыхлы край,—
Ад хваль бурлівага суседа...
Калыша сонца зорны шлях
Праз гушчу, жоўтаю імжою,

І кадзіць лес настойны пах
Грыбамі, лісцем і смалою.
Хто бачыў пекнасці той дзіва,
Хто знае наш багаты край,
Папаў бы і ў сапраўдны рай,
То й там не будзе ён шчаслівы...
Далей, на ўзгорку, на адхоне,
Ты помніш?.. Хаты і сады,
Цяляты носяцца ў загоне,
Гусей і качак ля вады —
Як белы снег апаў на выган,
Як белы снег ваду пакрыў,
Аж звон стаіць ад іхніх «гы-гы»,
«Ква-ква», «шу-шу» і свісту крыл...
Кудахчуць куры, пахне мёдам,
Гарачым хлебам пахне дым,
Нясецца пах бліноў густы
І верашчакі смачны водар...
Бо жыў багата наш народ,
Меў многа хлеба, сала, мяса,
Быў поўны свіран у калгасе
І напаўняўся ■ году ў год.
А песні! Дзе такія песні?
Вынь сэрца і на ім зайграй...
Дзяўчаты, кветкі, росны май,
Хлапцы, як клёны ўпрадвесні...
А маладзіцы! А дзядзькі! —
І ростам, і дародным станам,
Усім узялі!
Гаваркі
З іх кожны, з розумам, рахманы,
Душа спагадная з лагодай
І погляд з мяккай цеплынёй.
Зраўняю з неба глыбінёй
Душу я роднага народа.
Мой родны край!
Ўсім сэрцам я з табою...
Усё жыццё табе я аддаю.
Во — партызан з гарачай галавою,
З агнёвым сэрцам ён — таварыш Ю.,
Што штаб варожы з бою ўзяў асадай.
Раней, як штаб, маё ён сэрца ўзяў!
Хто, дзе, калі так горача кахаў,
З такою сілай і такой уладай?

Так толькі ён адзін умеў кахаць,
Мой вольны сокал, смелы, яснавокі,
Такі прыгожы, як той дуб высокі.
Як ад такога весткі не чакаць?
Я аддала яго табе, Радзіма!
З маім я сэрцам разам аддала,
З жыццём і шчасцем...
Ўсё праходзіць міма...
Душа мая!
І ты за ім пайшла...
Мы тут абое: ты і я...
Ты край бароніш ад напасці,
Народнае бароніш шчасце,
І пры табе душа мая.
Былога шчасця тут цяпер няма,
Дым чорны пад чырвоным небам ўецца,
Усюды ямы —
ямы ад гармат,
Ад бомб, ад мін...
Пыл на зямлю кладзецца
Сівы, сухі... Там, дзе стаяла жыта,
Дзе канюшына полымем цвіла,
Цяпер усё счарнела, ўсё пабіта,
І коміны адны уверх тырчаць.
Сляпыя вокны абгарэлых хат
Глядзяць на выдмаў чорныя разлогі,
І мерцвякі чужыя ля дарогі
Ляжаць паміж пакінутых гармат...
Няхай дарэмна іх дамоў чакаюць,—
Спагады к ім ніяк не разбудзіць!
І чым іх больш тут у зямлі ляжыць,
Тым большую я радасць адчуваю...
Грабежнікі, гвалтоўнікі, бандыты.
Хто клікаў іх? Чаго ім трэба тут?
Знайшлі свой страшны, жудасны «капут».
Чужым дабром цяпер навекі сыты...
Чужое неба ў вочы ім глядзіць,
Зямля чужая трупаў не прымае,
І вараннё тут цэлы дзень кішыць,
Хаўтуры ім крывавыя спраўляе.
Ды сноўдаюць балотныя вужы,
І смокчуць кроў, і ў чарапы залазяць...
Хай вобраз гэты тым у сэрца ляжа,
Хто йдзе яшчэ на нашы рубяжы...

Таварыш Ю.!
К табе апошні сказ,
Занадта доўгай робіцца паэма,
Ды вельмі палкая узята тэма,
Я да яе вярнуся шчэ не раз...
Таварыш Ю., ад ворагай напасці
Цябе заслоніць верны вобраз мой...
Ідзі, мой родны, ў правы бой!
Любоў мая дасць моц і шчасце...
Наш бор стары табе стаў цёплай хатай,
Цябе укрыць ад ворага ён рад,
Такіх, як ты, арлоў там ёсць багата,
Такіх, як я, жанчын таксама шмат.
Дык перадай ім мой прывет гарачы
І подых вольны братняй старany.
Над ворагам хай воран крача,
Для нас усходзе час ясны,
То час вялікай перамогі,
То час свабоды, шчасця час,
Прыцьміўся ён, але не згас,
Ён нам асвеце ўсе дарогі...
Мой родны, любы мой,
Таварыш Ю., і зноў у родным краю
Наш будзе дом...
І прыйдзеш ты дамоў,
А дома...
Я цябе чакаю...

*1942*

* * *

За Дунаем звоняць косы,
Ды не на пакосе.
Журавінавыя росы
Палі на калоссе.
Скачуць коні, іржуць коні,
Гнуцца ў бойцы пікі,
Звонкім звонам шаблі звоняць
У баю вялікім.

Вораг стаць хацеў багатым —
Звер і кат пыхлівы —
Папаліў ён нашы хаты,
Панявечыў нівы,
Плачуць людзі, зямля плача
Пад фашысцкім ботам...
Ды з'явіўся полк казачы
Сакаліным лётам.
Зазвінелі шаблі-косы,
Ды не на пакосе.
Журавінавыя росы
Палі на калоссе.
Неба сіне-сіне-сіне
Над чырвоным жытам.
Поле доўга не астыне,
Трупамі укрыта.

*1943*

## У МАЁЙ МАЙСТЭРНІ

У маёй майстэрні, дзе твару я слова,
Быў адзін калісьці невялікі цэх.
Прыйдзе песня,— зразу ёй убор гатовы:
І сукенку зробіш, паглядзець не грэх.
Ад праменняў сонца насукаеш нітак,
Раніца дасць кроплі іскрыстай расы,
Ружа — пах духмяны, гай — зялёны лісцік,
Зорка — сінь істужкі дасць дзеля красы.
А сукенку скроіш ці з ядвабу неба,
Ці з вуалю хмаркі, што плыве праз край...
Выбірай адценні колеру, як трэба,
Знойдзеш, што захочаш, толькі пашукай.
А вясной, бывала, салавей засвішча,
Май вясёлы створыць цэлы груд абноў!
Замыкай майстэрню, завадзі ігрышча,
Песні льюцца хваляй без усякіх слоў.
А цяпер другая надышла часіна,

Пашыраць мне трэба мой рабочы цэх,
Бо чаргою тэмы просяцца ў хаціну,
Ці ж такіх адзенеш абы ў што, наспех?
А ў чарзе, як гляну, аж захопіць вочы:
Юнакі-саколы, як адзін, у рад,
Кожнаму хай цэх мой востры штык наточыць,
Дасць вінтоўку ў рукі, нізанку гранат...
Ну, цяпер гатова. Прынімай рыштунак,
Апранайся, песня,— шлем вось і шынель.
Хоць круці ў катанку, хоць вяжы у клунак,
У паходзе будзе мяккая пасцель...
Кулямёт у рукі, аўтамат за плечы,
У ангарах сталі самалёты ў рад.
Выбірай, што люба, без усякіх спрэчак,
Тут нарыхтавана ўсякай зброі шмат!
І прыходзяць песні незлічоным строем,
З прапановай палкай выйду к ім сама:
«Густа над Радзімай панавісла цьма,
Сполахі пажараў свецяцца над цьмою.
Там кавалак кожны роднае зямліцы
Арасіла сэрца маладога кроў.
Беларусь-радзіма, вольная арліца,
На тваіх граніцах бой крывавы зноў.
Песні! Вы з байцамі стройцеся да ладу
І хадзіце разам з імі крок у крок.
Немца так біць трэба: цэлься ў сэрца гаду.
А на мушку ўзяўшы, апускай курок.
Дык ляціце, песні, песні-арляняты,
Вам наказ гарачы з сэрца я даю:
Будзьце куляй, бомбай, мінай і гранатай,
І штыком і сілай для байца ў баю!
І павязкай мяккай у байца на ране.
І крыніцай чыстай, як захоча піць,
Ласкай і спакоем, спачываць як стане,
Словам — тым, чым толькі песня можа быць.
Будзе час, мы зможам ворага.
Радзіма
Ветла прывітае, мае песні, вас,
Як байцоў за волю, вас прыхільна прыме,
Што ідуць дахаты у спакойны час».

*1943*

## ШАЎКАПРАД

Шаўкапрад залаты,
І адкуль гэта ты
Столькі сонечных нітак бярэш?
Сам маленькі такі,
А праменняў пукі
Ты няспынна снуеш і снуеш.
— Я ж не сам іх сную:
Гэта існасць маю
Сіла нейкая лье у прамень.
Вылью ўсё і засну,
Каб калісь — на вясну —
Стаць крылатым і ясным, як дзень.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Што не спіш ты, паэт?
Песня льецца у свет,
Вочы смагай агнёвай гарац.
Покуль, знаць, не памрэш,
Ты таксама снуеш
Свае думкі, аж струны звіняць?
— Я пішу і гару
І гарэннем твару
Мае песні, што льюцца у свет.
Бо яснее агнём
Дзень за днём, дзень за днём,
Поўны велічных шчасных пабед!
Не магу я маўчаць —
Струны самі звіняць,
Песня звонкая льецца сама.
Я пяю пра вясну,
А калісь,— як засну,—
Людзі скажуць: ён жыў недарма.

*1943*

## БЕЛАРУСІ

Любая Радзіма,
Родная ты маці!
Не дай ты бандытам
Сябе абдзіраці.
Ні ў чым хай не мае
Ў нас вораг карысці,
Баіцца хай дрэваў,
Баіцца хай лісцяў.
Хай смерць яму суліць
Прыгорачак кожны,
Знішчае хай гада
І куст прыдарожны.
Хай з нашых палеткаў
Сабранае жыта
Шрапнелямі стане
Для подлых бандытаў.
Хай яблык і груша
Ад нашага саду
Ўзрываецца мінай
У ворага-гада!
Празрыстыя хвалі
Нявіннай крыніцы
Пачнуць хай для фрыцаў
Атрутай сачыцца,
Каб кожная бульба
Ім стала гранатай
І дзотам нязможным
Калгасная хата.
Губіце, знішчайце
Фашыста-заразу,
Каб кончыў нам шкодзіць
Навекі і зразу;
Каб болей не грабіў,
Навек каб быў сыты,—
Насмерць забівайце
Фашыста-бандыта!

*1943*

## НАД ДОНАМ

Стэп кавыль калыша,
Ціха шэпчуць травы.
Дон трывожна дыша
Хваляю крывавай.
Бой пранёсся бокам
З лязгам сілы збройнай,
Ты, пад гром і рокат,
Спіш сабе спакойна.
Мякка тваё ложа
Усцялілі травы,
Сокал мой прыгожы,
Стройны, кучаравы.
Шэпчуцца у стэпе
Кавылі густыя,
Ветрык мякка трэпле
Завіткі крутыя.
Горка, горка дзесьці,
Цяжка хтось заплача,
Калі дойдуць весці
Аб табе, юнача.
Сон твой беспрабудны,
Сон твой бестрывожны,
Разбудзіць мне трудна,
Разбудзіць няможна...
Сэрца сцішна б'ецца,
Боль сціскае грудзі.
Ты ж чужы, здаецца?
Хто ж радней мне будзе?

*1944*

## КУПАЛУ

Жывым любіла, дружа, я цябе,
Жывым цябе я толькі ўспамінаю.
І вось таму не ў смутку, не ў жальбе,
А ў песнях я сваіх цябе вітаю.

Раскрыю кніжку, і нясе мяне
Паток гарачы музыкі і слова,
Настрэчу сонцу, кветкам і вясне,
Дзе бор шуміць, дзе шалясцяць дубровы...
Наш край — і ты...
Скажу вось: Беларусь,
У гэтым слове мне гучыць: Купала.
Ды так гучыць, аж я сама дзіўлюсь,
Як быццам разам словы я сказала.
Мая Радзіма і яе пясняр —
Імён супольнасць і супольнасць долі:
Бяды цяжкой накінуўся цяжар,
Ды вы ў бядзе не рынеце ніколі!
Жыць будзе край,
Купала будзе жыць!
Для Беларусі блізка час свабоды,
Купалы песня зноў там зазвініць,
Дзе Днепр сівы паважна коціць воды.
Мая Радзіма! Блізка волі час,
Ідзі да перамогі цвёрдым крокам,
Бо промень волі над табой не згас,
Прыцьміўся ён на хвілю толькі мрокам.

*1944*

## БЕЛАРУСІ

Ты дала мне жыццё, удыхнула мне сілу у грудзі;
Мне з табою ніколі ні сумна, ні цяжка не будзе,
Бо жыву я цяпер тваіх дум жыватворчаю сілай,
Што ўліла ты мне ў сэрца...
Ты песні мае разбудзіла,
Чую я на сабе цеплыню тваёй матчынай ласкі,
Мая родная, добрая, сон мой з дзіцячае казкі.
Вось табе маё сэрца, мой розум, і праца, і песня,
Веру, думкі крылатыя новым святлом ты абвесніш.
Жыць хачу я табой, для цябе, наша родная маці,
Дык прымі ж ты мяне ў сваёй светлай, у радаснай хаце!

Поле роднае вокал.
Збіраюцца з выраю птушкі.
Лёг мой шлях да цябе
шаўкавістай, шырокай істужкай.
Тут квітнеюць твае, творчай працай ўзараныя гоні...
Хай знайду я свой лёс у тваім працавітым сягонні.

*1944*

## ДЗВЕ БЯРОЗКІ

Бярозка мая белакрылая,
Якая ж ты, сонейка, мілая!
Спускаеш пушыстыя вецці
І сінімі іскрамі свеціш.
Глядзіць маладзік, усміхаецца,
К галоўцы курчавай схіляецца
І вісне бліскучай каронай
Над беллю тваёй заручонай.
А вецці уніз паспусканыя,
Сярэбранай рызай убраныя,
Нязвычна і ціха сягоння
Шклянымі званочкамі звоняць.
Бярозка мая белакрылая,
Стаіш, як нявеста, ты, мілая.
Прыгожа снягі і марозы
Да шлюбу прыбралі бярозу...

Мне сніцца старонка далёкая,
Там Свіслач плыве сінявокая,
Вясной у расспеваным гаю
Расла там бярозка другая,
Такая ж, як ты, беластанная,
У летнюю зелень прыбраная,
Апырскана ранкамі ў росы,
Часала праменнямі косы,
А косы яе ручаістыя,
Каралі на ёй залацістыя,
Пахучыя тонкія вецці
Пясціў усхвалёваны вецер.

На захадзе хмары клубіліся,
Маланкі вужакамі віліся,
Ў паветры, як бляху, рванула,
Бярозку к зямельцы прыгнула.
Агідныя цені двухкрылыя,
Зялёныя і тупарылыя,
Гудзелі і вылі над ёю,
Зялёнаю і маладою.
Бярозка мая беларуская.
Агнёвай пякучаю хусткаю
Маланка цябе атуліла,
І ўся ты панікла без сілы...
Лісточкі твае пакруціліся,
Галінкі твае апаліліся,
І капаюць светлыя слёзы
З апаленых вочак бярозы.
Фашысты, фашысты праклятыя,
Якой неацэннаю платаю
Плаціць давядзецца вам скора
За наша вялікае гора!

*1944*

## ЛІПЫ

Водар салодкі наўкола льюць ліпы,
Як матылькамі хтось дрэўцы абсыпаў...
Вецці — у кветках імкліва-крылатых,
Быццам бы ў ветразях туга напятых.
Так вось глядзіш, і праз хвілю здаецца,
З ножкі галінка ў палёт адарвецца
І панясецца з вятранаю хваляй,
Пахам мядовым напоўніўшы далі...

На Беларусі таксама ёсць ліпы,
Не матылькамі іх ліпень абсыпаў.
Вораг, на захад адходзячы міма,
Іх апавіў і пажарам і дымам.

Курчацца ў полымі свежыя вецці,
Зоры пажарам над імі там свецяць...
Нерасквітнеўшыя родныя ліпы
Попел ад спаленых вёсак абсыпаў.

*1944*

* * *

Можа, гэта так і не было,
Можа, гэта мне цяпер здалося:
Ў нас раслі даўжэйшыя калоссі,
Жыта ў нас цяжэйшае расло.

Я стаю на ўзмежку сярод ніў,—
Даль вачам шырокая адкрыта,—
І гляджу на маладое жыта,
Што яшчэ не увайшло ў наліў.

Ў небе плаўна ходзяць каршуны,
Распластаўшы вераломна крылле...
Ці мы думалі аб тым, ці снілі,
Каб Радзіму вораг паланіў?..

Дзе звісае цёмны небакрай,
Дзе ўзнімаюцца гарбамі хмары,
Там — зямлі бацькоўскае абшары,
Мой любімы беларускі край.

Вось, здаецца, толькі прыпадняць
Небасхілу лёгкую завесу —
І прагляне сінь густога лесу,
І прагляне наша сенажаць.

Зашуміць ліствой зялёны гай,
І рассцелюцца усе дарогі
Стужкамі шаўковымі пад ногі,
Каб маглі мы край свой прывітаць.

Веру, прыйдзе грозны час расплаты,
Хмара ненавісная сплыве.
Ўстане край у сонечным сяйве,
Ўсенароднай славаю абняты.

Можа, гэта так і не было,
Можа, ад самоты мне здалося:
Ў нас растуць даўжэйшыя калоссі,
І паўней іх лета наліло.

*1944*

## ПАМЯЦІ ДРУГА

*Вянок на магілу І. А. Юрчанкі,*
*які загінуў смерцю храбрых*
*28 ліпеня 1942 г.*

...Адна сяджу я за сталом,
Гадзіннік б'е,— і ноч праходзіць...
Ляжыць раскінуты альбом,
А ён вачэй з мяне не зводзіць...
Ён з карткі, як жывы, глядзіць,
У шэрым форменным шынелі,
Рукаў нашыўкай зіхаціць,
Агнём пятліцы заяснелі...
Высокі, статны, поўны сіл,
Выразам волі вусны сцяты.
Мой сокал вольны! Мой крылаты,
Дзе ўзмах тваіх шырокіх крыл?..
Які блізкі, які знаёмы!
І гэты ўважлівы пагляд,
І доўгіх веек цёмны рад —
Такі зусім, які быў дома.
Тут ён, як сонейка, свяціў
І грэў, як сонца ўмее грэці,
Таварышам і другам быў
Мілейшым, чым усе на свеце...
Што ўспомніў ён у страшны час,
Як куля раптам падкасіла?..

Каго ён клікаў,
                    родны, мілы,
Пакуль, як свечка, не загас?
Як згінуць мог такі магутны?
Кусок гарачага свінца
Рассек ніць палкага жыцця,
Крануўшыся амаль нячутна...
Трава чырвоная была,
Дзе ён ляжаў, такі вялікі,
Бездапаможны ў болю дзікім,
Умомант спалены датла...
Свяціла сонца там ці не
У гэты летні дзень гарачы?..
Мо чуў ён, як зязюля плача,
І ўспомніў зразу пра мяне?
А мо ні разу не ўздыхнуў —
Ударыла...
              і смерць адразу...
І знікла памяць, і заснуў,
Не ўспомніўшы мяне ні разу...
Не! Сэрцам чую болю крык,
Гучыць ён тут! Цяпер! Сягоння...
«Эх, мая Тоня... Тоня... Тоня...»
Расплыўся — і адразу знік...

Ідзі, душа мая, туды!
Схіліся нізка над курганам,
Чытай зацёртыя сляды
Тайніц, табой не разгаданых...
У неба сіняга спытай,
Спытайся ў хваль шырокіх Дона,
Спытай бярозку засмучону,
Што ўстала на кургана край...
Ідзі, душа мая, адна,
Ідзі дарогаю вядомай,
Усё зразумей, пазнай да дна,
Чытай штрых кожны невядомы.
Угледзься ў родны, любы твар
І да грудзей прыцісні вуха,
Пранікні ў мрок апошніх мар,
Апошні сэрца стук падслухай...
На гэтым свеце кожны — госць,
Жыццю адзначана граніца,
Ды той, з кім сэрца хоча зліцца...

О, не кажы: ён быў...
Ён ёсць!
Быў бой цяжкі над ціхім Донам,
Вялікай сілай наступаў
Там вораг.
Ты наскок збіваў
Сваёю танкавай калонай.
Крывёй заліты чорны стэп
Дыміўся ўзрывамі, як ранай,
І сінявокі Дон аслеп,
Плугамі смерці разараны.
Гудзела бою завіруха,
І наступіў той страшны час:
Ты свісту кулі не падслухаў
І... хістануўся, і... загас.
Як боль гарачы, нестрыманы
Па стэпе ўзмыў віхор бяды.
Хто кінуўся к табе тады
Перавязаць паспешна рану?
У час атакі агнявой,
Калі быў камандзір забіты,
Хто танк павёў галоўны твой,
Каб адплаціць за смерць бандытам?
Калі сышліся пахаваць
Цябе сябры твае, танкісты,—
Яны пакляліся ўрачыста
Да перамогі ваяваць.
Не! Ён нядарма кроў праліў:
Радзіма воляй вольнай дыша,
Штандар чырвоны ў неба ўзмыў,
Вятры ізноў яго калышуць.
Курган, што высіцца над Донам,
Не толькі родны ён табе:
Над ім схіляецца ў жальбе
Казак савецкі наш чырвоны...
Над ім устане і ўздыхне
Казачка, ўспомніўшы пра мужа,
Дзяўчынка белая, як ружа,
Парой слязінку тут пралье.
Усім ён блізкі, любы, мілы,
Усім ён родны, твой герой,
Бо вёў ён цяжкі страшны бой
З праклятаю фашысцкай сілай,
Бо край ён родны вызваляў

Ад подлай варажай напасці,
Бо за народа свайго шчасце
Ён сэрца палкае аддаў...

Бывай, мой родны!
З кветак-мар,
З майго гарачага кахання
Спляту вянок, жалобны дар,
У час балючага расстання...
Спляту вянок з гарачых слёз,
З балючых дум, тугі гарачай,
Тваёй Радзімы сум бяроз
Ўпляту ў яго...
Хай ціха плача —
І Свіслачы свабодны шум,
І пушчы нашай родны гоман,
Дубоў шэпт ціхі, нерухомы,
Сасонак нашых спеўных сум.

Спі, родны мой!
А я пайду,
Пайду далей сваёй дарогай
І панясу маю бяду
Да смерці самага парога...

І толькі ў працы буду мець
Спакой і сэрцу здавальненне...
Вось мне бы так датла гарэць
Для шчасця новых пакаленняў.

*1944*

* * *

Сэрца не кіне да смерці балець,
Покуль магілы я той не крануся,
Дзе ты заснуў... Кедр там можа шумець,
Кусцік бярозкі — сястры Беларусі...

З кедрамі там ім няўтульна расці,
Там яны дробныя, ў кволай паставе...
Студзіць карэнні лядовы насціл,
Як ім свой стан серабрысты расправіць...
Як ім карэнні жывыя расціць,
Як прарастаць скрозь лядовыя сцелі?..
Спіш ты спакойна — ў халоднай пасцелі,
Кедр над табою спагадна шуміць.
Другам табе ён, таварышам стаў,
Казкі пушыстыя ціха гамоніць,
Толькі адзін — слёзы раніцай роніць,
Дзёрн над табой каб гусцей прарастаў.
Тут я твар мыю слёз горкай расой —
Спіш ты далёка... А дзе — мы не чулі...
Мне не знайсці...
                    Хай прырода атуліць
Сон твой гаротны — лагоднай красой.

*1945*

* * *

Я многага ў жыцці яшчэ чакаю,
Я на парозе новага стаю...
І радасць маё сэрца акрыляе
І напаўняе ўсю душу маю.
Я чую, як пявучыя матывы
Снуюцца ў ёй у песенныя дзівы.
Дык дзе ж тут старасць? Дзе яе туга?
Дзе горкая панурасць і бязволле?
Вясёлкавая, стромая дуга
Мне абяцае шчасце новай долі.
О, не! Не ўсё яшчэ жыццю я аддала.
Нанова з прагнай і вялікай сілай
Шукаю ў творчай працы я цяпла,—
Святлом Радзіма шлях мне асвяціла.

*1945*

## СКАРБЫ

Вось чаго ў жыцці я не зраблю ніколі:
Не прадам я сэрца, не прадам я волі,
Не прадам я песні...
Хоць бы мне за гэта
Каля ног зләжылі скарбы ўсяго свету.
Я жыву без лішку...
Многа мне не трэба:
Маю свой прытулак і кавалак хлеба.
Дык нашто мне скарбы, хоць і ярка свецяць,
Што рабіць мне з імі і куды іх дзеці?
Ёсць у мяне скарбы...
Іх ніхто не бача...
Гэта: калі вочы з радасці заплачуць,
Гэта: калі песня цераз край пальецца,
Гэта: калі сонца ў вокнах засмяецца,
Гэта: калі кветкі пах раняюць кволы,
Калі шчасце раптам льсніцца навакола
І гарачай хваляй затапляе грудзі,—
У мяне такія ёсць, былі і будуць...

*1945*

* * *

Як жа хочацца лета!
Сядзець бы пад ліпай,
Каб шумела яна нада мной,
Каб квітненнем яе густа ліпень абсыпаў
І гудзелі каб пчолы на ёй...
Мне бы слухаць, як дзесьці, далёка за
вёскай,
Дзеўкі песні у полі пяюць,
Мне бы слухаць спеў гэты
і ў далі пачуць,
Як бор цёмны гудзіць маладым
адгалоскам.

*1945*

## САКАВІК

Снег усё засыпаў густа,
Ахінуў, нібыта хустай,
Ўсе палеткі, сцежкі ён.
Спіць пад пухкім снегам поле,
Сніць яно аб новай долі
Свой вясенні, ясны сон.
Сакавік прыйшоў сачысты,—
У бярозе ён бязлістай
Гоніць свой кіпучы сок.
І ў ажыўшых жылах клёну
Сок салодкі, сок зялёны
Да галля уверх пацёк.
Вербы пухам абляцелі,
На вяршыні цёмнай елі
Зноў пупышкі зацвілі.
Залацістая сасонка
Зашумела гучна, звонка
Шум панёсся па зямлі.
Сніцца полю: з кожнай хаты
Выйшаў радасны араты
На калгасны вольны лан,
Лемяхі узнялі глебу,
Каб разліўся — аж да неба —
Збожжа светлы акіян.

*1945*

## ПЕСНЯ

Хачу, каб плыла ты свабодна з грудзей,
Ляцела да блізкіх, да родных людзей,
І ўсё, аб чым сэрца і марыць і сніць,—
Хай льецца у песні, і ззяе, і льсніць.
Хачу, каб плыла ты свабодна з грудзей
Туды, дзе прамень сіні зорка прадзе,
І з ёю над хатамі ў зорнай начы
Струменіла радасць, што ў слове гучыць.

Хачу, каб плыла ты свабодна з грудзей
Туды, дзе мяцеліца бою гудзе,
Да кожнага сэрца байца данясла
Бязмежжа кахання,
бяздонне цяпла.
Хачу, каб свабодна плыла ты з грудзей
І ў час перамогі, як вораг падзе,
Пабедную славу вясціла да хмар,
Ўзляцеўшы над светам, як волі штандар.

*1945*

## ЕЛКА

Апранула з белай ваты андарак,
Ногі ўсунула ў белы, цёплы пух,
Не дабрацца к ёй марозу аніяк,
Кружыць снег над ёю роем белых мух...
Хоць і вельмі урачыстая яна,
Веліч проста знерухоміла яе,—
Збоку мжыцца пахам радасным вясна,
Бо галінка пах смалісты ў сонцы лье.
Хоць усю яе ахутала зіма
У бліскучы, у пуховы, мяккі снег,
А стаіць яна, як маладосць сама,
Ў ёй і радасць, і вясёлы звонкі смех.

*1945*

## ТАПОЛЯ

Дом стаяў Купалы пад таполяй гэтай,
Каля дому ружы у садку цвілі,
Тут гучалі песні нашага паэта
Аб шчаслівай долі роднае зямлі.

Тут складаў ён вершы, тут пісаў паэмы,
Тут свае ён творы слаўныя тварыў,
У душы паэта тут гучалі тэмы —
Так, як льецца ноччу пошум у бары.
Наляцела буры грозная навала,
Вораг дом спапеліў, знішчыў кветны сад...
Песняра-паэта паміж нас не стала,
Згінуў ён, як верны арміі салдат.
Тут цяпер ні хаты, ні садка... Нічога.
Цэгла. Сум таполі. І глухі пустыр...
Вецер шэры попел гоніць па разлогах...
Скора засвітае нам жаданы мір!
Мінск тады ў руінах больш ляжаць не будзе,
Тут будоўлі песні шчыра зазвіняць,
Светлую сталіцу зноў збудуюць людзі —
Дом Купалы новы будзе тут стаяць!

*1945*

## БЕЛАРУСЬ

Агністымі успыхамі
Гараць зарніцы белыя.
Жытнёвымі уздыхамі
Плывуць палеткі спелыя.
Зямля мая далёкая,
Зямля мая цудоўная,
Радзіма сінявокая,
Каму красой ты роўная?
Мо ёсць і прыгажэйшыя,
Каму што ў свеце глянецца.
Мая ж найдаражэйшаю
Да смерці мне астанецца.

*1946*

## МАЛАДОСЦЬ

Дарагі ты ў жыцці нашым госць,
Залатая пара — маладосць.
Ўсе мы помнім час радасны гэты,
Калі сэрца натхненнем гарыць,
Калі сіла у жылах бурліць
І не ўсе яшчэ песні прапеты.
Усё, што ў свеце найлепшага ёсць,
У табе гэта ёсць — маладосць.
Помню ўзлёты дум светлых і чыстых
І імкненні гарачай душы,
Прага ведаў і прага спяшыць
Да крыніцы пазнання празрыстай.
А цяпер — ўсе багацці свае
Маладосці душа аддае,
Вопыт наш даць патомкам мы рады.
Ўсе вялікія продкаў удары —
Ты ідзі і ўсім сэрцам бяры,
Наш шчаслівы, багаты нашчадак.

*1946*

## ХОДЗІЦЬ МЕСЯЦ

Ходзіць месяц угары,
Шум знямогся у бары,
Пасядзім хвіліну ціха,
Ты са мной не гавары.
Зоры палі на ваду,
Промні ясныя прадуць,
А спакою свайму сэрцу
Аніяк я не знайду.
Паў ад дрэва чорны цень,
Хвалі гушкае ячмень...
Мне ўспаміны сэрца раняць
Сваім болем цэлы дзень.
Вечар сінюю смугу
Рассцілае на лагу.

Я забыць яго, мой дружа,
І хацела б — не магу!
Не спыніць нам цёмных хваль,
Што плывуць кудысьці ўдаль,
Як жа думаць мне аб шчасці,
Калі сэрца сціснуў жаль?
Быццам хвалі, йдуць гады,
Нікнуць даўняга сляды,
Толькі ён ў вачах заўсёды, —
Што не вернецца сюды.
Ходзіць месяц угары,
Шум знямогся у бары,
Ну, а ты мне аб каханні
Лепш зусім не гавары.

*1946*

* * *

Маё шчасце міма толькі што прайшло,
Закрануўшы сэрца залатым крылом...
Сэрца сцялі болем сум, туга і жаль.
Прамільгнула шчасце незваротна ўдаль.

Ці ж калі на свеце гэтак дзе было,
Каб дарогай шчасце міма сэрца йшло?
Даганяць? Дарэмна! Крыллямі ўзмахне,
Праляціць яшчэ раз міма ля мяне.

Сумна-сумна стала. Шлях ахутаў мрок.
А ісці — патрэбна! Ну, за крокам крок.
І прывыкнуць вочы, і прывыкнеш ты —
І не будзе страшна гэтай цемнаты.

Мо засвецяць зоры на тваім пуці
І без шчасця можна праз жыццё прайсці?
А яно? Вось міма толькі што прайшло,
Зачапіўшы сэрца залатым крылом...

*1946*

* * *

Радзіма! Ты любай была мне да болю,
Радзіма! Цудоўны мой яблынны цвет...
Мне бачны лясы твае, бачна мне поле,
Дзе ўціснуты першы дзіцячы мой след.
Убачу народ — непахісны ў змаганні,
І роднага неба балкітны прастор,
І ясныя зоры — вясной, на світанні,
І ціхія гладзі люстраных азёр.
Я еду дамоў! Не ў госці, да часу,
Я еду узняць, аднавіць гарады,
Засеяць палі неабсяжных калгасаў
І міру навечна адзначыць сляды.
Засеем палі і сады зноў насадзім,
Радзіма, ты ўстанеш у новай красе!
Табе мы у працы ніколі не здрадзім,
Навекі з табою мы звязаны ўсе!

*1946*

* * *

У вырай далёкі лятуць жураўлі
Ад любай, утульнай бацькоўскай зямлі,
Лятуць, а за імі спяшаюць мяцелі,
А то б на чужыну яны не ляцелі...

Ты чуеш тужлівы, падвоблачны крык,
Важак да далёкіх палётаў прывык,
Вядзе ён трыкутнік увесь за сабою,
Напоўніўшы даль развітальнай журбою.

Схаваліся жабы — ніводнай няма,
Вужак гэтаксама схавае зіма.
Куды ні павернешся — некуды дзецца.
А то б не ляцелі нікуды, здаецца.

Лятуць... А я ціха на ўзбоччы стаю —
І думаю сумную думку маю:
Вось так жа і мне вылятаць давялося,
Калі ў родным краі нам цяжка жылося.

Як сэрца балела! Як плакала я!
Была нас вялікая ў бацькі сям'я,
І часта мы, дзеці, сядзелі без хлеба,
Гняздо нам, як птушкам, кідаць было трэба...

Мінула пара — зарунела вясна,
Снягі і ільды растапіла яна.
І гоман птушыны калыша узлессі —
Вяртаецца вырай і я — звонкай песняй.

*1946*

* * *

Калі гора грудзі сцісне
І слязьмі напоўніць вочы,
Калі хмара нізка звісне,
Сплыць з вятрамі не захоча,—
Не чакай, пакуль разгоніць
Хмары моцны, бурны вецер!
Хто смялей шляхі бароніць,
Той лягчэй ідзе па свеце.
Дык змагайся ты за долю
Для сябе і для народа,
Расквітнела каб на волі
Наша доля і свабода,
Каб захопнікаў праклятых
След засыпаў буйны вецер,
На будове ж дзён багатых
Будзь мастак найлепшы ў свеце.

*1946*

## ПЕСНЯ

*Янку Купалу*

Расплываецца шырока
Веснавое песні кола,
Зачапілася за дрэва,
Па-над лесам паплыло.
Адгукнулася ёй рэха
Гулам звонкім і вясёлым
І назад чароўным спевам
Адгалоскі прынясло.
Я сальюся сваёй думкай
З хваляй той раскалыханай.
Хай мяне туды закіне,
Дзе сінеюць тоні вод.
На пляцы шырокім неба
Сіні вечар паліць іскры,
І таемна асвячае
Ён імклівы наш палёт.
Хваля гулкая нясецца,
І напеўнасцю калыша,
І чароўнасцю хвалюе
Непаўторнаю яна.
Толькі плыць бы так бясконца,
І не знаць дрымотнай цішы,
І гучаць у дзіўным спеве,
Як напятая струна...

*1946*

* * *

Каб магла я зоркаю гарэць!..
Зайздрасць сумам сэрца заснавала.
Мне б тваё праменні, зорка, мець,—
Я б не так іх скупа рассявала.
Запаліла б іх ва ўсю я моц

І распырскала б у ноч шырока,
Аж туды, дзе дыша цёмны Сож,—
Над зямлёй Радзімы яснавокай;
Насукала б струн я залатых,
Нацягнула б на вяршыні бору,
Каб паслухаць, як на струнах тых
Бор зайграе ціхім пераборам.
Ўсю сябе з душой народа зліць,
Абысці краіну напрадвесні,
Каб усё спазнаць, усё адкрыць
І злучыць у звенні звонкай песні;
Загрымець, як той вясенні гром,
Бліскавіцамі прарэзаць хмары
І праліцца песенным дажджом
На Радзімы родныя папары.

*1946*

## ДУБ

Дуб зялёны узняўся, нібы волат магутны.
Ціха шэпчацца лісце, нават зблізку нячутна,
І вяршыняю гордай ён зусім не хістае,
А ўгару яе ўзняўшы, як карону трымае.
Сонца песціць вяршыню, цёплы дождж яе мочыць.
Дуб стаіць нерухома і за хмарамі сочыць.
Над ім буры грукочуць, над ім плавяцца зоры,
Ён не ведае страху, ён не знае пакоры.
Каля дуба бярозка узнялася высока,
Белакорая станам і ліствой яснавока;
Залаціцца на сонцы кучаравае вецце,
Зіхацяць завушніцы, нібы пацеркі свецяць.
Хіліць галаў бярозка да зялёнага дуба.
Люба побач стаяць ім, прыгожым, ой люба!..

*1946*

## БОР ШУМІЦЬ

Люблю я ў лес пайсці адна. Ў наплыве дум
Люблю прыслухацца, аб чым гамоняць дрэвы.
У дрэва кожнага адметны, ўласны шум,
Настроены — яму ўласцівым толькі — спевам.

Як быццам гусельных былін шырокі сказ —
Шум соснаў залатых, глыбокі, зважны, чуткі.
Напоўнены па край якімсьці цёплым смуткам,
Ён грудзі наліваў натхненнем мне не раз.

У елак гук другі — прасцейшы, дамавіты,
Ён ноты нізкае: ў аркестры — кантрабас.
Скрыпічны соснаў лад, дзе-недзе ў тэкст уліты,
Вядзе кароткі свой і сухаваты сказ.

Грукоча хмурна дуб. Так часам дзед стары
Бурклівы бай вядзе сваім малым унукам.
Трасецца чуб сівы, узносіць дагары,
Як моцныя сукі, мазолістыя рукі.

Асіна ўся дрыжыць, як горкая ўдавіца,
Пялешчуцца ліcткі, ў іх б'ецца боль і жах:
Адна яна, адна... Куды ёй прытуліцца?
І адзіноты сум калоціцца ў лістках.

Дзяўчынкай маладой бярозка з краю ўстала,
Шуміць, пяшчотная, і свеціцца ліствой.
Сярожкі золатам праменяцца на ёй —
К ёй светлая пара кахання завітала.

У дрэва кожнага свой выгляд, мудры шум,
Напоўнены — яму ўласцівым — рытмам спеву.
Люблю я слухаць, як шумяць у лесе дрэвы
Пад гаману маіх разважных дум.

*1946*

* * *

I

Далёка за вёскай іграе гармонь,
То звонка, то ціха, працяжна.
Мы выйшлі з табою — далонь у далонь,
Ты ў вочы глядзіш мне уважна.

«Я думаў, няўжо не пазнаеш мяне,—
Сказаў ты з усмешкай лагоднай.—
Я доўга пражыў у чужой старане,
Свая мне тым больш стала роднай...

А ты як жыла?..» Помню вечар такі...
Стаялі мы побач ля мора.
Плылі параходы, і іх аганькі
Хісталіся ў шызых прасторах.

Маяк загараўся штохвілю і гас,
Мігаючы вокам чырвоным,
А з палуб далёкіх ляцелі да нас
Мелодый святочныя тоны.

У парку прыморскім згусцілася цьма.
І ў гэтым чароўным сутонні
К табе галавой я прынікла сама,
Адчуўшы твой подых на скроні...

Ты скора паехаў кудысь на заход,
У энскі атрад пагранічны,
А потым — пісаў, два-тры разы у год,
Аб нашым спатканні нязвычным.

І — раптам замоўк. Прахадзілі гады.
Прыцьмілася прошласць сутоннем,
І сцерліся ўсе успамінаў сляды,
Каб зноў уваскрэснуць — сягоння.

Забытыя годы чаргою ідуць
І сэрца ўспамінамі раняць...
Ўсё шчасце жыцця — і ліхую бяду —
Я бачу, нібы на экране.

II

Спаткала ў жыцці я такую любоў,
Якая не многім даецца.
Як казка, як чары праменныя слоў,
Яна апавіла мне сэрца.

Як добра, як шчасна мы з любым жылі
У тыя нялёгкія годы,
Калі мы з разрухай бой трудны вялі,
Ў баях адстаяўшы свабоду.

Тады нам не раз не хапала ўсяго
І хлеба падчас не хапала,
І ўсё ж — у каханні бязмежным яго
Мне шчасце нязменнае ззяла.

Мы так працавалі! Ён быў аграном,
Наладжваў паўсюды калгасы,
Я — сына расціла, ўлаштоўвала дом,
Хапала і сіл мне і часу

З любімым да позняе ночы сядзець,
Яму памагаючы ў працы.
Мы звыклі ўсім цяжкасцям ў вочы
глядзець,
Нічога ў жыцці не баяцца.

Казаў мне любімы: «Да шчасця ідзём
Цяпер гулівераўскім крокам,
Пры гэткім уздыме працоўных людзей —
Ад нас камунізм недалёка!..»

А потым... Прыйшла тая чорная ноч,
Зацьміўшая дзень наш багаты,
Пагасіўшы ззянне праменістых воч,—
Любімага вывелі з хаты...

Пайшла працаваць і ўсю сілу душы
У працу — для шчасця народа —
Уклала... І толькі ў начное цішы
Я плакала — доўгія годы...

Вось так я жыла... А цяпер — памаўчым,
І больш не пытайся, мой дружа...
Час — доктар, умее ён раны лячыць
І сэрца, змярцвелае ў сцюжы.

*1947*

* * *

Ярка над Ісласчу зоры гарацъ,
Водбліскі іх зіхацяць на траве.
Глуха, як бубны, бярвенні бубняць —
Лес сваім ходам да мора плыве.

Вогнікі скупа блішчаць на плытах,
Чуецца песня далёка ўначы,
Лёгка лунае ў паветры, як птах,
Быццам ад хлопцаў не можа ўцячы.

Хлопцы звязалі бярвенні ў плыты,
Гоняць іх смела удаль-далячынь.
А над ракой навісаюць масты,
А пад мастамі бушуе быстрынь.

Трэба мець вока на хібах вады,
Трэба руку капітанскую мець:
Ёсць непраходныя ў хвалях хады,
Можна і ў процьму з плытом паляцець.

Толькі плыты праганяў тут не раз
Наш атаман — плытагон малады.
Ды вось ні разу ў вірах не завяз
І не збаяўся таемнай вады.

*1947*

* * *

Помніш? Музыкі да нас даляталі гукі,
Шалясцеў пяшчотліва каля ног прыбой,
І без слоў спляліся ў нас самі нашы рукі,
І ты ціха мне шапнуў: «Добра мне з табой!»

Потым лёс цябе удаль з гор тваіх закінуў.
Ды сустрэчу нашу мы ўспомнілі не раз,
Грэла сэрца нам цяпло гэтых успамінаў...
Ды — дзяліла нас жыццё, не спытаўшы нас.

Хоць праз далі мы з табой і сягоння дружым,
Час прайшоў — і змены ён, дружа мой,
прынёс...
Нараканнем познім далі не асмужым.
І — пішу апошні раз...
Ну, не трэба слёз!

*1948*

* * *

Прыйдзі сюды! Прыйдзі так проста, як учора,
І ціха сядзь пры мне... І не кажы ні слова!
Люблю я памаўчаць, калі душа гаворыць
І льецца ў шчыры верш яе нямая мова.

Ўзнікае успамін, як ніць з клубка віецца,
Ўстаюць з мінулага дні, месяцы і годы...
І ўсё жыццё маё шырокай хваляй льецца,
Як роднай Існачы плылі ў дзяцінстве воды.

Ты ўвёў мяне ў той свет, дзе дум высокіх кола
Гучыць мелодыяй у вобразах дзівосных...

Радзіма сніцца мне — яе гаі і сёлы,
Шыр каласістых ніў, лугі ў рамонках росных...

І песня ўжо гучыць і просіцца у словы,
І словы у радкі кладуцца, быццам самі...
Як добра мне з табой!
Пачуццяў шчырых мова
Бязграннасць вобразаў адкрыла перад намі.

*1948*

* * *

Я так доўга была адзінокай —
Маё шчасце вайна здратавала.
Ты ўвайшоў нечакана сягоння,
Ну, а я — быццам долю спаткала.

Што з табой увайшло ў маю хату?
Успаміны з мясцін маладосці,
Постаць друга ў шынелі салдата.
Як прыемны мне гэтыя госці!

Дык жа сёння нязвычнае ранне,
Промні шчасна дрыжаць залатыя,
Накрываем мы стол для снядання,
Бачу я твае рухі жывыя.

Не ідзі ты сваёю дарогай!
Хай яна ў адзіноце спуецца...
Я чакала... З надзеяй чакала,
Што ля хаты маёй, ля парога
Маё беднае шчасце прачнецца.

*1949*

## ЖУРАВІНЫ

Ўюцца над мохам цянюткія вецці,
Дробныя кветкі, як зорачкі, свецяць.
Потым, на ложку пуховага моху,
Родзяцца перлы — што зерне гароху.

Срэбную россып іх ветры абвеюць,
Ў сонцы асеннім яны ружавеюць,
Ціха ляжаць, нерухома і сонна,
На белым моху раскінуўшы гроны.

Подых зімы, свіст шалёнай завеі
Ціхі спакой над балотам развее.
Гроны ляжаць, быццам срэбныя слёзы,
Сцятыя жорсткай рукою марозу.

Лёд іх сціскае, калоціць завея,
І чырванеюць яны, саладзеюць
І даспяваюць у горы сцюдзёным,—
Не ў дабрабыце, спакойным і сонным.

*1949*

## * * *

Бацька першы раз сабраўся ў госці,
Да дачушкі роднае, да Косці.
Нездароў ён быў з два дні ці болей,
І трывожны сум яго адолеў:
— Едзем к Костачцы,— сказаў ён Іне.
Ехалі да станцыі ў машыне,
Праз шляхі-дарогі Магілёва,
Да Масквы той, золатагаловай...
Скіраваны гарачковай думай,
Ехаў бацька — з нейкім цяжкім сумам...

Шмат туляўся ён па ўсіх дарогах,
Хлеба з розных печак еў ён многа,
Не заўсёды яму шанцавала,
Гора шмат на долю яго пала...
Стары, хворы, вось сабраўся ў госці,
Да дачушкі роднае, да Косці.
Помніць, горача яго прасіла:
Прыязджай да нас, татуля мілы.
Помніць, вочы яе цёпла грэлі,
Калі ў хаце ўсе яны сядзелі,
Калі маці лаяла старога,
Што рабіць не хоча ўжо нічога.
Бацька неяк слаба нахіліўся:
— Што рабіць... А я ўжо нарабіўся...
Хопіць мне! Хапіла аж па горла...
Ўсіх дзяцей маіх жыццё зацёрла.
Стася пахавана дзесьці ў Гродне...
Пехатой пайшоў бы я сягоння
На дачушкі роднае магілу...
Толькі не дайду... Не хопіць сілы!
Эдзік, орлік мой, сынок мой мілы!
Паў на фронце... Дзе яго магіла?
Я не бачыў. І не чуў я гора
Больш таго — якое ўзяў з пакорай
На свае натруджаныя плечы...
Унук мой, Жэня, хай мяне палечыць
Цеплынёй і ласкаю дзіцячай,
З ім — я толькі з радасці заплачу...
І прыехаў...
Радасна сустрэлі...
Не к сталу вялі — а да пасцелі,
Бо ён быў ужо слабы і хворы.
Костачка счарнела ўся ад гора,
Каля ложка хворага сядзела,
Не піла, не спала і не ела,
Ён ляжаў, бяссільны, сонны, хвейны...
Урач сказаў: на жаль, ён безнадзейны...
У Матроніне яго схавалі...
Цяжка, цяжка ўсе мы сумавалі,
Завалтузіў яго лёс пракляты —
І не стала дзеда ў нас і таты.

*1951*

# РОДНАМУ КРАЮ

Зямля беларуская, родная маці,
Расціла мяне ты у беднае хаце...
Ля прызбы стаялі сяброўкі-бярозкі,
Ранялі на голаў мне светлыя слёзкі
І к сонцу працягвалі тонкія вецці,
Якія май зеленню яркаю квеціў.
Жылося нам цяжка і горка нярэдка...
І ўсё ж расквітнела дзяўчына, як кветка,
І выйшла у свет... На дарогу — праз поле,
Шукаць свайго шчасця, шукаць сваёй долі,
Як птах, што, раз першы раскінуўшы крылы,
Кідае гняздо, каб адчуць свае сілы...
Жылося усяк... Лепш і горай жылося,
Як ліст, адарваны з сучка, вецер носіць,—
То скіне на дол, то — угору падыме...
Так я, пакланіўшыся нізка Радзіме,
Пайшла ў свет шырокі, чужы, нелагодны,
Шукаць сабе працы... Далёка ад родных
Знайшла я людзей, што спрыялі мне шчыра,
А ўсё ж Беларусь, скуль ляцела я ў вырай,
Была мне заўсёды жаданай і роднай,
А потым Масква прытуліла лагодна
І светлай красой увайшла мне у грудзі...
Яна мне да смерці любімаю будзе!
І ўсё ж час ад часу ўзнікае патрэба
Убачыць блакіт беларускага неба,
Пачуць нашы песні, хадзіць па узгорках,
Дзе пах ад чабору, духмяны і горкі.
Дзяцінства маё мне паставіць прад вочы.
Ружовыя ранкі... Блакітныя ночы...
І шум баравы — то спакойны, пануры,
То грозны, калі раскалышацца ў буры,
То светлы, праніклы, патайны і чысты,
Як шум ціхай хвалі люстрана-празрыстай,
Хаджу я тады, як дзяўчынка малая,
Што слухала песні зялёнага гаю,
Што думы складала у вершы над рэчкай,
Дзе грэчка паліла ружовыя свечкі,
Дзе межы сівелі ад пахаў палынных,
Дзе дзіва-кастрамі цвіла канюшына,
Дзе песні плылі задуменна, тужліва,

Над лесам, над гаем, над спелаю нівай,
І сэрца кранալі так сумам глыбокім,—
Што слёзы расілі дзявочыя шчокі.
І сёння я песні свае прысвячаю
Маёй Беларусі — любімаму краю.

*1952*

* * *

Мы па роснай траве пракладаем сляды,
Йдзём — і самі не ведаем, йдзём мы куды...
Скронь сваю да грудзей тваіх, любы, тулю,
Чую спеўнае, мяккае слова «люблю»!
Ад якога — так толькі бывае у сне —
Акрыляецца шчасцем душа у мяне...
Губы зліты з губамі, ў далоні далонь,
Сэрца паліць няўтульны, няўемны агонь...
Ці то хвілі плывуць? Ці праходзяць гады?..
Ці шалее ад радасці май малады?..

*1952*

* * *

Гостра ў хворым сэрцы ўспыхнула трывога
І калючым болем у грудзях нуртуе.
Гэтак падарожны — ідучы дарогай —
Раптам гром з-за лесу нечакана чуе.

А навокал пуста. Ні жылля, ні дрэва.
Цераз поле ўецца стужачка дарогі.
Хмары пачарнелі, душаць чорным гневам,
Дождж спускае долу вадзяныя ногі...

Бліскае маланка сінімі агнямі...
Нада мной бушуе грому кананада.
Хтосьці ў вочы глянуў чорнымі вачамі,
Сэрца б'ецца гулка — без былога ладу.

Сто іголак гострых пранізала цела,
Быццам лёд раптоўна губы мае студзіць...
Я не ўсё зрабіла, што для вас хацела.
Можа, мае песні і патрэбны людзям?

Сэрца, не спыняйся! Біся рытмам роўным...
Ты — сыдзі з дарогі! Паміраць мне рана.
Гул плыве пявучы, юны, сілы поўны...
Ён не змоўкне сёння, смерцю абарваны.

*1952*

* * *

Вочы шэрыя, а бляск іх — залаты...
Льецца ён на лес, на дрэвы, на кусты,
Асвятляе ўздым пагоркаў, схіл далін,
І гаі, і каласістыя палі.
Месяц промні, як качэлі, апусціў,
Села ў іх — такая светлая, наздзіў!
Хустка сіняя у зорках залатых,
Быццам з золата чырвонага літых.
Адбіваюцца яны у хвалях вод,
Быццам купал неба скінуўся на спод.
Ночка, ночка... Да чаго ж прыгожа ты
У таемным ззянні зорак залатых.

*1952*

## НАД НАРАЧЧУ

Нарач беліць кужалі
Тумаяоў на цёмнай плыні.
А на небе вечар сіні
Густа зоры запаліў.
Сёння слаўны быў улоў,
Мы паднялі з цёмнай глыбі
Трапяткое срэбра рыбы,
Заўтра сець там кінем зноў.
Бачыш? — паліцца касцёр,
Пар бруіцца ад вячэры.
Далятае шум аеру,
А вышэй — гамоніць бор...
Разбудзі мяне, калі
Згаснуць зоры ў небе сінім,
Раніцой мы сець закінем
Там, дзе зыбіцца прыліў.
Песня льецца ад кастра
І плыве далёка ў далі...
Нарач гойдае на хвалях
Песню, як сястру сястра.
Разбудзі мяне, калі
Ранак першы промень кіне
І са светлай сваёй плыні
Нарач зніме кужалі.

*1952*

## ГАВАРЫ МНЕ

Гавары мне, яшчэ гавары!
Гнецца ветка пад ветру падзьмухам...
А твой голас — як шум у бары,
Мне б яго толькі слухаць і слухаць.
Я не чую хвілінамі слоў,

Не ўнікаю ў іх сутнасць...
Не словы —
Гэты голас, што ў сэрца ўвайшоў,
Я, як музыку, слухаць гатова.
Мне ніколі з табой не адчуць
Ў хвілю ласкі утульнай, гарачай,
Як званы недавер'я гудуць
І заходзіцца сэрца ад плачу.

*1953*

## ДЗЕНЬ ШЧАСЦЯ

Гэты дзень, нібы жэмчуг каштоўны,
Я апраўлю у золата памяць.
Шлях жыцця майго, просты і роўны,
Узвіхрыў ён, як бурная замець.
Узвіхрыў, загудзеў навальніцай,
Бляскам шчасця напоўніўшы грудзі...
Мне даўно ўжо нічога не сніцца,
Гэты дзень доўга сніцца мне будзе.

*1953*

## РОЗДУМ

Вясна прыйшла — каторы раз ужо
Ў маім жыцці! Дзьме цеплынёю ў вокны,
Хоць краявід закрэслены дажджом,
Хоць каля хат таполі зранку мокнуць.
Чарнее дзе-нідзе апошні друзглы снег,—
Ён у кіпенні вод празрыстых згіне.

Руччы звіняць. Пяюць. Здаецца мне,
Што не было раней такой імклівай плыні.
Гляджу адкрыта ў ясны далягляд.
Прыйшоўшы к новаму высокаму парогу,
Мне азірнуцца хочацца назад,
На ўсю сваю жыццёвую дарогу.
Што там? Там многа золкіх зім гуло,
Сцюдзёных сцюж кіпела нада мною.
Але усё, як горкі сум, сплыло,
Сплыло, як лёд з паводкаю вясною.
І мне так хочацца пад сонцам вёснаў жыць
І працаваць натхнёна разам з вамі,
Чый шлях шчаслівы стужкаю ляжыць,
Каго лічу любімымі сынамі.
Хачу ісці наперад, як і вы,
З народам родным і любімым краем.
Не сорам мне сівое галавы,
Я не адну шчэ песню праспяваю.
А прыйдзе вечар, ціха я засну,
Вас блаславіўшы ў шлях, палёт саколі,
І буду сніць дарогу, і вясну,
І родны край, і рунь на родным полі.

*1954*

* * *

Люблю агонь, што нельга патушыць,
Што свеціць іншым — непагасным бляскам.
Мне б верш такі, што можа доўга жыць,
Іскрыцца яркай цеплынёй і ласкай.

Іскрыцца думкай — светлай, як зара,
Натхненнем шчырым, сілаю вялікай,
Каб, трапіўшы да кожнага двара,
Ён мог людзей да будучыні клікаць.

*1954*

5—2369

## САСНА

Меднастволая, ўзняла высока
Кучаравыя, тонкія вецці.
Каб іх песціў ўсхвалёваны вецер
На пярыне пуховай аблокаў.
Хіліць, гібкая, стан свой прыгожы,
І шуміць, і шуміць, і спявае...
А над ёй хмаркі лёгкія таюць,
Каб не засціць ёй сонейка, можа?
І мне сняцца далёкія годы,
Дні дзяцінства. І вёсны і зімы.
Цёмны бор наш... І край мой любімы,
І краса яго дзіўнай прыроды.

*1954*

* * *

У нядзелю па маліну мы ў лясок ішлі,
Туманы плылі ў лагчынах, нібы сны зямлі.
Яшчэ сонейка не ўстала,
Толькі зорка запалала —
Хмаркі расцвілі.

Тут набралася чародка маладых дзяўчат.
А маліна на галінах —
Як той буйны град.
Палымнее сокам спелым
На галінках пасівелых,
Браць яе пара.

Янка ў ягады з Мальвінай перайшлі праз лог,
Дзе звініць званочак сіні, дзе цвіце мурог...
Добра, хораша, як двое,
Калі ў згодзе між сабою —
Там не трэба трох.

Паднялося сонца ўгору, высахла раса,
Расплялася у Фядоры русая каса.
У маліне — як маліна,
Русакосая дзяўчына,
Дзеўчына-краса.

Нездарма Міхась не зводзіць з дзеўчыны вачэй.
Яна замуж не выходзіць — рана ёй яшчэ.
А цяпер — стаяць вось двое,
Не нацешацца сабою,
Гутарка цячэ...

Як вярталіся саколкі,—
Дзень высокі гас.
Былі поўныя кашолкі аж ва ўсіх у нас.
Толькі ў Фені і Мальвіны
Не было зусім маліны...
Толькі ў дзвюх — якраз!

*1955*

* * *

Няхай сабе схіляе дзень
Бег сонечны на ціхі вечар,
Няхай сабе і ноч ідзе,
Не ухілюся ад сустрэчы
З усім, што прыйдзе да мяне.
Хоць будзе сэрцу трошкі шкода,
Што новым песням не звінець
Тады ў вушах майго народа,
Тым песням, што жывуць ва мне,
Якіх яшчэ я не прапела,
І не гучаць ім па вясне
Над дрэвамі ў кіпенні белым...
Няхай сабе пакуль жыву —
Дням новым, сонца бляску рада...
Кіплю, як кіпень вадаспаду,
І рэчкай бурнаю плыву.

У маіх думах і жаданнях
Парыў душ юных, маладых!
Ты не лічы мае гады,
Ў вачах маіх зара світання!

*1955*

* * *

Там, дзе спелі журавіны
На падушках моху белых,
Ганабобель рос палынны
Паміж купін пасівелых;

Дзе дрыгва ў паўсне ляжала
Пад плёнкаю туманаў,—
Там мой ранак я вітала,
Мой жыццёвы, трудны ранак.

Ў лесніковай беднай хаце,
Як пралеску напрадвесні,
Гадавала мяне маці,—
Пушча нам спявала песні.

Мы хадзілі ў журавіны,
Рвалі буйныя брусніцы,
Пад пушыстаю ляшчынай
Воду чэрпалі з крыніцы...

А цяпер там новы горад
Сігануў да звонкай высі,
На тарфянішчы азёры
Неаглядна разліліся.

Ў гэтай новай, добрай долі —
Часам толькі ў сне прысніцца:
З беднай хаты з чорнай столлю
Я, малая, йду ў брусніцы.

*1956*

* * *

Змоўкла ўсё, навокал ціша.
Ноч даўно сышла на свет.
Ды не змог заснуць паэт,
Нейкі рытм душу калыша.

Чыстым звонам ручайковым
Акрыляецца радок —
З сэрца б'е і рвецца ў слова
Электрычнай сілы ток.

Так паэт складае песні,
Калі людзі ўночы спяць.
Клён гамоніць так на ўзлессі,
Хвалі мора так шумяць.

І ў душы яго прачулай
Так жа льецца проста спеў,
Як той ціхі пошум з дрэў,
Покуль сэрца не заснула.

*1956*

## У ЛЕСЕ

Нешта звонкае, звонкае, звонкае,
Што, як песня, ўлівалася ў душу.
Аказалася тонкай сасонкаю
Паміж елачак, быццам заснуўшых.
Меднастволая ўзняла высока
Кучаравае, тонкае вецце,
Каб яго песціў радасны вецер,
Што з-пад самых прымчаўся аблокаў.
І мне сняцца далёкія годы,
Дні дзяцінства. І вёсны і зімы —
Цёмны бор наш, і край мой любімы.
І краса яго дзіўнай прыроды.

*1956*

* * *

Я не раз бывала запявалам
У маім няўрымслівым жыцці.
Ад другіх нідзе не адставала,
Лёгка, проста мне было ісці,
Лёгка и змагала схілы, горы
З песняй, поўнай сілы пачуцця.
Разгубіла я запас жыцця
Вельмі скора... Штосьці вельмі скора!
Сёння бачу, маладыя йдуць
І пяюць ўсе тыя ж, нашы песні.
Чую іх, і майму сэрцу цесна,—
І ў маіх грудзях яны гудуць!
Вось, праходзяць... Радасная, ўслед
Я гляджу... Яны, не я ў паходзе...
Зрок спагады горыч слёз лагодзіць,
Развітальны кінуўшы прывет.

*1957*

* * *

А ты прыйдзі ка мне, калі ў цяжкой задуме
У цяжкі час жыцця пачнеш сяброў шукаць.
Павер мне, боль уся у адзінокім суме,
А з другам ў час такі так добра памаўчаць!
Пытацца у цябе я ні аб чым не буду,
І жалем абражаць не стану я, павер!
У дружбу веру я, як гора верыць цуду,
Без дружбы не была б жывою я цяпер.
Вось горка стане мне — і белы свет не мілы,
Бо скрыўдзяць людзі так, што невыносна мне.
Каб знесці боль душы, дзе б мне набрацца сілы,
Каб верны, шчыры друг не падтрымаў мяне?!

*1957*

## ЧАЛАВЕЧАЯ РУКА

Рука — гэта інструмент тонкі!
Як геніяльна створана рука...
Ці то кранецца струн пявучых, звонкіх,
Ці закідае сеці рыбака,
Ці дом будуе, ці штурвалам правіць,
Ці піша сціпла яркія радкі...
Рука людская! Што мы проціставіць
Маглі б супроць стваральнае рукі?!

*1957*

* * *

Я кожны дзень бяруся за пяро —
І прылятаюць думы-пчолы роем,
Яны вясёлкай ззяюць нада мною,
Пакуль не прывітаю іх: дабро!
Адной займуся...
Ўжо другія зніклі.
А тая, што у сэрца заплыла,
Уся поўная і праўды і цяпла —
Таго, што бачыць мы ў жыцці прывыклі.
У вобразе яна — без ценяў, таямніц,
Як залаты арэх увосень на ляшчыне,
Даткніся — і ў далоні заблішчыць,
Удар — і створкі прад табой расчыніць.
А там — зярно. Там — сутнасць. Думка, ты
Не ўпала у далонь арэхам спелым...
Нялёгка словы гэткай яснаты
Знайсці, каб ясната ўвек не сацьмела,
Не проста сэрца распаліць агнём
Такім, што нават дыямент расплавіць
І грані ўсе жыцця праявіць.

*1958*

* * *

Лесам коціцца рэха
Песень, гоману, смеху —
Сена ўвішна стагуем сягоння.
Вал зялёны, пахучы
Граблі конныя ў кучы,
Быццам хвалю квяцістую, гоняць.

Стог шырокім квадратам
Залажылі дзяўчаты —
Завіхаюцца лоўка і жыва,
Бо канвеерам з долу
Ў тэмпе быстрым, вясёлым
Ім кідаюць ахапкі рупліва.

Дружна спорыцца праца,
Ды і як не старацца —
Вызначаюцца контуры стога.
І, не знаючы змогі,
Ходзяць спрытныя ногі,
А з вяршыні — шырэе дарога.

*1958*

## СТАРАСЦЬ

О старасць! Я цябе не клікала, не, не...
Дык што ж ты наплыла, навісла чорнай хмарай?
І страшыш ты мяне, як прывід грозны, старасць,
І безнадзейнасцю сціскаеш сэрца мне.

Жыву я ў поўны рост. Мяне хвалююць мары,
І песні я пяю аб шчасці, аб вясне.
Чаго ж ты дамагаешся? Чаго ты хочаш, старасць?
Чаму панура так глядзіш у вочы мне?

Прыйдзі пазней!
Прыйдзі, як восень залатая,
Адзеўшы ў золата і дрэвы і налі,
Прыйдзі, багатая высокім ураджаем
З пражытых мною дзён, што ў словах расцвілі...

І будзеш ты тады прыемнай і прыгожай,
Усё, што зроблена, я ўвосень падлічу,
А сэрца скажа мне — што колькі захачу,
На столькі я магу здабытае памножыць.

Бо шмат яшчэ імкненняў у душы,
Хвалююць душу мне жаданні і надзеі,
Цікавяць радасна дзён сённяшніх падзеі,
І многа важных спраў мне трэба завяршыць.

Дык ты ідзі сабе — і не чапай мяне...
Сыдзі з вачэй маіх! Сплыві па ветры хмарай!
Зарана ты ідзеш, павер, зарана, старасць,
І я цябе зусім не клікала. Не, не!

*1959*

## ВОСЕНЬ

Ведаю, і нада мной калісьці
Восень густа пазалоціць лісце,
Загарыцца полымна над хатай
Клён наш мілы, лёгкі клён крылаты...
Лес прывідным стане на адхоне,
Апусцеюць, пачарнеюць гоні.
Запалю я ў маёй хаце печы,
З трэскам будуць дровы ў іх паліцца,
І цяпло ад печак будзе ліцца,
І агорне ногі мне і плечы...
Працавала ўлетку я з ахвотай,
Час прыйшоў спачыць мне ад работы.
Шчасце ёсць і ў цішыні глыбокай...

Вось гляджу, агонь як ліжа дрэвы,
Як шыпяць у іх жывыя сокі,
Як смала ўскіпае ад нагрэву,
Як ля сцен дрыжаць пужліва цені,
Ад ігры агню, яго праменняў.
Добра мне. Цяпло, і ноч, і ціша
Льюцца ў грудзі мяккай асалодай.
Што ж, пара. Прайшлі у працы годы,
Штурмавала не адно узвышша,
Не масцілі мне шляхоў пад ногі,
Не шукала лёгкай я дарогі,
Добра адчуваць, што шчырай працы
Аддала я маладую сілу.
Мо не ўсё, а гэта можа стацца,
І не так, як трэба, я зрабіла,
Толькі ў творчым і гарачым ўздыме
Сіл душы служыла я Радзіме.

*1959*

* * *

Хай душ нам не раняць хаўтуры.
Сышоў хто з пуці —
Не з маршам рыдання панурым
Братацца ў жыцці!
Аддайце сышоўшаму дані
І маршаў і слёз.
Хай горасны сум расставання,
Што мукі прынёс,
Душы ў чорны крэп не адзене
На доўгія дні:
Смерць побач ідзе з нараджэннем,
Смерць гасіць агні.
Жыццё запаляе іх смела.
Так змена ідзе...
Не трэба, каб сэрца нямела
Ад слёз у людзей!

*1959*

## ЯНКУ КУПАЛУ

З дзён дзяцінства да старасці год
Нас гарачая дружба з'яднала.
І у шчасці, і ў суме нягод
У твой дом я прыходжу, Купала.
Дом твой быў мне прыязны заўжды,
Ты спрыяў мне з пачуццем глыбокім.
Мо таму, што на шлях твой шырокі
Я драбнюткія клала сляды...
Як вясёлкі яскравай дуга,
У паэзіі шлях твой адзначан.
Ну — а побач ступала нага
Маёй скромнае музы дзіцячай.
Яе мары ты сціпла збярог
У букецiку «Кветкі курганнай»...
Бляск пялёсткаў у росах духмяных
Ты убачыў, цвісці ім памог.
Дні прайшлі... Прамінулі гады,
Сівізна маю скронь заснавала...
Ты ж душы маёй блізкі заўжды —
Шчыры дружа мой Янка Купала.

*1959*

* * *

Я зерне спелае адбіла ад паловы
І цьмяным золатам напоўніла далоні.
І мне чамусьці ўспомніліся словы,
Якія ты сказаў мне на таку сягоння.
Ў далонях звонкіх хлеб, цудоўны, нібы песня...
А словы — у грудзях... Запалі так глыбока!
І сэрцу горача, і сэрцу стала цесна...
І слёзы палкія ўскіпалі бурна ў воку.
Паверыць я хачу... Паверыць я гатова!
А часам — нейкі жах душу маю агорне:
Што, калі ў словах тых — не чыстай праўды зерні,
А легкадумная, узвейная палова?

*1959*

## РЭЧКА І КАМЕНЬЧЫК

Спакой зімы, сняжыстай, соннай,
Змяніў жывы і неўгамонны,
Пявучы, кветны, бурны май.
Любоўна сонца грэе нівы,
Шуміць, гудзіць наш Сож бурлівы,
Сцякае з поля ў дол ручай.
Каменьчык жаліцца вадзіцы:
«Ты можаш плыць, шумець, бруіцца,
А я на месцы вось ляжу».
Тут — рэчкі бераг падламаўся,
Каменьчык у ваду сарваўся,
Падун схапіў яго, панёс...
На дно кідае, ў вірах кружыць,
Каменьчык больш ужо не тужыць,
Яго шліфуюць, мыюць, труць,—
Ён будзе гладкім і прыгожым,
Ён засвяціцца нават можа,
Як самацветы, хоць чуць-чуць!
Ісці наперад! Ў гэтым сіла.
Яна усё ў жыцці стварыла
І — творачы — наперад йдзе!
Ў застоі — смерць. Жыццё — ў імкненні,
Для вод, раслін і для каменняў,
Тым больш для нас — жывых людзей.

*1959*

## СНЕГ

Снег, пуховы і ціхі, зямлю атуліў —
Ад раскідзістых стрэх да разложыстыў ніў.
Усё чыста, святочна, і пахне сасной —
У паветры празрыстым духмяны настой.

Цішыня — ажно сэрца не можаш суняць;
Толькі кропелькі дзесьці ў застрэшшы звіняць;
Што ж, за комін зіме не схавацца — са стрэх
Капяжамі сцякае растоплены снег.

Добра мне пасля працы прысесці ў той час,
Калі ў печы агеньчык яшчэ не пагас,
І ў глыбокай, спакойнай вячэрняй цішы
Лёгка мары аб шчасці снуюцца ў душы.

Мне здаецца тады, што і ў той старане,
Дзе калісьці матуля расціла мяне,
Ты цяпер гэтаксама ў задуме застыў,
І ў табе — спіць рачулак вясенні разліў!

*1959*

## ТЫ ДУМАЎ ПРА МЯНЕ

Ты думаў пра мяне,
я ведаю —
бо ўночы
Я не магла стуліць ні на хвіліну вочы.
І думка горача мне душу хвалявала.
Ты думаў пра мяне, і [illegible] таму не спала.
Ты думаў пра мяне,
я ведаю —
у словы
Жар палкіх дум тваіх быў выліцца гатовы,
Яны гучалі тут, так шчыра, так глыбока,
Мне пець хацелася — і плакаць... лёгка, лёгка...
Ты думаў пра мяне,
я ведаю —
і думы
Азваліся ва мне якімсьці светлым сумам.
Пяшчотай мяккаю яны абнялі сэрца,
І ты, ты адчуваў — чаму яно так б'ецца.
Ты думаў пра мяне,
я ведаю —
не стала
Тугі ў грудзях. Душа ад шчасця замірала...
Ты быў са мной! Пры мне!
Пры мне —
а не далёка...
Мне пець хацелася — і плакаць...
лёгка, лёгка...

*1959*

* * *

Многа ў моры бліскучых каменняў,
Многа дзівоснага ў моры на дне,
Глянуць бы раз, цераз прызму натхнення,
Ўсё каб адкрылася мне.
Коцяцца хвалі тугой чарадою,
Гнецца празрысты блакіт,
Шмат непазнанага тут пад вадою,
Скарб тут вялікі укрыт.
Шмат мы ўжо ведаем. Многа пазналі,
Многа яшчэ таямніц,
Ключ ад якіх у бяздонне схавалі
Шэрыя цені імгліц.
Годы ідуць і стагоддзі праходзяць,
Дзень наш гарыць ўсё святлей —
Людзі шукаюць і людзі знаходзяць
Усё, што схавана ў імгле.

*1960*

## АЎСЫ

Шумяць аўсы сярожкамі,
Шумяць аўсы шаўковыя,
Загостранымі рожкамі
Тырчаць стручкі вiковыя,
Спяліся, раскусціліся
Расліны выбуялыя.
Цалінныя раскрыліся
Ім сокі настаялыя.

І п'юць, і п'юць іх прагныя
Карэнні танкагубыя.
Расліны к сонцу цягнуцца,
Дажджы іх росяць любыя.
Ім лета усміхаецца,
І росы крышталёвыя
Шторанак рассыпаюцца
На лепасткі віковыя.

Аўсы цёмна-зялёныя,
Сярожкі пасівелыя,
Хістаюцца у стораны,
Буйныя, хоць няспелыя.
І шэпт ляціць прыглушаны,
Прыцішаны над вікаю:
«Са скошаных, засушаных
Карысць ад нас вялікая!»

*1960*

* * *

Тон спачатку быў ціхутка-ціхі,
Быццам хто крануў струну лагодна,
Быццам тонкі ўсхліп вады падлёднай
Ці зарніц праблісну лі успыхі.
Потым нейкім нечуваным дзівам
Загучала стройна ў паўгалоссі,
Заіграла радужным матывам,
Шырай, шырай, шырай пралілося.
Потым сціхла. Ледзь звінела глуха
І пад столлю стомлена завісла.
Як вясною наледзь — тая скруха,
А між хмар вясёлак карамысла...

*1960*

* * *

Я хацела б, каб пальцы мае
Мелі чуласць такую нязвычную —
Каб усё, што душа пазнае,
Адгукалася нотай музычнаю.

Я ішла б і — употай, ледзь-ледзь —
Да ўсяго бы рукамі краналася...
Каб за мной расспяваная медзь
У былінныя сказы спляталася.

І жыцця таямніцы ўсе
Прад вачамі ўставалі б адкрытыя,
І — што кожнае сэрца нясе,
І — што годы няслі пражытыя.

Каб мне ведаць усё, разумець,
Перакладваць у словы натхнёныя,
Каб гучала душа, а не медзь
Чалавечага голасу тонамі.

Каб палёгку давала грудзям
Тых, што йдуць на высоты жыццёвыя,
Каб, як зорка, свяціла людзям
І на подзвігі клікала новыя.

*1962*

## ЗАШУМЕЛІ СОСНЫ...

Зашумелі сосны! Дзіва! Дзіва!
Быццам бы наяве, а не ў сне,
Маладосць з усмешкаю шчаслівай
Падышла нячутна да мяне.

Я была такой звонкагалосай,
Тоненькай і лёгкай, як яна.
І такія ж ільняныя косы
Залаціла сонейкам вясна...

Выйшла я ў жыццё па траскай гаці —
Бездань калыхалася пад ёй...
— Мужнай будзь,— вучыла мяне маці.
— Чэснай будзь,— даводзіў бацька мой.

Я з дарогі не хацела збочыць,
Хоць яна нялёгкаю была.
Смерць не раз мне пазірала ў вочы,
Толькі я вачэй не адвяла.

Сэрцам не схлусіла я ні разу,
Хоць спакуса сцерагла мяне.
Верная бацькоўскаму наказу,
Я служыла роднай старане.

Мужна перанеслі мы напасці,
І хоць кожны з нас — нядоўгі госць,
Аддаём мы людзям толькі шчасце —
Хай яго шануе маладосць.

*1962*

* * *

*У. Ф. Луцэвіч*

Чаму ты стаіш невясёлая,
З каронай пушыстай, шырокаю,
Выносная, меднастволая,
Сасонка мая адзінокая?

Твой пошум у сэрца ўліваецца
Глыбокаю скаргай прачулаю,
Як быццам табе ўспамінаецца
Маленства-блазенства мінулае.

Шуміш ты, а словы мне чуюцца:
«Стаю вось адна на прагалінцы,
Ці дзень заблішчыць, ці нахмурыцца —
Гадаю я, што са мной станецца.

Навокал карчы... То загінулі
Сяброўкі мае яснакрылыя.
Мяне тут чамусьці пакінулі
Хістацца над іхняй магілаю.

Глядзіце — шырока на просецы,
Як после ліхога пабоішча,
Завалы і пні толькі ўзносяцца,
Ды парасль галінкамі мроіцца...

А я, усім ветрам адданая,
Ахутана толькі аблокамі,
Хістаюся зданню няздраннаю
Над гэтай пустэчай шырокаю».

Шум гэты у сэрца ўліваецца
І думку ўзнімае тужлівую:
Дзе тыя, з кім звыкла я раіцца?
Дзе чула параду зычлівую?

Дзе тыя, што былі мне блізкімі?
Каго так сардэчна любіла я?
І — коцяцца слёзанькі нізкамі
Над нейкай вялізнай магілаю.

Кустарнік вясёлы, задзірысты
Ўверх пнецца, штодзень падрастаючы.
Тут дрэвы магутныя вырастуць,
Каронамі хмары ўзнімаючы.

А сонейка зверху праглянула —
Праменнямі даль заіскрылася...
Мне песня мая праспяваная
Ад першага слова прыснілася.

*1962*

* * *

Пройдзе дзень — і ў вечнасці затоне,
І не вернецца назад ніколі.
Колькі іх, прапаўшых у бяздонні,
Мне б вярнуць хацелася да болю.

І не тых, што шчасцем зіхацелі,
Што далі мне новага шмат зведаць,—
Толькі тых, што марна праляцелі,
Не пакінуўшы ў жыцці ні следу.

Маладосць! Ты маеш дзён багата,
Ты іх, бесклапотная, не лічыш.
Толькі старасць разумее страту:
Мала — ды ні ў кога не пазычыш.

Колькі дум задумана цікавых!
Колькі спраў чакае рук і сэрца!
Мне б вярнуць усе дзянькі, здаецца,
Што прайшлі без радасці і славы,—

Як бы я шырока разгарнула
Ўсе магчымасці свае і сілы,
Ўсё, што недароблена ў мінулым,
Як бы я натхнёна дарабіла!

*1963*

* * *

Холадам шкліцца празрысты ранак,
Ў травах калючых — шэрыя росы.
З ціхіх, застыўшых бяроз беластанных —
Сеецца осып лісцяў бялёсых.

Яркае сонца — толькі не грэе —
Сыпле праменні з высі халоднай,
Неба бяздоннай сінню сінее —
Толькі няма там красак лагодных.

Так расстаецца лета з зямлёю,
Сэрца аддаўшы жар ёй гарачы.
Вось — адыходзіць, са зрэнкай сухою —
Нават не плача! Нават не плача...

*1963*

* * *

Я ў высокай жыву камяніцы,
Прывязаў мяне горад к сабе,
Толькі сэрцу павек будзе сніцца
Лёгкі пух на бязлістай вярбе.

Каб нацешыць і сэрца і вока,
Каб спыніць веснавую тугу,
Сесці ў быстры цягнік я магу
І паехаць... зусім недалёка.

Паўгадзіны... І вось прад вачыма
Лес і рэчка, палі і лугі,
Закружылі бярозкі кругі —
Прабягаюць за вокнамі міма.

Я сцяжынкай іду праз палі —
Разліваецца руні зялёнае мора,
Вее пахам смалістым з застыўшага бору,
У блакіце плывуць жураўлі.

*1963*

* * *

Ў старасці, вядома, трэба цішыні —
Тчэш узоры думак аб жыцці далёкім,
Калі мы да нашых рубяжоў высокіх
Йшлі ў страі салдацкім... Яркія агні
Нас вялі наперад, шлях нам азаралі.
Хто і як мог сілу гэткую змагчы?
Мы — умелі раны на хаду лячыць,
Мы — у вочы смерці смела пазіралі.
Час прыйшоў — маршчыны узаралі твар,
І — хоць гэта ўсім старым няміла —
Трэба прызнавацца: не хапае сілы
Для жыцця, для працы і для светлых мар.
Толькі успаміны часта раняць болем,

Калі ўзнікнуць твары тых, каго няма,
Каго сцяла смерці лютая зіма,
Хто расплыўся рэхам у шырокім полі.
Кожны дзень наступны, быццам падарунак,
Бо вядома — мала застаецца дзён...
Ўсе яны напяты прад вачмі, як струны,
І штодзень — то меней гэтых валакон.
Не, не згінем марна! Будзем жыць на свеце
Ў нашых слаўных дзеях і ў жыцці дзяцей.
Калі сохнуць дрэвы — з долу свежым веццем,
Як вянком пашаны, час іх апляце.
Вось яна — жывая, маладая змена!
Як бурліць жыцця іх шчасная вясна!
Калі ветэраны пакідаюць сцэну,
Талентамі юных зіхаціць яна.

*1964*

* * *

Свішча вецер, круціць вецце ліпам,
А яны згінаюцца і ўюцца,
Кружацца лісты з нямым усхліпам,
Як жывыя, з рук віхуры рвуцца.

Кроплі буйныя загаманілі цяжка,
Барабаняць градзіны па стрэхах,
І віхор здзірае з ліп сярмяжкі
З нейкаю бязлітаснай уцехай,

Лісце абрывае, вецце кружыць,
Бачу я — і нейк мне балюча:
Ліпа, як і сэрца,— горка тужыць,
Калі лёс яе бязглузды мучыць.

Мы таксама гнуліся ад болю,
Мы таксама зведалі віхуры,
Толькі мы адолелі нядолю —
Наша сонца болей воч не жмурыць.

Лівень зашумеў — густы, грымотны,
Захлынуўся вецер у патоку...
Лашчыць ліпы цёплы душ пяшчотны,
Яны дышуць лёгка і глыбока.

*1964*

* * *

Пуржыць, паўзе мяцеліца,
Пялёнкай цёплай сцелецца.

То выгнецца над нівамі
Зыбучымі узвівамі,
То, снег сыпучы носячы,
Заходзіцца, галосячы.

Аб кім яна? Чаго яна?
Ці блізкі хто ў яе сканаў?

Нібы спагады молячы,
Заносіцца, скуголячы.
Мяцеліцай раз'юшанай
Свет белы зацярушаны.

*1964*

* * *

Ты спявай! Такі глыбокі голас,
Быццам хваля з пеністай вадой...
Закружыла радужнае кола
Пражытых маладых гадоў...

Згадваюцца думкі і настроі,
І пачуцці мне звярнула даль...
Нешта будзіць, нешта непакоіць,
Засцілае вочы нейкі жаль.

Бачу я маіх далёкіх, мілых...
Бачу я расцвіўшыя сады.
Песня! Песня! Ты даеш мне крылы,
Клічаш ты мяне ў палёт... Куды?

І — нібыта ўсё не пражыта,
Сэрца хоча верыць і любіць,
Погляд ясны, шчыры і адкрыты
Мне ў душу з мінулага глядзіць.

Знаю! Помню... Гэта ты — мой любы!
Хваля шчасця грудзі наліла:
Ў хваляванні задрыжалі губы —
Я жыццё нанова пражыла!

*1964*

* * *

I

*Алесю Пальчэўскаму*

Як свеціцца цудоўны камень
Глыбокім бляскам чысціні!
Палае радугі агнямі,
Якіх не збрудзіш і не спляміш,
Як зорку з горнай вышыні.

Што парадзіла гэту яснасць?
Што цвёрдасць каменю дало?
Імклівай завірухі страснасць —
Ў глыбінных нетрах непагасных —
Стварыла чыстае святло?

II

Ёсць людзі той жа сілы духа
І той крыштальнай чысціні,
Якіх паліла на агні
Злавеснай буры завіруха.

Скуль моц асілкаў яны ўзялі,
Каб знішчыць горычы сляды,
Ачысціць сэрца ад акалін,
Стаць у працоўныя рады?

Як ясна свецяцца іх вочы!
Якая любасць да сяброў!
А сэрца прагне, рукі хочуць
Ўвайсці хутчэй у рытм рабочы,
Тварыць дабро. Тварыць дабро...

Красу душы, дум гордых сталасць
Ім доля не магла скрышыць.
Іх непахісную трываласць
Жыццё ў дыямент адкавала,
Каб цуд стварэння завяршыць.

*1964*

* * *

I

Сынок мой родны, сын мой любы,
Прайшлі твайго дзяцінства дні.
Твар пасмуглеў, акрэплі губы,
У строгім поглядзе — агні.

Натхнёна расцвіло аблічча,
Стаў гібкім і прыглядным крок.
Жыццё цябе наперад кліча
І рассцілае шмат дарог.

II

З работай спалучы навуку,—
Работа таленты разбудзіць,
Ўзмужнеюць галава і рукі,
І шлях знайсці памогуць людзі.

Ты з маладой і прагнай сілай
Ідзеш бацькам сваім на змену,
Ў патоку бурным, сын мой мілы,
Будзь хваляй! Не на хвалі — пенай.

*1964*

* * *

У скверыку сядзіць яна
Штодзень і грэецца на сонцы.
Сукенка з цёмнага сукна.
У шэрай хустцы і ватоўцы.

Ёй холадна. Старэчых рук
Бяссілле горкае кранула.
След хворасці ці нейкіх мук,
Самота губ не абмінула.

«Нічога ні ў каго прасіць
Мне ў старасці зусім не трэба,
Ёсць што адзець і што насіць,
Ёсць хлеб — і скварка ёсць да хлеба.

Вось толькі старасць... Часам я
Бываю хворай і нядужай...
Лягчэй тым — у каго сям'я,
У час, як ногі ўжо не служаць...

Сын вырас... І забыўся ён,
Што ёсць на свеце дзесьці мама...
Не носіць пісьмаў паштальён,
І сам не едзе ён — таксама...

А мне, уночы, цемната
Глядзіць з кутоў і сон мой будзіць,
І адзінота часам так
Балюча, горка сціснe грудзі...

Вады падаць няма каму,
Няма каму прысесці побач.
Шлю думку я сынку свайму,
І сэрца поўніцца жалобай...

Яго штодзень чакаю я!
Штодзень, штохвіліну...
А ён? Ну, ведама,— сям'я,
І дом, і праца...
Ну, а я —
Вось непатрэбнай стала сыну».

*1964*

* * *

Чайныя ружы ў мяне на стале
Свецяцца квола ў вячэрняй імгле,
Свецяцца бляскам сваім залацістым,
Дыхаюць водарам, тонкім і чыстым.

Зусім нечакана, быццам бы госць,
Смела ўваходзіць мая маладосць,
Сны мае будзіць, ўзнаўляе падзеі,
Думы і мары, жаданні, надзеі...

Бачу я тых, што навекі зляглі
Спаць беспрабудна ў халоднай зямлі.
Вось — мая Ўладка! Мой родны Купала...
Радасць жывая ў вачах іх заззяла.

Горача іх я да сэрца тулю,
Іх я навекі ўсім сэрцам люблю!
Пах гэтых руж, як вясна, малады,
Сціпла закрэсліў старыя гады...

Бачу я блізкіх — і цяжкае гора
З сэрца сплывае, як чорная змора...
Веру я ў шчасце...
Бо — ў шэрай імгле —
Свецяцца ружы ў мяне на стале.

*1964*

* * *

Давай памаўчым! Дысанансам якімсьці
Слых рэжуць мне словы.
Нячутна спадае пажоўклае лісце
На нашы галовы...
Ў глыбокім маўчанні і прыроднаю сілай
Зліваюцца душы.
Збліжае нас час да вячорнага схілу —
А сэрцаў не сушыць!
Як лёгка нясуць мяне думкі і мары,
Як быццам у госці —
Туды, дзе свяціла мне сонца праз хмары,
У дні маладосці...

*1964*

* * *

Ты шчырасцю песні хвалюеш душу,
За сэрца кранаеш глыбока.
Слязою я боль успамінаў гашу,
Сум долі маёй адзінокай.

Спявай! Палягчэнне мне песня дае,
Душа тваім гукам адкрыта,
Жыццё ў ёй тлумачыць загадкі свае,
Гадамі ў туманы спавітых.

А розумам трудна, браткі, зразумець,
Што скрыла ў сабе таямніца,
Калі можна толькі маўчаць, і цярпець,
І думаць, што сон табе сніцца.

Што толькі ачнуцца — і згіне усё,
Ўся жудасць адразу загіне...
А мы і сягоння дагадкі нясём
Аб мужу, ці браце, ці сыне...

*1965*

* * *

Карэннем прырастае чалавек
Паўсюль, куды яго ні кіне доля.
Сабе ён падначаліць наваколле,
Сябрамі абрастае — і жыве.
А толькі ў сэрцы, думах, галаве,
Як подых жыццядайнага Гальфстрыма,
Навек у ім жыве яго Радзіма
Так, як душа яго у ім жыве.

*1965*

* * *

Душы маёй крануцца не пасмее
Ні старасці кашчавая рука,
Ні смерці ледзяністая завея,
Ні забыцця бяздумнага рака.
Яна гарэць умее гэткім бляскам,
Які ніякім змрокам не зацьміць!
Душа мая заўсёды будзе жыць
У словах, поўных цеплыні і ласкі.

*1965*

* * *

Чаму маўчыць душа? А часам мне здаецца,
Што гэта ўжо канец. Што больш не запяе...
Што ў жаркіх дум кастры ёй больш ужо
не грэцца,
Што сіла творчая пакінула яе...
Як страшна мне тады!
Хай лепш знямее цела,
Каб мне на смерць душы ў адчаі не глядзець...
Ды блісне думка, зноў зык песні льецца смела,
Душа гучыць!
Спявай! Спявай, каб жыць і пець.

*1965*

* * *

Стуліць бы вочы і заснуць.
А сон бяжыць з павек стамлёных.
А думкі быстрыя плывуць,
Як хвалі жыта праз загоны.

Чамусьці тое, што было,
Чапляецца — і сэрца раніць.
Усё іначай быць магло,
Перарабіць бы ўсё дазвання.

Аж цяжка часам: ўсё — не так,
Не так жыла і гаварыла,
Кагосьці скрыўдзіла няўзнак,
Няшчырых дружбай адарыла...

А потым — горыч дружбы той
Пякла душу удзень і ўночы...
У сэрца шчырае ніхто
Няшчырага пусціць не хоча.

А там — дабро зрабіць магла
І не пакрыўдзіла б нікога,
Ды ленасць душу абняла,
Ахутаўшы яе знямогай.

І паддалася ёй на час,
А час прайшоў — і радасць знікла...
Агонь спагады шчырай згас,
А ці такой я быць прывыкла?

Валтузіць душу успамін,
Памылкамі мне коле вочы.
Заснуць не дазваляе ўночы
Настырны, непатрэбны сплін.

*1965*

* * *

Хто сказаў, што старасць надышла?
Хто сказаў, што пасівелі скроні?
Гэта замець на двары мяла,
Пабяліла галаву мне сёння.
Во, глядзіце, моцна страхану,
Ападзе налёт пушысты, белы...
Засмяюся, песню зацягну
І у круг ваш юны ўстану смела!
Грай гармонік! Пойдзем танцаваць!
Іскры хай выкросваюць падкоўкі...
Хто прыпеўкі ўмее падпяваць?
Хто з вас самы малады і лоўкі?
Не адстану!
                    Сіла, звонкасць ёсць!
Жыць хачу — каб кроў кіпела ў жылах!
Хай квітнее вечна маладосць!
Старасць... Заглыні яе магіла!

*1965*

## У МУЗЕІ ЯКУБА КОЛАСА

Яго я помню статным, маладым,
Калі сяброўства ў працы нас з'яднала.
Паэтам сталым Колас быў тады,
Так, як і шчыры друг яго — Купала.

А я — дзяўчынкай сціплай і малой
Ішла за імі і паціху пела...
Паэзіі народнае цяпло
Душу маю, як сонца ўлетку, грэла.

Любіла слухаць песні я. Нясла
Іх звон з палеткаў ветраная хваля.
Душа народа ў песнях тых жыла,
І мы яе так добра адчувалі!

Купала, Колас гукі песень тых
На крыллях сакаліных падымалі
І ў новых словах, з золата літых,
Народу шчырым сэрцам аддавалі.

Іх памяць забыццём не зарасце,
І вершы — поўныя цяплом сардэчным —
Сустрэў народ — як дарагіх гасцей,
І ў сэрца іх сваё ўвабраў навечна.

*1965*

* * *

Ты не лагодны быў сягоння.
І — я прызнацца табе мушу,
Што зразу шэры змрок сутоння
Наліў па край мне смуткам душу.
Ты быў чужы, ты быў халодны,
Не глянуўшы, з пакоя выйшаў...

І — дом тады, мой друг лагодны,
Абняў мяне утульнай цішай.
Я не люблю лядовай маскі
З усмешкай кплівай і крывою,
Мне трэба цеплыні і ласкі,
Мне трэба мяккага спакою.
Адкуль яны — узлёты, спады,
Імкненне раніць мімаходам?
А ты ж дарыць умееш радасць!
Дык будзь жа гэтакім заўсёды.

*1965*

* * *

Хурма залатая ляжыць на стале
І водарам поўдня спякотнага дыша.
Тут — восень. Дзень тае ў маркотнай імгле,
Стаіць за акном ледзяністая ціша.

У марах паўдзённыя бачу сады,
Гаі мандарын — на мяжы небасхілу,
Густых кіпарысаў літыя рады,
Што цяжка брыдуць па крамністаму схілу.

Зялёныя хвалі бягуць за пяскі,
Прыбой неадступна шліфуе каменні.
Там — сонца... А ў нас абдзірае ляскі
Бязлітасны вецер — бадзяга асенні.

Сяджу адзінока. А сэрца дрыжыць,
Як дрэўца, з якога лістота апала...
Хурма залатая са змроку імжыць —
Каўказскае сонца ў ёй запалала!

*1965*

* * *

О, не баюся я жыцця,
  не будзе страшна мне ніколі,
Я столькі вынесла бяды
  і зведала так многа болю,
Што не баюся я цяпер
  глядзець і смерці ў злыя вочы,
Хоць ведаю — ідзе яна
  і скора сэрца мне здрузгоча.
Які магутны чалавек!
  Як многа вынесці ён можа...
Тут толькі перайсці рубеж,
  а там — ніштво не пераможа!

*1965*

* * *

*Вандзе Васілеўскай*

Чаму ты сумная такая?
І што панесла ты з сабой
Туды, дзе дзень навек змяркае,
Не будзіць сон курантаў бой.
І думы не трывожаць грудзі,
І сэрца не сціскае боль.
Чаму так тоўпяцца тут людзі?
Чаму ўсё поўніцца журбой?
А ты спакойна так заснула,
І кветкі побач быццам спяць,
Вунь вейкі лілія самкнула,
Не мае сіл пялёсткі ўзняць...
І ты, як лілія, збялела,
І веек чорных цішыня,
Як цень, лягла на шчоках белых,
Дзе чуць дрыжыць, дрыжыць нясмела
Бляск паміраючага дня.

Куды ты йдзеш? І што таіцца
За гэтым ціхім рубяжом?
Ты спіш... А што заснуўшай сніцца,
Калі той сон апошні ўжо?
Гляджу на твар — спакойны, ціхі,
На сумны твой партрэт гляджу...
Лунаюць лёгкія успыхі
Святла скрозь прыцемкаў ажур...
Чаму ты сумная такая?
І што панесла ты туды —
Скуль час нікога не вяртае...
Які цяжар? Чыёй бяды?

*1965*

* * *

Калісьці вечар быў адзін такі...
Гарэлі ў цёмных вецця светлякі,
Шумела мора ў зыбкай, соннай лені...
Прысела я на камень ля вады,
Ты галаву паклаў мне на калені,
З тых пор прайшло ужо нямала лет,
Сустрэчы той даўно зацёрся след.
Чаго ж цяпер — спатканнем выпадковым
Усхваляваны ты — і проста сам не свой?
Мо тым, што больш няма дзяўчынкі той,
З касой да пояса шаўковай,
Што паміж нас адлегласці сцяна,
І стала жонкаю чужой яна...
І ты ж не той асілак малады,
Ёсць ніці срэбныя ў гушчэчы барады.
І толькі ў выглядзе агульным ёсць
Сцвярджэнне: тут шумела маладосць...
Табе і мне гадоў, мой друг, нямала.
Не ўсё жыццё дало, што абяцала,
А толькі чую я — што і для нас
Дзень сонечны не да канца пагас.

*1965*

* * *

Які мне ключ узяць у рукі,
Як адчыніць такія дзверы,
Дзе проста, без ніякай мукі,
Узніклі б вершы на паперы.

Я вобразаў люблю узлётнасць,
Што ў думках, лёгкія, снуюцца...
Як гэтых светлых фарб пяшчотнасць
Даць словам? Фарбы не даюцца...

Шукаеш, ловіш, з болем, з мукай,—
А фарбы блекнуць на паперы...
Ты, муза, дай мне ключ у рукі —
Я адчыню такія дзверы.

*1966*

* * *

Цяпло жывое у тваіх далонях,
Яно лагодзіць, грэе, ласкай песціць...
Люблю пад вечар побач з табой сесці
І ціха скронню прытуліцца к скроні.
Люблю маўчаць тады і толькі слухаць,
Як б'ецца сэрца у грудзях шчасліва,
Як у крыві пачуццяў завіруха
Бушуе, бы мяцеліца на нівах...
А ты мяне к сабе пяшчотна туліш,
Далёкай песні далятаюць словы...
Хачу, каб успаміны год суровых
Ва мне ад ласкі гэтае паснулі...
Каб ні аб чым не думаць! Верыць толькі,
Што любіш ты, што мой ты назаўсёды,
Што будзем жыць мы гэтак годы... Годы!..
І адпадуць і крыўды ўсе і болі.

Бушуе лістапада завіруха,
Ліст жоўты гоніць вецер над дарогай...
Апроч цябе, ў мяне няма нікога...
Шапні мне слова добрае на вуха!

*1966*

* * *

Я хацела б прарасці сасной,
Хай бы ветры пелі нада мной.
Пры жыцці любіла я сасну,
Як сястру душы маёй прачулай,
І калі навекі я засну,
Я хачу, каб кожную вясну
Спеў жывы я на світанку чула.

*1966*

## СЫНУ

Як рада я, што ты такі высокі
У думах, марах, у жыцці штодзённым.
Што ведамі сваймі не аднабокі,
Што ў прынцыпах праўдзівасці нязменны.
Прыемна мне глядзець табе у вочы
І бачыць чысціню іх і празрыстасць,
Умеюць бачыць, каб ты проста крочыў,
Каб не ўвяла у зман дарог імглістасць.
Лагічна ты ўсё ўмееш ўзважыць,
І зразумець, і разабрацца ў з'явах...
А калі ты мне слова з ласкай скажаш —
Мне свет заззяе радасцю яскравай.
На ласку ты не вельмі знешне шчодры,
І гэта часам нават мне балюча...

Ты не шкадуй людзям душы, ні коўдры,
Тым, з кім цябе мароз жыццёвы мучыў.
Я твая маці... Ты мой сын любімы.
Ты ў маім сэрцы — як ва ўласным доме...
Жыві, сынок! А — боль не пройдзе міма —
Будзь стойкім! Бура гэтакіх не ломіць!

*1966*

* * *

З табой мы дружылі — і былі на «ты»,
Ў абоіх тады ў нас кашэль быў пусты...
Прыходзіў ка мне ты ў халодную хату,
На вокнах наклейкі...
Са сцен ледаватых
Снег белы свяціўся — так іскрыўся ён,
Як іней на тонкіх іглінках сасон,
Калі іх зіма сваім дахам агорне...
Мы елі са смакам хлеб гліністы, чорны,
Пілі мы гарачую проста ваду,
Без цукру і чаю. І былі тым сыты.
Казаў ты: і заўтра к табе я прыйду,
З табой у нас душы друг другу адкрыты...
Цяпер мы спаткаліся...
Ты — ўжо не ты,
Якісьці напружаны, важны і строгі,
Як лёгка к табе падняслі мяне ногі!
Сустрэў мяне погляд халодны, пусты,
Заўважыў мяне, пакланіўся мне нізка
І руку пацiснуў халоднай рукой...
А дзе ж той мой сябра? Таварыш мой блізкі?!
Няма...
Час, што ў прошласць сплывае ракой —
Змыў чуткасць і дружбу. А... важнасць прынёс...
Як шкода!
Да слёз!..

*1966*

* * *

Рабіна надзела каралі
І ўстала ля самай дарогі.
Пыхлівыя клёны кідалі
Ёй золата лісцяў пад ногі.
А золата ёй не патрэбна,
Яна ні лістка не падыме...
Мароз яе інеем срэбным
Адзене — і дар яна прыме.
А сёння стаіць вось у сонцы
І вочы красою чаруе.
Такую не ўзяць за чырвонцы,—
Душу аддасі за такую.

*1966*

* * *

Сцямнелі, агрубелі рукі.
У сетцы дробных зморшчак твар.
Ў цябе ўжо праўнукі і ўнукі,
А ты нясеш жыцця цяжар...
Без скарг ідзеш паходкай роўнай,
Як ўсё жыццё сваё ішла.
Ты ўсім патрэбна, безумоўна,
Як промень ласкі і цяпла,
Бабуля! — клічуць цябе ўнукі,
Матуля! — кліча цябе сын...
А праўнук радасныя гукі
Раняе. Ён ў цябе адзін.
І ён за ўсіх найдаражэйшы,
Бо ён, як птушачка, малы,
Бо у цябе ён праўнук першы,
Ляжыць — як лялечка, галыш.
Жыццё ідзе ўсё далей, далей,
След новы на шляху кладзе.
Мы пастарэлі. Мы адсталі...
Як многа маладых людзей!

То ж нашы ўнукі, нашы дзеці,
Вядуць наш шлях, бяруць наш труд —
Каб у вякі яго панесці
На недасяжную гару.

*1967*

* * *

Дзякую шчыра я долі сваёй,
Зведала гора, і боль, і трывогі,
Шлях мой у кроў разбіваў мае ногі,
Толькі — ўсё роўна я дзякую ёй.
Кожны мой крок сілу ў сэрцы будзіў,
Гора у сталь загартоўвала волю,
Я не згіналася з болю ніколі,
Холад і голад мне кроў не студзіў.
Вось аглядаю мной пройдзены шлях,
Ёсць там замінкі — душы недаробы,
А баязліўства не бачу хваробы,
Не, не пужаў мяне страшнага страх.
Дзякую шчыра я долі сваёй,
Шчодрай была і на боль і на мукі —
Загартавала так душу і рукі,
Што смела ў вочы глядзела я ёй.

*1967*

* * *

Ты, пэўна, цяпер і не ўспомніш ніколі —
Занадта даўно усё гэта было.
Жыццё так сплятала ў клубок нашу долю,
Яе раздзяліць што на свеце магло?
Мы разам былі ў жаданнях і марах,
У працы, у думах, у шчырай любві...

Нам людзі казалі: «Дабраная пара!»
Казаў ты: «Жар-птушку сваю я злавіў!..»
Жар-птушка... Жар-птушка... А дзе ж твае крылы?
Дзе твой палымяны, агнёвы задор?
З другою даўно ўжо гняздо звіў твой мілы,
Дзе ў Свіслач глядзіцца блакітны прастор...
І ты... Ты з другім... Ў камяніцы высокай,
У светлай, у роднай, любімай Маскве...
Глядзіць тваё сонца праз проразі вокан,
І — часам ўзнікае дума ў галаве.
Чаму так бывае? З'яднала нас доля,
А потым бяздумна навек разняла...
А сёння — ты мо і не ўспомніш ніколі,
Што я тваёй, мілы, жар-птушкай была.

*1967*

* * *

Так бывае, хоць, бадай, не часта:
Глянеш навакола светлым зрокам,
І ў вачах устане гай купчасты,
Быццам ён тут, побач, недалёка,
І пагорак ўзнімецца зялёны,
І дарога ўзгорак той прарэжа...
Быццам след жывы, не запылёны,
На дарозе бачыш — новы, свежы,
І табе да болю трэба ведаць,
Хто ішоў, куды, з якім настроем...
Чым звязаў той след цябе з сабою?
Што чытаеш ты па тому следу?
Што шукаеш? І чаго ты хочаш?
Думка быццам апаляе вочы,
Быццам жарам налівае грудзі...
Побач мы жывём. Жывыя людзі.
А як мала дадзена нам ведаць
Аб усіх — за кім ідзём па следу...

*1967*

* * *

Я рада, што бачыла гэткіх, як ты,
Праўдзівых, адважных, прыветных і чыстых,
З душой — як вада у крыніцы празрыстай,
І з думкай — як сонца, такой яснаты.
Я рада, што побач жыла пры табе,
Што дружбы сардэчнай цяпло адчувала,
Што сэрцам адданым табе давярала
Усё — што найлепшым лічыла ў сабе.
Калі ж і памылку зрабіла калі,
І гэта будзіла у сэрцы трывогу,
К табе я спяшыла з пякучай знямогай,
І ты мае сцежкі парадай святліў.
Усё і без слоў ты ўмеў зразумець,
І мне было лёгка з табой і спакойна,
Хацелася дружбы тваёй быць дастойнай.
І сэрца навекі ў цяпле яе грэць.
Не страшна было у жыцці мне нічога,
Твой локаць быў побач... Стамлёную скронь
К грудзям прыхіну і — лагодна далонь
Прытуліць мяне — і сціхае трывога,
І зноў я спакойна жыву і дышу
Спагадай, любоўю і шчасцем абнята...
Таму гэтак цяжка адчула я страту...
І верш гэты сэрцам збалелым пішу.

*1967*

## ПАМЯЦЬ

Памяць хавае ў глыбокае скрыні
Думы, і дзеі, і з'явы,
Рупнай скупой дзён былых гаспадыні
Дадзена гэтае права.
Ўсё, што адчуе душа, ўбачаць вочы,
Ўсё, што кране тваё сэрца,
Хочаш таго ты ці, можа, не хочаш,
Ў ёй навякі адаб'ецца.

Часам, у самай няздатнае хвілі,
Бачаць здзіўлёныя людзі,
Як адлятаеш ад іх ты за мілі,
Холад душу тваю студзіць.
Ціхі і сумны, імгненна збляднелы,
Ты апускаешся ў крэсла...
Памяць былога з дзён далі сцямнелай
Раптам жывою ўваскрэсла!
Кажуць: прайшло што — назад не прыходзіць,
Кажуць: памерла, не ўстане...
Памяць! Як горка ты часам падводзіш,
І... Як балюча ты раніш...

*1967*

## НЕ ХАЧУ ЛІЧЫЦЬ СВАІХ ГАДОЎ

Я хачу быць вечна маладой!
Шмат сплыло ў жыцці маім гадоў...
Год за годам... Зноў за годам год,
Быстрыя, як Іслач ў веснаход...
Не хачу лічыць сваіх гадоў
І хачу быць вечна маладой.
Як жа гэта удаецца мне
Пець, як птушка тая па вясне?
Мары, як даўней яшчэ калісь,
Мчаць душу ў завоблачную высь.
Ў сэрцы поўна непазбытых сіл,
Як маланка, ўзмах нястомных крыл.
І, хоць шмат, ой, шмат прайшло гадоў —
Маладосць даўно сплыла з вадой.
Толькі моц мая гаворыць мне:
Расквітай, як кветка па вясне,
Пракладай далей свае сляды
І — вядзі да шчасця маладых!

*1967*

* * *

Лагодны вечар сыпле ў рэчку краскі,
Абняў зарою быструю ваду,—
Вада зару цалуе на хаду —
І ўдаль бяжыць, ружовая ад ласкі.
Халодны ветрык патыхнуў [redacted] гары,
Ты атуліў мне цёплай хусткай плечы...
І я шчаслівa... Мой сцямнелы вечар
Любоўю ты і ласкай азарыў.

*1968*

* * *

Не давай разгону думкам сумным
І не вер, што гора непазбыўна.
Час — ён лекар добры і разумны,
Калі ён таймуе боль — не крыўдна.
Калі ён лагодна цішыць буру,
Каб з-за хмар бліснула сонца шчасця,
Не кляні злавесную віхуру,
Пыл згрызот хай росквіт дня не засціць.
Не згінайся пад цяжарам гора,
Усё сыходзіць, што было пражыта...
Сонца ўзыдзе! Ўзыдзе сонца скора!
Свет зазззяе, промнямі абліты.
Ты аддайся светлай гэтай хвалі,
І душа нальецца сокам веснім,
Гора сэрца моцнага не спаліць,
Пабаліць — і зноў к жыццю ўваскрэсне.

*1968*

* * *

Радасць ты мая! Мой лог барвісты...
Маё юнацтва, ты прыйдзі здалёку,
Глянь мне ў вочы зрокам сваім чыстым,
Дай адбіцца ў дзён маіх вытоку.
А яны святлей тады свяцілі,
Хоць не раз задымлівала гора
Мае юныя, жывыя хвілі —
І сплываў той дым не вельмі скора...
Выкупацца сэрцам ў сонца бляску!
Ў юных марах сэрцам абагрэцца...
Паглядзець на свет з былою ласкай —
І душа ад шчасця засмяецца...
Лёгкімі нагамі смела крочыць
Да апошняй маёй хвілі донца,
Нават думкай — ні на крок не збочыць
Са шляху, якім ідзём да сонца.

*1968*

* * *

На юбілей мой не марнуйце сілы.
Ну, семдзесят — і я не памярла...
А ўсё-ткі старасць ўладаю нямілай
Мяне ў палон бяссілля узяла!
І косці тужаць у нудзе балючай,
Не гібкім стаў і не упругім крок.
А думкі горкія скрабуць і мучаць
Душу... Мутнее і слязіцца зрок.
Сябры! Тут радасць і не начавала,
Нашто ж нам урачыстасці спраўляць?
Калі душа жывая прагучала
У песнях — трэба іх смялей спяваць!
А славіць тое, што я пастарэла —
Што абнядужала? Аж крыўдна мне!
Забудзьце проста хоць навек мяне,—
А слаўце — калі варта — маё дзела!

Зялёну вуліцу яму ў народ!
Хай не марнее ў пыльных шафах годы.
Крылатым песням — звонкую свабоду.
З машын друкарскіх — ў радасны палёт!
Хай над Радзімай яны звонка кружаць,
Хвалююць сэрцы сталых, маладых,
З народам родным светлай дружбай дружаць...
А мне не трэба звонкай славы іх!
Не для сябе іх я ў цішы тварыла.
Чаму ж яны мадзеюць столькі год?
Хай усміхнены іх спявае рот,
Хай яны будзяць радасць, ўздым і сілу!

*1968*

* * *

Я гарнуся да вас, усёй душой адзінокай гарнуся.
Мае брацця, сябры,— усе паэты маёй Беларусі,
Кожным словам сваім, кожнай думкай жывой вы гатовы
Падзяліцца з зямлёй, існавання што стала асновай.
Вось яна, Беларусь!
Шыр палёў неаглядным прасторам
Разляглася наўкол у аправе зялёнага бору...
У садках, пры гаях — быццам гнёзды, утульныя хаты,
І народ! Наш народ — працавіты, душою багаты.
Колькі новага тут — як узнята Радзіма высока,
Гарады паднялі дахі светлых палацаў навокал,
І ніхто мар людскіх, іх імкненняў гарачых не студзіць,
Як умеюць любіць родны край беларускія людзі!
Як умеюць яны творчасць думак і волі і ведаў
Так узняць, каб міналі зямлю іх усякія беды,
Як умеюць дружыць, як гасцей тут прымаюць сардэчна,
І як рады яны ўсім праявам сяброўства сустрэчным.
Трэба мір нам, сябры! Мір нам вечны і згода —
так трэба,
Як галоднаму кус духавітага, чорнага хлеба.
Мы так будзем расці у падзеях сваіх небывалых,
Каб Радзіма у нас і красой і багаццем зазззяла,

Як не ззяла яшчэ ні адна старана на ўсім свеце,
Каб смяяліся ў нас смехам шчасця вясёлыя дзеці,
Каб так моладзь цвіла — у рабоце, у творчасці, ў сіле —
Каб аб славе яе ветры песні па свеце насілі.
Бачу росквіт такі — зрокам вопыту, зрокам прарочым,
Дух займае ад шчасця — так смела наперад мы крочым!..
І я з вамі! Я побач — сябры мае, брацця-паэты, —
Хачу спець маю песню — каб не змерла ў грудзях
недапетай.

*1968*

* * *

Як сокал, думка рвецца ў палёт...
А ці не час мне выйсці на спачынак?
Мінуўся мне сямідзесяты год,
Снег ацярушыў густа скроні сына...
А думка ўсё ірвецца у палёт.
На горных схілах касцянее лёд,
А прыйдзе час — ў дол рынецца лавінай...
Размераны, нястрымны часу ход.
А я так шмат яшчэ зрабіць павінна!
Пасеў быў шчырым. Спее умалот.
Зрабіла, знаю, меней, чым магла.
На болей, людзі, не хапіла сілы...
Мой конь не раз збіваў мяне з сядла,
Я сэрца моцна аб каменні біла...
Таму зрабіла меней, чым магла.
Ў мяне ужо кароткая дарога,
Хоць думка сокалам ірвецца ўвысь,
Прашу, мяне вы не судзіце строга,
Арліцаю і я была калісь —
Ды гора з'ела сіл маіх замнога.

*1969*

* * *

Як кубак поўны светлага віна,
П'ю дні мае, і вып'ю ўсё да дна.
І ведаю, мне смаку не атруціць
Адстоены на дне асадак муці,
Бо, як крышталь, таму і іскрыцца віно —
Таму, што муць уся апала там на дно.

*1969*

* * *

Навокал быццам просека лясная,
Карчы, завалы і сухія пні.
Іх парасль веснавая аплятае,
Сунічнік паліць белыя агні,
Плывуць над намі — быццам рэчка, дні...
Як шмат любімых паміж нас не стала!
Бядуля, Чорны, Колас і Купала...
І мая Ўладка светлай зоркай ззяла...
Цяпер з іх кожны сніць пра вечнасць сны.
А думкі іх усцяж ідуць з народам,
Гучаць іх песні ў баявых паходах,
Як тыя сосны, што стаяць між пнёў.
Хістае іх увосень вецер дзікі,
А каля ног — ўзнімае густа пікі
Сасняк, што зменай нам, старым, прыйшоў.

*1969*

* * *

Я часта думаю пра вас...
І часам, як абварыць прыскам,
Вы там з Радзімай кожны час,
А я ад вас зусім не блізка.
І так мне хочацца тады
Адчуць, што стуль, з свайго далёка,
Ка мне пракладвае сляды
Душа сяброў нячутным крокам.
Як хочацца, каб вы былі —
Для вас жа тут малая страта —
Там, на маёй, маёй зямлі —
Сястрою кожна, кожны братам...
Хачу, каб помнілі мяне
І хоць бы крышачку любілі.
Няхай цяплом стуль патыхне
Сэрц вашых родных — хоць на хвілю.
І ад таго я ажыву,
І сэрца радасцю заб'ецца,
І словы песні паплывуць
З душы маёй — да вашых сэрцаў.

*1969*

* * *

Не, ты не вечны, чалавек!
І у цябе не многа часу.
Дык думак добрыя запасы
У доўгі не кладзі засек.
Сей добрае! Няхай узыдзе шчыра...
Усё дай людзям, што ты маеш сам!
Бо ўсё, што захаваеш там,
Змарнее, як у сцюжу пырай.

*1970*

* * *

Не верце, любыя, прашу, вы мне не верце,
Калі усмехам я сустрэну жарт калючы.
Ён болем і тугой у сэрцы адгукнецца
І будзе доўга там агнём гарэць і мучыць.
Не верце, любыя, калі прайду спакойна,
Калі пакрыўдзіць хто няшчырасцю і здрадай,
Я навучылася трымаць сябе дастойна,
Не дапускаць душу да горкіх заняпадаў.
Чаму? А мне ў жыцці нярэдка давялося
Глядзець, як мучаць тых, хто аслабее духам,
Хто, калі скрыўджаны і плача і галосіць,
А потым у вачах яго цямнее скруха.
Адна ў мяне была ў горы абарона:
Акамянець. Ні слёз, ні слоў, ні енку.
Так йшла я праз жыццё і так дайду да скону —
Душа баліць не раз — і ўсё ж сухая зрэнка...

*1971*

* * *

О, Радзіма мая, ты пачуеш мяне,
Мусіць, толькі тады, як я вочы заплюшчу...
Будуць вершы мае і гучаць і звінець,
Уліваццa у шум Белавежскае пушчы.
Бліснуць словы маланкай скрозь поцемкі хмар,
Імглу ліпкую іх сваім жарам прарэжуць,
Загарацца яны ўсе вясёлкамі мар —
І на сэрцы пральюцца, як дождж той свежы.

*1971*

* * *

Маўклівай быць я не умею, не магу,
Паветра ўсё наўкола песняй дыша,
Яе матывы сэрца мне калышуць,
Як ветрык майскі травы на лугу.
Прыходзяць словы, ладзяцца у гукі,
Звіняць, як птушкі ранняю вясной,
Запісваць іх не паспяваюць рукі,
Так многа іх сягоння тут са мной.
Яны — як хвалі, што ідуць на бераг
І б'юцца ў грудзі нерухомых скал,
Каб мёртвы груз нізрынуўся ў абвал,
Каб адчыніць жыццю шырока дзверы.
Гудзі, душа, гудзі, як бура ў моры,
Пабудкай светлай радасці гудзі,
І грому гулам калышы прасторы,
І слоў гарачых не студзі!

*1971*

* * *

Я музыку слухаць заўсёды гатова,
Душой аддавацца ёй рада,
Яна, нібы сябра нязменны без слова,
Атуліць, сагрэе спагадай.
Натхненнем душу налівае, узносіць
Ад будняў жыццёвых да шчасця,
Забыцца пра цяжкае, горкае просіць,
І сонца ніштo ўжо не засціць...
Вялікай душы чалавечая сіла
Ўлілася ў натхнёныя гукі...
Калі я душою ў жыцці не астыла,
Ў бядзе не знясіліла рукі —
Ішла песня з музыкай побач нязменна,
Пры мне, як мая абарона,
І сонца ізноў мне свяціла праменна,
Радзіўшыся ў гуках натхнёных.

*1971*

* * *

А старасці няма! Ты ёй не вер,
Калі ў грудзях жывое сэрца б'ецца,
Калі з грудзей свабодна песня льецца,
Сум мой знікае, як драпежны звер,
І неба, і блакіт вачэй смяецца,—
Ты старасці
не вер!

Ты вер,
ты вер, што старасці няма,
Здзірае восень ліст пажухлы з клёна,
Ля сонца сталі шэрых хмар заслоны,
Ідзе за імі лютая зіма,
З бязмежнай даўжынёй начэй
сцюдзёных...
А ты!..
Ты вер, што старасці няма...
А толькі знай:
за той зімой імглістай
Зноў прыйдзе май
у кропельках іскрыстых.
Аб ім ты думай!
Ты яго чакай!
Зноў прыйдзе май!

*1972*

* * *

*Барысу Ермакову*

Дзякуй табе, што ты жывеш на свеце.
Я пры табе — ніколі не адна...
Як сонейка, ты грэеш, ты і свеціш.
І — тут ні бур, ні снежнае замеці,
Ні наледзі на шклістасці акна —
Дзякуй табе, што ты жывеш на свеце!

Дзякуй табе, што ты жывеш на свеце...
Хоць працаваць з цямна і да цямна
Умела я...
Ды сумна ноч сустрэціць,
Калі цябе зрок цёплы не прывеціць,
Калі заўсёды, ўсюды ты — адна.
Дзякуй табе, што ты жывеш на свеце!

*1973*

* * *

Не судзі мяне строга! Не трэба
Быць занадта суровым да гора.
Не забыла я смак таго хлеба,
Што з маўкліваю ела пакорай.
Не дарма ён даваўся за працу,
За мазоль мой падчас — непасільны,
Калі доля змушала баяцца
Рук халодных, вачэй непрыхільных.
Працавала. Ўсе сілы і думы
Я тапіла ў цяжкай рабоце,
Каб не бачыць пагарды і глуму,
У бяспраўнай не тлець адзіноце.

Калі сёння скажу я, што горка,
Мяне не судзі ты за гэта!
Балючай і сумнай гаворкай
Лью горыч з душы абагрэтай.
Каб доўгія годы маўчання,
Што каменем палі на грудзі,
Прайшлі ў слоў адкрытых гучанні,
Як сходзіць адлігаю студзень...

*1973*



## ПА ТРАСКІХ ГАЦЯХ

Костачка сягоння ўстала рана,
Калі водар з лесу плыў духмяны
І чуць узышло над лесам сонца
На ружовай, пухкае пялёнцы...
А праменны зайчык ўжо на ложку,
Скокнуўшы, заласкатаў ён ножку.
Пазяхнула дзеўчынка спрасонку:
— Ты чаго ласкочаш мяне, сонка?..
Дома пуста. З лапкаю паднятай
Кот ганяе мячык сярод хаты,
Певень хутка шугануў за дзверы,—
Нездаволен нешта пецька шэры,
Ўзняў высока грэбень свой чырвоны,
Ко-ко-ко... крычыць сярдзітым тонам.
Костачка спусціла к долу ножкі
І саскочыла ціхутка з ложка.
Нацягнула на сябе сукенку —
Ззяў сіняк над праваю каленкай,
Гэта ўчора, ўпаўшы на палена,
Збіла Костачка сабе калена.
На двары было таксама пуста.
Толькі парсючок, маленькі, тлусты,
Рохкаў ля сцяны ў салодкай стоме,
Ды грабліся куры у саломе.
За дваром адхон жаўцеў пясчаны,
Склеп у ім. Са склепа кожны ранак
Маці несла буракі, капусту,
Бульбу, моркву... Жвір з лагодным хрустам
Сыпаўся на Костачкіны ножкі
З рыхлае, пясчанае дарожкі.
А за ўзгоркам бор стаяў сасновы,
Меднастволы, зеленагаловы,
І па насыпе ішла дарога.
Дрэвы выраслі на адлогах,
Дуб, арэшнік, вербы і рабіны,
А над імі — соснаў верхавіны.

Йшла дзяўчынка сцежкаю. А дрэвы
Нахіляліся над ёй са спевам,
З нейкім сумным і таемным шумам,
Быццам бор стары аб чымсьці думаў
І шумеў ў задуме звольна, ціха...
Ці мо спаў — і ў сне вось гэтак дыхаў...
Злева, ўнізе,— мох, кусты, балота,
Журавіннік, пікі ачарота,
Мухамораў — нібы хто натыкаў...
Камароў і мошак там — без ліку,
Над дарогаю таўкуцца слупам,
Быццам хто праз сіта сее крупы.
У вадзе расселася асока.
А над ёй лазіннік. Далей, збоку,
Жоўтым вогнікам скрозь мхі імжыцца
Пышная купава, чамярыца,
Воўчы бэз, чарнічнік жаўтаваты
Паміж елак сініх і кашлатых.
А направа над дарогай — сосны...
Зрокам не дастаць карон выносных,
Ствол мядзяны, чуць хістаюць станам
Ў зелень кучаравую прыбраны
І гудзяць — як гуслі-самагуды,
Урачыстым, лётным, спеўным гудам.
Ў лесе шумна. Птушкі — ранку рады —
Сыплюць шчэбет, звонкія рулады,
А туман яшчэ вісіць на дрэвах,
Нібы спіць пад звонкі посвіст спеву,
Апавіўшы шызай дымкай веццi,
Быццам ноч яшчэ стаіць на свеце.
Збоку выглянуў жаўтавы промень,
Ён праслізнуўся жывы, рухомы,
І рассыпаўся ў дрыжачых росах,
На арэшын буйналістых косах,
На лазінніка зялёнай грыве
І расцвіў праменіста і жыва.
Костачка стаяла на дарозе
У нямой, зачараванай позе,
Не магла дзяўчынка зварухнуцца:
Промні шчодра сыплюцца і льюцца,
Расквітаюць палка на галінках...
У ажурнай фэразі рабіна
Раскідала маладыя вецці
І таксама пацеркамі свеціць.

*

Уражанні дзяцінства! З поўнай сілай
Вы ў душы жывеце да магілы.
Раз адбіўшыся ў душы дзіцячай,
Будзеце усё жыццё маячыць
Ў памяці адбітна і яскрава,
І не мае час над вамі права.
Пройдзе век. У старасці глыбокай
Слых ступее, мгла засцеле вока,
Памяць — як трава на сонцы звяне,
Што было учора ў ёй, не ўстане,
А дзяцінства ўражанні там жыва
Ўсе свае хаваюць пералівы.
Ты кранi, і выйдуць на сустрэчу
Успаміны з галавы старэчай,
І язык, пад дахам тых уражань,
Аб стагодняй былі ўсё расскажа,
Ўсё прыпомніць, да здзябла малога:
Ўсё жыве у галаве старога.
Так і ранак краскамі багаты
У душы дзіцячай, чулай, ўзнятай,
Вобразам праменістым адбіўся:
Ўсё жыццё у снах ён потым сніўся
І малой і сталай ўжо Кастусі
Уяўленнем роднай Беларусі.

*

Ў Костачкі браты былі і сёстры:
Эдзік — хлопчык смелы, бойкі, гостры.
Ён чытаць любіў. Чытаў запоем.
Ўсюды кніжкі ён насіў з сабою.
За сталом — не браў у рукі лыжкі,
Покуль не было пад носам кніжкі
Ці хаця б абрывачка газеты.
Маці лаяла яго за гэта.
Віця быў найменшы. Яснавокі,
Ў кудзерках льняных над лбом высокім,
Мяккі, ціхі, добры і лагодны
І ва ўсім з старэйшым братам згодны,
Бо любіў яго ўсім сэрцам шчырым
І лічыў за бацьку-камандзіра.
Сястра Стася — ўсім была, як маці,

Бо [redacted] дзяцей старэйшая у хаце,
Рухамі павольная, спакойна
Малышовы замірала войны,
Ўсіх іх песціла, часала, мыла,
Вінаватых — ласкава карыла,
Хоць была старэйшай ненамнога —
Выпаўняла ролю педагога.
І яшчэ была дзяўчынка — Інка,
Каравокай, смуглаю грузінкай
Вырастала дзеўча ў роднай хаце
Ад бялявае літоўкі маці.
Бацька — быў аб'ездчыкам у графа.
Ля стала ў яго стаяла шафа,
Ў ёй два клеймы, нейкіх тры пячаці,
Пухлы і таўсты скорасшывацель,
Шмат квітанцый, шмат канторскіх кніжак,
Паміж шафай і сцяною — лыжы,
А над ложкам дубальтоўка звісла,
Патранташ ніжэй — ў парадку сцїслым,
Там прылады ўсе для палявання,
Цікавей за ўсё, да аглядання.
Бацька не любіў хадзіць да пана
З штучнай, прымусоваю пашанай,
Не умеў ён карк згінаць, як трэба,
Перад панам за кавалак хлеба,
Што атрымліваў за сваю працу.
Калі ж змушан быў к яму з'яўляцца,
Не любіў стаяць там ля парога.
Не цягаў з парубак ён нікога,
Ні з грыбоў, ні з ягад. Дык не ў пана —
А ў сялян ён цешыўся пашанай.
Быў ён ростам — як той дуб, высокі,
Белазубы, смуглы, каравокі,
Гаспадарны дома і вясёлы,
Музыку любіў і песні. Ў кола
Сабіраў дзяцей усіх штовечар,
Каля кафельнай зімою печы,
Летам — каля ліпы у гародзе,
І сам першы песню ім заводзіў.
Хор звінеў. А голас лёгкі Стасі
З таго хору дзіўна выдзяляўся,
Чысты, звонкі, свежы і высокі,
Ён шугаў над песняй і глыбока
Хваляваў пачуццяў палкіх сілай,

Што душа яе у гук бруіла.
Бацька быў сталяр. Дык хор дзяціны
Шоў з аркестрам. Сам ён мандаліны,
Балалайкі звонкія, гітары
Майстраваў цудоўныя, як мары,
І вучыў іграць. Найпершай — Стасю:
Ёй гітара дзіўна надалася,
А за ёй ўзяла і мандаліну
Ў свае рукі здольная дзяўчына,
І на балалайцы потым міла
Ўсіх дзяцей яна іграць вучыла.
Эдзік ўжо іграў на мандаліне,
Балалайка заспявала ў Іны,
Костачка не йграла і не пела,
У кутку, маленькая, сядзела,
Толькі вочкі у яе палалі,
Як другія пелі і ігралі.
Костачка дзічком расла у хаце,
Мо занадта строгай была маці,
А дзяўчынка кволай і ўражлівай
І да сэрца ўсё прымала жыва.
Ёй усіх чамусьці было шкода,
Хвалявала сэрца ёй прырода,
Пойдзе ў лес, бывала, ці у поле,
І нічога ёй не трэба болей.
І глядзіць і слухае, знямеўшы,
Дробным тварам неяк пабялеўшы,
Бору шум ці збожжа гоман спелы,
Быццам сказ аб дзеях слаўных, смелых,
Аб радзімай, любае краіне,
І цікава гэта ўсё дзяўчыне.
К рэчцы прыйдзе і глядзіць на воды,
Думкі йдуць за хваль празрыстых ходам,
Ў шуме хваль нясецца спеў чароўны,
Поўны суму, летуценняў поўны.
Загудзіць зімою завіруха —
І яе яна павінна слухаць,
Вецер за акном жалобна вые,
Ёй хвалююць сэрца гукі тыя
Нейкім болем, поўным асалоды:
Моц гучыць у голасе прыроды.
І чытаць яшчэ яна любіла,
Пушкін ёй, Міцкевіч былі мілы,
Канапніцкай шчырыя матывы

Хвалявалі сэрца яе жыва
І будзілі сквапную спагаду
Да людзей, гарачым спеўным ладам.
Бацька даставаў газеты, кніжкі,
Хоць не меў ніколі грошай лішку,
Падпісаўся ён якраз на «Ніву» —
Тоўсты быў часопіс. І шчаслівы
Былі дзеці, рад быў з імі татка,
З тым журналам шмат ішло дадаткаў
Кніг усякіх, што патрэбны дзецям,
Бо ж цягнуліся усе к асвеце.
Бацька сам, бывала, сціснe рукі:
— Удаліся дзеці да навукі,
А вучыць іх — не хапае сродкаў...
Не куру я, не глушу я водку,
Ўсё жыццё працую шчыра, дбала,
Ну ■ грошай не хапае стала.
Ды і скуль тут быць той добрай долі,
Дзесяціны тры зямлі, не болей,
За гумном ляжаць маленькім клінам:
Бульба там, пшаніца, канюшына,
Ярына, яшчэ палоска жыта —
Ўсё збяры і ўсё ж не будзеш сыты —
Бо ж сям'я! А за работу плата
Гэты клін пад лесам, ну і хата,
Ды грашмі дадатак невялікі.
Поле часта набягаюць дзікі,
Таму ноччу пілнавацца трэба,
Бо зусім астанешся без хлеба.
Дзеці часта там кастры палілі
Звечара. І іскры ў неба плылі,
Дым клубіўся чорны, кудраваты,
Полымя лізала сук кашлаты
І хісталася змяіным згібам
Ля карча, як вогненнага грыба.
Капала смала з гарачым шыпам,
Быццам хто чырвонцы ў попел сыпаў.
Дзік баяўся выпаўзаць на ніву,
Калі трос агонь чырвонай грывай.

*

Дзетвара расла сабе памалу,
А з ёй побач гора падрастала:

Дзеці — то не лес, што ўгору пнецца,
Трэба ўсім абуцца і адзецца,
Трэба ж і вучыцца. Ўжо у школу
Трое бегаюць аж у пасёлак.
А у хаце двое: Віця, Іна,
Маці іх вучыць была павінна,
Бо гарнуліся да кніг таксама:
Пакажы буквар... Вучы нас, мама...
Маці ўладная. Суровай складкі,
Рост малы, а твар бялявы, гладкі,
Гаспадыняю была адменнай
І з бядой спраўлялася нядрэнна:
Пяць дзяцей расло у яе хаце,
Гаспадарка ўся была у маці:
Парсючок, і куры, і карова,
Хоць была і моцнай і здаровай,
Трудна ёй было. Не раз бывала —
І дзяцей і долю праклінала.
Яна моцна верыла у Бога,
Дом, дзяцей трымала жорстка, строга,
Працаваць вучыла і маліцца,
Пець літаніі па той кантычцы,
Дзе такія Богу йшлі пахвалы,
Ад якіх стары дурэў памалу...
(Гэтак бацька гаварыў са смехам,
Не баяўся ён за жарт той грэху.)
Маці лаяла яго за гэта:
— Бог зжыве, зжыве цябе са свету,
Бо не толькі сам жывеш без Бога —
Дзецям засціў да яго дарогу...
Бацька на той крык яе смяяўся:
— І нашто табе той Бог твой здаўся?
Там яму ужо на небе млосна
Ад кантычак ад тваіх жалосных.
Падхалімства, гэта ж горш ад глуму,
Калі ён разумны. Ты ж падумай,
Пачалі б мяне хваліць, як Бога,
Не сцярпеў бы здзеку я такога!
Ў падхалімстве праўда не днявала,
А нашто яму твая пахвала?
Дапамогі просіш — то ж дарэмна,
Да падмогі ён, відаць, не кемны,
Не памог табе ні ў чым, ніколі,
І прасіць яго не трэба болей.

Так і кідала дзяцей: то к Богу,
То да кніг, да спеву маладога,
Да аркестра бацькаўскага ўвечар,
Маці уздыхала каля печы,
Потым і сама к ім прыставала
І кантральта нізкім падпявала.
У далёкім Панямунку, ў вёсцы,
Вырасла яна і на палосцы
Бедака Бусілы жала жыта.
А спяваць умела знакаміта!
І таму спявала у касцёле
Ў хоры, пры аргане штонядзелю.
Ксёндз заняўся здольнаю дзяўчынай,
Пад апеку ўласнай гаспадыні
Здаў яе. Бо голас гэткі мела,
Што аб ім ўжо слава загудзела:
— Бусілоўна! Талент! Дар багаты!
Слухаць яе йшлі усе штосвята,
Бо плыў голас, злучаны з арганам,
Нібы срэбны звон раскалыханы.
Вось адтуль была ў яе і вера,
Расчыніў касцёл дзяўчыне дзверы,
Ксёндз гардзіўся звонкай яе славай.
Толькі бацька, стройны, кучаравы,
Падвярнуўся і павёў к алтару —
Гонар вёскі ўзяўшы сабе ў пару.
Бацька быў бунтар. Не зносіў ўлады
Царскай, панскай, боскай... Да упаду
Спорыць мог, што, каб народ падняўся,
Ад улад тых толькі б пыл астаўся,
І не мог ён зразумець, навошта
Жывіць люд брыду сіл творчых коштам.
Як вясна ламае лёду крыгі —
Сон народны хвалявалі кнігі
Аб грымотным рэвалюцый гудзе,
У якім здабудуць волю людзі.
Бацька ледаход той шчасны славіў,
Костачку на стол пры лямпе ставіў.
А яна чытала з палкім ўздымам,
Што свабода ўспыхне над Радзімай,
Як зара цудоўная на ўсходзе,
Калі воля займецца ў народзе.
Маці толькі грудзі перахрысціць:
— Што ты толькі робіш, антыхрысце!

Да чаго дзяцей сваіх даводзіш?
Веру ўжо украў у іх, як злодзей,
А цяпер бухторыш проці ўлады?
Як мірыцца мне з табою, гадам?

А да бацькі ўдзень, і нават ноччу,
Шоў народ сялянскі і рабочы
За жывым і друкаваным словам,
Дух будзіў ў людзей іх лёс суровы,
Дык шукалі іншай долі весняй
Ў шчырым слове, у агністай песні,
У жывой спагадзе чалавечай,
Што гасіла смагу і пустэчу.
Можа, пушча гоман той скрывала,
Можа, здрада там не начавала,
Толькі бацька, ўвесь як звон свабоды,
Шырыў працу, не праз дні — праз годы.
Ён казаў: народ пазбудзе гора,
У свабоды ясныя прасторы
Ўвойдзе ён. Ў яго не будзе пана,
І цару не будзе ён паддданы,
І ні ксёндз, ні поп, ні прыстаў люты
Ліць не будуць ў мозг яго атруты.
Нібы сонца бліснe бляск свабоды
Над гаротнай доляю народа.
Да лясніачага дайшло, што ў лесе
Часам чутны гукі вольных песень,
Што на сходках дух там вельмі вольны,
Што чытаюць кніжкі там супольна,
Што аб'ездчык — бунтаўшчык.
Ну, словам,
У лясніачага ўжо план гатовы,
Трэба неспакойнага пазбыцца:
Выклікаюць бацьку у лясніцтва...

*

Шмат, ой, шмат бясхлебнікаў ты знала,
Любая Радзіма! Іх нямала
Блукала па траскіх тваіх гацях...
Дзве фурманкі, вось і ўсё багацце,
Бурая карова каля возу,
І сям'я уся ідзе абозам.
Ў Сугвазды з пагоркамі і глінай
Лёс сям'ю аб'ездчыка закінуў.

Вёскі, вёскі... Вузкія палеткі,
Могілкі, жыцця былога сведкі,
Ржа паела на крыжах жалеза,
Між крыжоў — кусты крывыя бэзу,
Белы пыл узносіцца за возам,
У гаях плакучыя бярозы,
Вось і дом. Малы садок за хатай,
Паміж яблынь, сліў і груш кашлатых
Ўстаў маліннік, нібы шчотка, густа,
Град пяток з маркоўкай і капустай,
Апляцёных буйнаю макрыцай,
Лебяда над ёю серабрыцца.
А за домам сажалка у гліне,
Ўся ў зялёнай, дробнай, вязкай ціне,
Карасёў у сажалцы багата,
Аер свеціць шышкаю касматай.
Там канава. Над канавай кладка,
Новы шлях. Усё пачні спачатку...
Новы пан. І новы быт, бяднейшы,
Стаў аклад яшчэ намнога меншы,
Значыць, нэндзе гляне ў вочы зблізка.
А у хаце — новая калыска,
Ўвосень нарадзіла маці Ядзю
Ў новай хаце, пры бязлістым садзе.
Дом пусты, халодны, як стадола.
Была Ядзя, як былінка, квола,
А з Каляд не стала ўжо і хлеба.
Маці больш не турбавала неба,
Не прасіла міласці у Бога,
Не жадала бацьку лёсу злога
За бязбожнасць. Як маглі, абое
Ваявалі з горам і бядою.
Эдзік у Ашмянах быў у школе.
Стася у Валожыне. Тут болей
Зручна, бо бліжэй усё ж дахаты.
Малышовай Костачка важатай
Стала. Іх сама яна вучыла,
Хоць сама у школу йшчэ хадзіла.
Не даваліся задачкі Іне,
Возьмецца рашаць — і тут жа кіне,
А вучыцельніца — бо малая,
Навучыць не ўмее, толькі лае.
Віця да задач быў вельмі здольны,
Толькі вочкі свецяцца свавольна,

Спрытна вывучае ён таблічкі,
Хоць малы, хоць ростам невялічкі·
І гадамі надта йшчэ не сталы —
Да навукі вельмі быў удалы.
Костачцы было нярэдка трудна,
Хоць была дзяўчынка не маруднай,
Памагчы, бывала, трэба маці
Ў гаспадарцы, і прыбраць у хаце,
І вучыць, ды і самой вучыцца,
Пасядзець таксама пры сястрычцы,
І у кніжцы, утапіўшы вока,
Плыць у край якісь другі, далёка...
Аж сварылася нярэдка маці:
— Карасіны шмат ідзе у хаце,
Не палі агня да позняй ночы!
Не сляпі над кніжкай дарма вочы,
Не паненка ты, не у палацы,
Прывучайся змалку лепш да працы.
І нашто ёй кніжная навука?
Не умее ўзяць іголку ў рукі,
Ні зварыць, ні хлеб спячы. Павінна
Прывыкаць да гэтага дзяўчына.
Гувернанткаю табе не стацца,
За касу і серп пара ўжо брацца!
Костачка дзіця сядае гушкаць,
А на ложку кніжка пад падушкай.
Костачка гусей пагнала ў выган,
А пад пахай, як заўсёды, кніга.
Костачка пасе карову ў полі:
Тут святла і часу ўжо даволі!
Маці ёй нясе сняданне ранкам,
То аладкі з ложкай падсмятанку,
То часамі бульбяныя дранкі,
Смажаныя ў здоры, без смятанкі,
То кусочак хлеба з белым салам...
Сонейка над лесам толькі ўстане,
А Красуня языком сцінае
Ўсцяж траву. А Костачка чытае...
Маці скажа: «Еш, мая Кастуся».
Сядуць побач. Ў беленькім абрусе
Хлеб, бліны... Карміць пастушку трэба,
Ёй нясуць кусок найбольшы хлеба,
Бо ж яна устаць павінна рана,
Калі сон салодкі, як мядзвяны,

Клеіць вейкі ў яе, нябогі,
І устаць няма ніякай змогі.
А усё ж ўстае, бо ўстаці трэба.
На дварэ хмурнее змрочна неба,
Халадок бяжыць па сонным целе,
Жаўрукі адны ужо запелі,
Маці йдзе з падойнікам з аборы:
— Выганяй Красуню, дзеткі, скора!
Сонейка узыдзе, пацяплее...
Костачка ідзе, а ногі млеюць,
Не ачнулася яшчэ дзяўчынка:
Вось паспаць яшчэ б хаця хвілінку...
За дарогай цёмны гай дубовы —
Костачка вядзе туды карову,
Срэбная раса ёй студзіць ногі.
Пень шырокі ўстаў каля дарогі,
Навакола бульбяное поле.
Жорсткая трава ёй ногі коле...
Села каля пня, раскрыла кнігу
І, як вязень, скінуўшы вярыгі,
Паплыла ў цудоўным спеўным ладзе,
Нібы пчолка залатая ў садзе
Сярод кветак, дзе, як кроплі мёду,
Ззяюць словы дзіўнай асалодай...
Бацька мякка часам маці кажа:
— І нашто ты дзецям рукі вяжаш?
Хай сабе чытаюць, калі хочуць,
Кніга ім на свет адчыніць вочы.
Кніга — то ж асвета чалавеку,
Цяжка жыць на свеце неумекай.
Год прайшоў.
Памерла раптам Ядзя.
Нібы красачка завяла ў садзе.
Вочкі сінія свае самкнула
І навек, маленькая, заснула.
Першы раз у хаце смерць гасціла,
Першы раз там клалі у магілу
Роднае, сваё і дарагое.
Костачка спазналася з тугою:
Смерць маленькае сястрычкі мілай
Знойкім болем сэрца апаліла.
Таямніца смерці. Ўстаўшы блізка,
У душы адмецілася рыскай...
Колькі потым стала там адмецін!

Колькі гора прыняла на свеце.
Першая найбольш была балючай,
Успамін аб ёй найболей мучыў.
Летам Эдзік, радасны, вясёлы,
На вакацыі прыехаў з школы,
Ехала на лета ў хату Стася.
За сталом уся сям'я сышлася.
Бацька цешыўся з таго бясконца,
Добры твар яго свяціў, як сонца,
Гутаркі вяліся там аб школе,
Працаваць хадзілі ўсе у поле,
Вечарамі зноў спявалі песні.
Водгукі далёка спеў той неслі.
І пад цёмным небам калыхалі...
А над хатай цёпла зоркі ззялі.
Голад, нэндза, вечная нястача,
Лёс цяжкі, затурканы, жабрачы.
Кожны пан, хто толькі сілу мае,
Над табой што хоча вырабляе,
І усё ж сплывае хмара гора
Пад любоўны рокат разгавора.
Так і бацька. Ён з дзяцьмі шчаслівы,
Ён вясёлы, смешна-жартаўлівы,
І за стол са смехам дружна сядуць:
У мундзірах бульба — на парадзе,
Агуркі салёныя з кадушкі,
Дранікі — як пухлыя падушкі,
Падсмятанак к ім, гэта мяшанка
Малака пракісшага з смятанкай.
Стол не пышны. Весялосці ж колькі!
Бульбіну разрэзаўшы на долькі,
Рэжаш агурок, слязісты, гостры,
Пах карэнняў аж свідруе ноздры,
Еш яго, халодны, слізкі, сочны.
На стале красуюцца два кочны
Кіслае капусты — жоўтай, смачнай,
Ліст празрысты, сокамі прасячан,
Еш, і хочацца бясконца есці,
Толькі больш жывот ужо не месціць.
Костачка закончыла ўжо школу
Пачатковую. Не мог пасёлак
Даць ёй шыршыя за гэта веды.
А на вёсцы раптам да суседа
Сын, студэнт, прыехаў, рад — не рады,

Выгнан з інстытута царскай ўладай.
Бунтаваць задумаў і за гэта
Пад надзор папаў да бацькі летам.
Быў Вінцэсь разумны і гарачы,
Ўвесь агонь душы сваёй юначай
Ён аддаць хацеў свайму народу,
Барацьбе за шчасце, за свабоду.
Сам прабіўся хлопец да навукі,
Голаў залатую меў і рукі,
Ў вёсцы стаў вучыць дзяцей і сталых
І да бацькі заглядаў, бывала.
Зноў лістоўкі, зноў у лесе сходкі.
Хоць абоіх лёс не быў салодкім:
Сваё шчасце бачачы у гэтым,
Шырылі вакол сябе асвету.
З Костачкай Вінцэсь заняўся зразу.
Маці ўжо не шкадавала газы,
Бо вучыцца прагнула дзяўчына.
Йдзе урок. За крэслам, ззаду, Іна,
Сочыць за сястрой бліскучым вокам,
Не прапусціць ні здзябла з урока.
Каля Іны і маленькі Віця,
Не уступіць ён нікому ў спрыце.
І у лёт ён ловіць мудрасць ведаў.
Юркі хлопчык, мілы непаседа.
Бацька рад. Ён сам, здаецца б, неба
Прыхіліў, каб толькі ведаў хлебам
Накарміць дзяцей. Сам ледзь пісьменны,
Ён прычынай долі сваёй дрэннай
Бачыў, што народа да навукі
Не пускаюць ўлады царскай рукі.
А народ увесь, то ж гэта сіла!
Каб яго навука акрыліла,
Дзе ж тае магчымасці граніца,
Ды чаго змаглі бы мы дабіцца!
А ў царовай ўладзе павучынай
Талент весь народны марна гіне.
Колькі ж геніяў зямля не ўбачыць
Ад таго, што люд сляпец нязрачы,
Што яму навукі сонца скрыта,
Што ён цёмны і навек забіты.

*

Бедны тата! Вось бы ты дажыўся,
Калі гэткі далягляд адкрыўся
Усяму, зямлі тваёй, народу...
Калі сонца узышло свабоды,
Калі служыць нам усім навука,
Даючы народу веды ў рукі.
Вось усцешыўся б ты, бацька мілы,
Ўстаўшы сёння з цёмнае магілы,
Ты бы зліўся з нашым гонкім рухам,
Нашым дням ты быў бы блізкі духам.

*

Дома шмат яшчэ бывала спораў:
— Мы з Кастусяй набярэмся гора,
І нашто навука ёй, дзяўчыне,
Выйдзе замуж, будзе гаспадыняй,
А яна нічога не умее...
Костачка ж, як летні дзень, яснее,
Вучыцца, грызе граніт навукі,
Веды самі йдуць дзяўчыне ў рукі,
І Вінцэсь здаволены надзіва
Вучаніцай здольнай і руплівай.
Ёй адзінаццаць гадоў. Нямала
Яна розных кніжак прачытала,
Пасучы гусей, кароў улетку.
Плакала над кніжкаю нярэдка...
Альбо громка, ўстаўшы ў полі ў позу,
Вершамі здзіўляла вербалозы.
Эдзік з ёю быў надзіва дружны
У занятках з кніжкамі напружных.
Яны разам удваіх чыталі,
Нават маму слухаць прымушалі,
І яна ўжо слухала з ахвотай
Вечарам, закончыўшы работу.
Костачка пісаць пачала вершы.
Ды ніхто не бачыў спроб тых першых,
Бо яна у столік іх хавала
І той стол на ключык замыкала.
Здарыўся у бацькі траф шчаслівы:
Ён натрапіў дзесь на «Нашу ніву»,
Нашу, беларускую газету.
Ён прынёс дамоў, як шчасце, гэта:

— Бачыце, на роднай нашай мове
Вершы і артыкулы, аповесць,
Як гучыць па-роднаму, прыгожа,
Кожны зразумець усё тут можа.
У газеце той быў верш Купалы.
Костачка уголас прачытала,
І такі быў просты ён і блізкі,
Нібы тая песня над калыскай,
Толькі не ўсыпляе, але будзіць
І аб чымсьці новым кажа людзям,
Коласа там вершы гучна плылі,
І яны як бы са сну будзілі —
І вялі кудысьці сцежкай вузкай
Да шырокай долі беларускай.
Першы раз так проста, шчыра, смела
Муза беларуская ім пела
І, крануўшы сэрца нотай шчырай,
Клікала ў нейкісь далёкі вырай
З душнае, гаротнае цямноты
Ў стромкія і трудныя высоты.
Эдзік з Костачкай сядзелі ціха,
З воч луналі жаркія успыхі,
Ім здавалася, лягла ў разлогах
Вольная, шырокая дарога,
А народ ідзе па ёй да мэты —
Родным словам ветла абагрэты...
Костачка ўзяла пяро, і словы
Паліліся самі. Роднай мовы
Хвалявалі сэрца яе гукі.
Першы раз пяро ўзяла у рукі,
Верш той загучаў радзімай мовай,
Цёплым, свойскім беларускім словам,
Эдзік аж падскочыў: «Гэта ж дзіва!
Дай, пашлём яго у «Нашу ніву»!»
— У газету нашай Беларусі?
Не пашлю я, Эдзя, я баюся,
Гэта ж толькі спроба, і не болей,
Не адважуся паслаць ніколі!
— Я пашлю! Я сам пашлю, Кастуся,
Я пад тваім вершам падпішуся,
Сам пашлю яго! — Вось гэтак першы
Ў «Нашу ніву» быў пасланы вершык.
Колькі ж радасці было у хаце
Бацьку, дзецям, нават строгай маці,

Калі з Вільні к ім прыйшла газета,
Дзе быў надрукован вершык гэты.
Костачка ў канец яго зірнула,
Там стаяла коратка: Э. Буйло.
Радасна крычаў, смяяўся Эдзя,
Бегаў ён з газетаю к суседзям:
— Я малы, а стаў ужо паэтам!
Праўда, то не я, то... Костка гэта.

Час ідзе. Растуць памалу дзеці,
А ў бацькоў з вачэй не радасць свеціць,
Бо ўсяго штодзень, то болей трэба:
Кніжак, вопраткі, абувы, хлеба.
Цісnуў пан, бо слух дайшоў да пана,
Што аб'ездчык даў суччо сялянам
Падбіраць у лесе, ў той карысці
Дровы даць людзям і лес ачысціць.
Пану той карысці было мала:
Дроў купіць бы грошай каштавала!
Тут жа вы ім дарма далі дровы!
Хто такую даў вам установу?
Зноў фурманкі. Зноў той скарб жабрацкі
На вазах, па гацях б'ецца траскіх,
Ў Вішнева, на новую пасаду.
Адравонж — у зелені прысадаў
Новы дом, — а ўся бяда старая,
За сям'ёй, як дамавы, блукае.
Новы пан, пыхлівы, хамаваты:
— З хлопэм не бондзь, пан, за панібрата,
Хлоп ест хлоп, а пан ест панскі слуга,
З шляхціцамі то юж справа друга...
А ты стой прад ім і слухай гэта,
Ад распусніка, ад прайдзісвета,
Калі сам ты «хлоп» і за зняваіу
Даць адпор няма ў цябе адвагі,
Бо дзяцей ў цябе паўнютка хата,
Бо ты бедны, ён жа, гад, багаты.
Ты без хаты, ён жа у палацы,
Ты слуга, а ён твой «хлебадаўца».
І прывык той вылюдак адвеку
Хлопа не лічыць за чалавека.
Ў прошлае сышоў год бурны, пяты,
Што затрос пасадам можнай шляхты,
Дык цяпер яна сядзела смела,

Бура больш грымотна не гудзела,
Затаілася яна да часу
У грудзях гаротнай «хлопскай» масы.

*

Вылет маладых з гнязда пачаўся:
Першаю пайшла на службу Стася,
Год пятнаццаць усяго было дзяўчыне,
Калі ў двор ўзялі за ахмістрыню,
Каб хоць крышку дом свой падтрымаці.
Пасмутнела без яе у хаце,
Добрай бо была. Усіх любіла,
Цёплае душы вялікай сілай,
Ўсім была падмогай і апорай,
Даглядала скрыўджаных і хворых,
К ёй усе гарнуліся у хаце,
Ўсім малым яна была за маці.
Колькі раз віну сястры ці брата
Возьме на сябе: «Я вінавата...»
І такую вытрымае буру,
Як лазінка ад ліхой віхуры...
Костачка ішла за Стасяй следам.
Ой, ніхто не чуў, ніхто не ведаў,
Як было дзяўчынцы часам цяжка,
Бацькава старэнькая сярмяжка,
Што за коўдру доўга ёй служыла,
Колькі слёз ты пад сабою скрыла:
І за ўсіх душа яе балела,
Яе бацька, вольны, шчыры, смелы,
А яму і ёй вядомы толькі
Яго горкай паняверкі болькі.
Шкода ёй і строгай, хмурнай маці:
Пяць дзяцей гадуецца у хаце.
Гаспадарка ўся ў яе. Увечар
Ног не чуе, не разгорне плечы.
Дзеці вучацца, дык хто паможа?
Толькі уздыхае: «Божа, Божа...»
Эдзік у далёкае Ашмяне
Між чужых, як ліст сарваны, вяне,
Паўгалодны, хоць і тут не сыта,
Не дагледжаны і не абшыты,
Ў пошуках крыху святлейшай долі
Вучыцца ў чужой, далёкай школе.

У школу бегаюць Віцюша, Іна
З хлеба чорнага сухой скарынкай,
У твар ім глянеш, толькі свецяць вочкі,
Ў Віценькі — бы ў полі васілёчкі,
Нібы вішанькі, у смуглай Інкі:
Шкода брата і сястры-дзяўчынкі.
Пехатой ідуць у муць мяцеліц,
Вецер снег ў вірах шалёных меле,
Набівае рукавы, кішэні,
За каўнер піхае снегу жмені,
Прапаўзаюць цераз гурбы, долы,
Бо ж не блізка, бо далёка школа.
І дзяўчына выхаду не бачыць,
Часта горка і надрыўна плача.
Памагчы нічым яна не можа,
Гора блізкіх сэрца ёй трывожыць
І хвалюе думкай недзіцячай,
А яна маўчыць і толькі плача.
— Бедны ты, ох, бедны, родны тата,
Так і гнуцца век перад багатым,
Так і жыць нявольнікам бяздольным.
А душой ты ж проста сокал вольны!
Як жа цяжка жыць табе, такому,
Без куска зямлі сваёй, без дому,
Прадаваць сябе за хлеб той чорны.

*

Ў Вішнева, ў малы дамок пры садзе,
З Вільні к маці прыязджала Ўладзя.
Рыхтавалася к спатканню маці,
Дым ішоў каромыслам у хаце,
Едзе Ўладзя, донька дарагая,—
З радасці хвалюецца старая,
Костачку па твары дробным гладзіць:
— Ты яшчэ не знаеш маёй Ўладзі!
Яна ў Вільні, вучыць дзетак малых,
Хоць да школьніцы сама падобна.
Маладая, ёй семнаццаць будзе,
А за ўзрослую ўжо лічаць людзі.
Костачка ў дом гэты ходзіць часта,
У садку, пад ліпаю купчастай,
Вучыцца чытаць там па-французску,
Шмат у гэтым доме кніжак рускіх,

Іх таксама Костачка чытае.
Тут яна душой адпачывае,
У Эмілы Юльеўны заўсёды
Слова добрае. І ёй не шкода
Траціць часу на дзіця чужое.
Яна садзіць Костачку з сабою
І урок вядзе штодзень заўзята,
Удзячнасць дзеўчынкі — уся ёй плата.
Бо нічым аддзячыць больш не можа
Костачка! І гэта не трывожыць,
Бо Эмілья Юльеўна прывету
Не шкадуе для дзяўчынкі гэтай.
І калі у час яна не прыйдзе,
На сустрэчу ёй старая выйдзе,
Ёй у той час не сядзіцца дома,
Йдзе паціху сцежачкай знаёмай,
Йдзе і ціха, скрушна уздыхае:
— Дзе ж яна, мая Кастуся тая?
І ў яе быў горкі лёс сірочы:
З Францыі у пошуках работы
Ехала ў наш край к чужым дзяўчына
Боннаю к панам. Была павінна
Быць слугой разбэшчаным панятам.
Цяжка беднаму паміж багатых!
Цяжка зносіць іхнія капрызы,
Цяжка ўладжваць ўсе калізы,
Цяжка так вучыць панят, каб словы
Лезлі самі ў вушы і галовы
Гультаям, як лезе хлеб у зубы.
Пан ліслівы. Пані лае груба.
Ой, цяжкі ў чужыне лёс сірочы,
Колькі слёз было праліта ўночы,
Толькі ноч ды белая падушка,
Дзеўчыны адзіная падружка,
Слухала і плач і скаргі тыя,
Болем, крыўдай, горам налітыя.
Між чужых, яна усім чужая.
Каму скажа? З кім паразмаўляе?
І народ навокал незнаёмы,
Што гаворыць мовай невядомай,
Людзі ўсе, як ледзяныя крыгі,
Гаварыць? А як? Хіба на мігі.
А краса ж яе была надзіва:
Вось таму і быў той пан ліслівы,

Тонкі стан, як яблынькі у цвеце,
Белы тварык, люба паглядзеці,
Чорных кос густых жывая хваля
Ўсю яе да долу закрывала,
Пышныя, курчавыя, густыя,
Аж хісталі ёй цяжарам шыю.
З чорных воч, у доўгіх веек ценю
Ўсцяж плылі лагодныя праменні,
Ад красы тае у поўным цвеце
Аж святлей рабілася на свеце.
Мо таму і сталася, што ўрэшце
На Эмільцю ўздзелі ўбор нявесцін.
Стала жонкаю яна, з ахвотай
Гэткага, як і сама, бядоты,
Што аб'ездчыкам служыў у пана
І ў яе быў моцна закаханы.
Як яны дамовіліся толькі?
Як раскрылі душ сірочых болькі?
Гаварыў жаніх па-беларуску,
А нявеста толькі па-французску,
Толькі стала ўжо усім вядома,
Што жыве Эмільця ў сваім доме,
Любіць муж яе — як сонца росы,
Свеціцца пры ёй, русавалосы,
Ля сваёй прыгожай гаспадыні,
Сваёй жоначкі, сваёй княгіні.
Ў гэтым доме, пры зялёным садзе
Нарадзілася дачушка Ўладзя,
З сінімі, як васількі, вачамі,
З светлымі, як промні, валасамі,
А з крывёй — зусім небаларускай,
І душой гарачаю, французскай.
Падрастала дзеўчынка прыгожай,
Тварыкам малым да маці схожа,
І нікому не удасць у спрыце,
Толькі вочкі — васількі у жыце,
Толькі косы, льноў на сонцы ззянне,
Толькі твар, як неба на світанні.
Вось цяпер яна прыехаць мусіць,
І Эмілья Юльеўна Кастусі
Пра усё пражытае гаворыць.
А ўжо вечар сходзіць на падвор'е
І зара апошнія прамені
Кідае на ліп вяршыні жменяй.

Аж прыцьміліся вяргіні ў садзе,
Калі дзверцы адчыніла Ўладзя,
Белая, як з мармуру, дзяўчына.
Буйных кос курчавая лавіна
Золатам асыпала ёй плечы.
Вочы галубень, гарацъ, як свечы,
Вусны, як чырвоныя каралі,
Так усмешкай мілай і зайгралі,
Расквітнелі полымем ружовым.
Музыкай запелі яе словы.
Костачка замерла ў скромнай позе
Ля шклянога ганка, на парозе.
Смеласці яе як не бывала,
Як сіротка, у цяні стаяла.
Раптам ёй чамусьці так здалося,
Што чужая тут яна. Што досыць
Жыць ёй тут, чужую красці ласку,
Ўладзя вось, як кветка, нібы краска,
Як звярнуцца и ёй, такой прыгожай?
Ці ж дружыць са мной такая зможа?
Маці косы Ўладзі шчасна гладзіць:
— Пазнаёмся з Костачкай, Уладзя,
Вучаніцаю маёй руплівай...
Ўладзя глянула зусім зычліва,
Падала руку з прыветнай ласкай,
Костачцы усё здаецца казкай.
Ёй святлей зрабілася у садзе
Ад прыязнае усмешкі Ўладзі,
І яна ўжо болей не дзічыцца,
Сэрца яе ў словы хоча ўліцца,
Словы цёплай, шчырае падзякі
За дабро, за ласку...
Ночы знакі,
Зоры густа зацвілі у небе,
Костачцы малой дамоў йсці трэба,
Яна ж сэрцам прырасла да Ўладзі,
Што лагодна плечы яе гладзіць.
Ў яе косы залатой каронай,
Погляд нейкай думкай праяснёны,
І стаіць — спакойная, як ціша,
Толькі вольна і глыбока дыша.
Ой, прыгожая, як мальва ў садзе,
У той час была дзяўчына Ўладзя.
Праз красу квітнеючага цела

Светлая душа яе глядзела
Зрокам, поўным ззяння і задумы.
Гэтак рэчка ў сонцы льецца з шумам,
Гэтак бор, абліты дзіўным ззяннем,
Дыша пахам свежым на світанні.
Ў Костачкі чамусь замерла сэрца,
Быццам будучнасць раскрыла дзверцы
І прадбачаннем дыхнула ў грудзі:
Другам верным табе Ўладзя будзе.
І тады, калі у цяжкім горы,
Ляжа на цябе навалы змора,
І тады, калі асудзяць людзі,
Моцнаю апорай яна будзе.
І тады, калі дарогу страціш,
Калі бура паламае гаці,
Вывядзе цябе на шлях, да мэты,
Вернай, чыстай дружбы промень гэты.
Калі згубіш веру, згубіш сілу,
Калі шчасцем здасца мрок магілы —
Дружба гэта непахісным ззяннем
У сцямнелы зрок твой ясна гляне.
Калі мрок густы счарнелай ночы
Аж да дна налье цямнотай вочы
І знямее дух ад цяжкай мукі,
Яна з цемры выведзе за рукі,
Шлях пакажа...
Костачцы здалося,
Што ўсё гэта ў сэрца ёй лілося.

*

А жыццё за горла брала дома.
Ні адной сцяжыначкі відомай,
Як пазбыцца тых умоў драпежных?
Як устаць на ногі незалежна?
Бо ўжо лепей легчы ў дамавіну,
Чым глядзець, як бацька ломіць спіну,
Чуць, як долю праклінае маці,
Калі хлеба не хапае ў хаце.
Не стае абутку і адзежы,
Жаласць сэрца, як нажамі, рэжа,
І кусок не йдзе табе у горла,
Толькі охнеш: «Лепш бы я памёрла!»
У гэты час, цяжкі ён быў бясконца,

Ўладзя душу асвяціла сонцам:
— Едзем ў Вільню! Слухай маёй рады,
Там напэўна знойдзецца пасада,
Працаваць там будзеш і вучыцца,
Рыбінай аб лёд дакуль тут біцца?
Едзем да мяне! Не маю лішку,
Пажывеш, аднак, да працы крышку,
Там, глядзіш, і ўзнімешся на ногі.
Кожны варт ў жыцці свае дарогі!
Вільня, Вільня, горад Гедыміна,
Шлях жыццёвы пачала дзяўчына,
Зтуль у свет вялікі, свет шырокі...
Ты й сягоння устаеш у воку
Шпілямі сваіх высокіх вежаў,
Чую бэзу пах цудоўны, свежы
Ў тваіх парках, у садках пры хатах.
Чую шум твой радасны, узняты.
Вілія! На залатыя плёсы
Кінула ты ручаіны-косы.
З Замкавай гары відаць далёка!
Вуліцы, завулачкі навокал.
Ў цэнтры — ў неба ўбіліся гмахі,
Распасцёршы, нібы крыллі, дахі
Ў небе сінім, ясным і прасторным.
А далей, стуліўшыся пакорна,
Паміж дрэў скуколіліся хаты,
А над імі сосны ўверх узняты,
А ля іх кусты густыя бэзу
Веццямі у вокны хатак лезуць.
Костачка прыехала да Ўладзі
У хату гэткую ў цяністым садзе,
Дзе кусты улазілі ў вокны.
Дождж снаваў слюдзяныя валокны,
Восень скінула убор зялёны
З бэзу. Толькі між ствалоў чырвоных
Соснаў, нібы промень лета,
Блукаў клён, у чырвань ўвесь адзеты.
Увайшла. Ў пакоі шмат галовак...
У каго пяро, ў каго аловак,
У каго буквар, у іншых кніжка.
Ўладзя крэйдай словы дзецям піша,
На шырокай школьнай, чорнай дошцы —
Словы белыя на чорнай плошчы.
Уладзя, скончыўшы свае заняткі,

Костачку вядзе ў другую хатку,
Дзе ў яе пакойчык невялічкі.
Пад акном вяргіні, быццам знічкі,
Жоўтыя галоўкі паўзнімалі
І ў акно лагодна заглядалі.
У пакоі столік, крэсла, ложак,
Табурэтка з скрыўленаю ножкай.
На стале — і булка і вяндліна,
Частавала Костачку дзяўчына,
Прынімала як сястру, як друга,
Ўладзя новую сваю падругу.
А назаўтра — трэба йсці у людзі,
Дзе ёй праца будзе — ці не будзе...
Адчыняе яна скромна дзверы.
Усюды пішуць... Шмат, відаць, паперы,
Шчоты стукаюць... Грымяць машынкі...
Гарманіст так йграе без замінкі,
Як грыміць дзяўчына на клявішах
І, не гледзячы на знакі, піша.
Костачка звяртаецца нясмела
Да начальніцы у блузцы белай,
Што сядзіць у ясным кабінеце.
Цар над ёй і царыцай на партрэце...
Стол вялізны, а на ім убранне,
Аж ідзе з яго у вочы ззянне.
Працаваць? А што яна умее?
Не, у нас няма для вас надзеі,
Спец'ялістаў нам, бывае, трэба...
Што ж, на свеце болей рук, як хлеба...
Костачка ідзе і ног не чуе.
Дзень прайшоў, яна усё вандруе.
Два прайшлі, яна не знойдзе працы,
А навокал гордыя палацы,
Там жывуць другога складу людзі,
Так яна ніколі жыць не будзе.
Выйдзе, толькі слёзы уцірае,
Хто, за што бяздольную карае,
Непатрэбна ты, відаць, нікому —
Так і тут, як там, у родным дому.
Ўладзя дух падтрымлівае ў Косці:
— Ляж! Спачні! — лагодна гэтак просіць
І кладзе яе на ўласным ложку.—
Вось табе кілбаскі з хлебам трошкі,
Зараз будзем смачна мы абедаць...

Ўладзя! Ўладзя! Ці магла ты ведаць,
Як твая любоў, твая спагада
Яе сэрца напаўнялі ладам...
Бо ж вакол была бяда, пустэча.
Да цябе яна ішла штовечар,
Ўся напоўнена тугой балючай,
Так яе людскі той холад мучыў,
Абыякавасць да яе долі.
Ёй не вынесці таго ніколі,
Каб не ты, цудоўная падруга,
Ты адна была ёй ў горы другам.
Мо і доўга б так яшчэ вялося.
Уладзі й тут дапамагаць прыйшлося,
За яе падмогай і парадай
Атрымала Костачка пасаду
Ў вёсцы Чаўшклі, ў беларускай школе.
Ёй нічога і не трэба болей!
Яна зможа быць карыснай людзям!
Як жа працаваць яна там будзе!
Чаўшклі. Вёска, дваццаць хат пад лесам.
Лес густы галінамі навесіў
Чорны цень над хатамі малымі.
Хто яе і як у вёсцы прыме?
Конь маленькі ўвесь ужо у пене.
Ў Костачкі забрызгана адзенне
Глінаю з калёс. Вакол балота.
Ад таго і конь пакрыўся потам.
Чамадан падскоквае у возе,
А вазніца ў яўнае трывозе —
Мост магло даждждом ля вёскі знесці,
А аб'езд — гані яшчэ вёрст дзесяць.
Мост на месцы. Конь паўзе паціху.
Ў вокнах — аганькоў вясёлых ўспыхі.
А яна на холадзе астыла.
Лес шуміць панура і няміла.
Дзесьці брэшуць нехаця сабакі.
А у лужах свецяцца, як макі,
Зоры. Як жа ясна яны свецяць!
Як яе там прымуць, як прывецяць!
Дом чужы сваім ёй будзе домам,
Між людзей чужых і незнаёмых...
З моста конік на узгорак пнецца,
Як жа жыць цяпер ёй давядзецца?
Ой, халодныя на свеце людзі,

Як жа жыцца ёй між імі будзе?
Колькі слёз ёй Вільня каштавала,
Дарма там парогі абівала
Ў пачуцці нялюдскім і ганебным:
Ты нідзе, нікому не патрэбна.
Ўжо па вуліцы гручыць фурманка,
Ўжо вазніца скіраваў да ганка,
Воз накрыла чорным ценем хата
Ад страхі абвіслай і кашлатай.
А яе, «прадстаўніцу навукі»,
Паднімае дзядзька той на рукі,
Як дзіцёнка. З хаты насустрэчу
Цётка: — Вас чакаем цэлы вечар.
Дык заходзьце ж.— Плашч з яе знімае
І пуховай хусткай атуляе:
— Мусіць, змерзлі? Бо ужо не лета,
Ахініцеся хусцінкай гэтай.
І вячэра ўжо у нас гатова...
Костачка сказаць не можа слова,
Ёй так добра, так на сэрцы міла.
Чым яна такое заслужыла,
Што жанчына у вясковай хаце
Падышла к ёй, як сястра, як маці...
У будове, каля хаты новай,
Пах настойны ад смалы сасновай,
Доўгі стол і лаўкі навакола.
Гэта і была у вёсцы школа.
Кожны дзень у школу, на світанку,
Дзеці йдуць, чуць бліснe золак ранку,
Костачка устане — і багата
Ў ёй снядання...
Ёй прыносяць з хаты,
Кожны тыдзень з іншай — пажыўленне.
Каша тут, бліны, тварог, крупеня,
Боршч, бараніна, кусок свініны,
Свежае, гарачае... Данінай
Гэта йшло ёй за яе навуку.
Хлеб запрацаваны! Песні гукам
Ты ўваходзіш ў нізкай хаткі дзверы...
Ці ты чорны, белы альбо шэры,
Ты смачнейшы ад усіх прысмакаў
З ласкі панскай. Зведаў тое ўсякі,
Хто чужы той хлеб быў змушан есці,
Хоць бы ў бацькі, горш яшчэ у цесця,

Горш яшчэ ў чужых, з жабрачай ласкі.
Горкі гэта хлеб, для горла вязкі.
У школу йшлі малыя з букварамі
І старэйшыя — яны ўжо самі
Па-славянску псалтыры чыталі.
Іншыя ўжо граматна пісалі.
Костачка усіх іх рассадзіла,
На тры аддзяленні падзяліла —
І вучыла, душу ўклаўшы ў гэта,
З нейкім ўзнёслым, радасным імпэтам.
А штовечар ў школу йдуць сяляне.
І у кожнага з іх шмат пытанняў.
Костачка чытае ім газеты,
Ёй хапае часу і на гэта.
З кніжак запазычаныя веды
Дазваляюць ёй вясці бяседы
Аб усім амаль, што іх цікавіць.
І дзяўчыну ўжо па вёсцы славяць:
— Добрая яна, ва ўсім паможа!
Дай здароўя ёй, ласкавы Божа...
Першы дзень смяяліся у школе:
— Ой, настаўніца! Ды дай ёй волю,
Яна ж лялькамі іграцца будзе.
Бо ж малая... Гляньце толькі, людзі!
Вучыць хоча — а сама малая...
А урок прайшоў, малышка тая
Правяла яго спакойна, строга.
Хоць і страх таміў яе, нябогу,
Але, практыку прайшоўшы дома,—
Разгубіцца не магла, вядома.
Ну а потым, усё пайшло як трэба:
Вочы дзетак, сінія, як неба,
Шэрыя, як змрок ці цемень ночы,
Пазіралі ёй напружна ў вочы,
Калі кнігі ім яна чытала
Ці расказвала пра што, бывала.
Год прайшоў, і пачаліся беды:
Прыстаў пра настаўніцу праведаў,
І аб тым, што вучаць там па-руску,
І яшчэ прытым па-беларуску.
Ён прыехаў на урок у школу:
— А чаму тут сцены у вас голы
І няма вялічаства партрэта?
Ў рускай школе вельмі дрэнна гэта...

